ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

# ЛіМ ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

30 верасня 1994 г. № 39 (3761) Кошт 25 руб.

## ПРЭСА, ЭФІР, МОВА

***Леанід ЛЫЧ: «Чым хутчэй мы пераадолеем свой беларускамоўны нігілізм, тым хутчэй станем цывілізаванай нацыяй, здабудзем аўтарытэт, а разам з ім і павагу ў свеце. Таму неабходна як мага хутчэй пакласці канец усялякага роду квазінавуковым публікацыям — і зноў-такі часцей за ўсё ў рускіх газетах — аб нібыта не самабытным характары беларускай мовы, што яна з'яўляецца нейкім прыдаткам, дыялектам рускай ці польскай. Прынцып павінен быць такі: пра беларускую мову альбо нічога, альбо толькі ў станоўчым плане».***

**5, 12**

## НОВАЯ МАРГІНАЛЬНАЯ БЕЛАРУШЧЫНА

***Людміла КОРАНЬ: «Сёння, у сапраўды постмадэрнісцкай сітуацыі, беларускі дух мусіць выконваць задачу нацыянальнага адраджэння. Задача ж гэтая — архаічная, яна з часоў таго Вялікага Рамантызму, які ў цывілізаваным свеце даўно мінуўся. І трэба мець талент сапраўды выбітны, каб даць сучасны голас той гістарычнай песні, якую лёс не судзіў даспяваць Беларусі ў свой час».***

**6—7**

## ВІШНЁВЫ САД

***Апавяданне Галіны БАГДАНАВАЙ.***

**9**

## ДОМ НА ГАНДЛЁВАЙ, 27

***Міхась ЗАМСКІ пра адну судовую справу.***

**13—14**



***Восень у рэпінскім Здраўневе пад Віцебскам.***

*Фота А.МАЦЮША*

# ЛіМ КОЛА ДЗЁН

***Нягледзячы на размовы пра «воссоединение», дзяржавы Беларусь і Расія паступова аддаляюцца адна ад адной. Кожная жыве сваім, адметным жыццём. На мінулым тыдні ў прэсе і эфіры Беларусі самым папулярным было студэнцкае слова «сесія», у Расіі ж часцей гучаў іншы тэрмін — «візіт». Па вялікім рахунку, расійцаў мала цікавіла, што робіцца на нашай сесіі, а беларусаў — як праходзіць візіт іхняга прэзідэнта ў ЗША. Добра было б, каб гэтае кволае назіранне спраўдзілася, каб мы і сапраўды засяродзіліся на вырашэнні сваіх праблем. Бо ніхто, акрамя нас саміх, іх не вырашыць. Бедных «сваякоў» не любіць ні Захад, ні Усход.***

## ПРЫЗНАННЕ ТЫДНЯ

Станіслаў Багданкевіч пацвердзіў на сустрэчы з журналістамі, што ў лёхах Нацыянальнага банка сапраўды захоўваюцца надрукаваныя ў Нямеччыне новыя грошы — «беларускія рублі» (ці — «рубелі»?). Праўда, перспектывы ўвядзення ў Беларусі нацыянальнай валюты даволі цьмяныя. Дзеля гэтага, па словах Багданкевіча, трэба найперш прыпыніць інфляцыю і дамагчыся таго, каб яна склала менш за 7 працэнтаў у месяц. Інакш новыя грошы будзе чакаць лёс «зайчыкаў». Прыблізна гэта ж сказаў у сваім інтэрв'ю «Рэспубліцы» (ці — «Республике»?) і прэм'ер-міністр Беларусі М. Чыгір. Добра ўжо тое, што сённяшнія ўлады катэгарычна не адмаўляюць магчымасць увядзення нацыянальнай валюты. Можа, нарэшце, яны пагодзяцца і з наступным: стабілізаваць эканоміку без увядзення цвёрдай, абароненай, канверсуемай валюты, у якую павераць людзі, — немагчыма.

## НАВІНА ТЫДНЯ

«Працоўную дзейнасць» былы прэм'ер-міністр Беларусі, яшчэ не пенсіянер, В. Кебіч працягне на новай адказнай пасадзе: у гэты панядзелак ён пачаў выконваць абавязкі прэзідэнта гандлёва-фінансавага саюза. Кім прызначаны ён на гэтую пасаду — не паведамляецца. Задача новага прэзідэнта — «садзейнічаць прамысловым прадпрыемствам Беларусі па ўмацаванні іх эканамічных сувязей з прадпрыемствамі іншых краін СНД, найперш Расіі». Паведамляецца таксама, што ў склад беларускага гандлёва-фінансавага саюза ўваходзіць 47 дзяржаўных прадпрыемстваў, некалькі банкаў, а таксама... расійскі ГФС, як калектыўны член. Ніхто, пэўна, не сумняваўся ў тым, што Вячаслаў Францавіч без працы не застанецца, хоць многія, вельмі многія верылі, што, стаўшы прэзідэнтам, Лукашэнка першай справай папросіць яго канкрэтна адказаць на тыя занадта «асабістыя» пытанні, на якія Кебіч не адказаў падчас перадвыбарчых дэбатаў.

## ЦЫТАТА ТЫДНЯ

«На мой погляд, чаканне таго, што аб'яднанне грашовых сістэм Беларусі і Расіі прынясе абедзвюм краінам росквіт, памылковае. Думаю, што лепш для ўсіх рэспублік былога Савецкага Саюза мець уласную канверсуемую валюту. Нерэальна чакаць, што адна краіна возьме на сябе адказнасць за валютную сістэму другой краіны. Вельмі дорага будзе каштаваць для Расіі такая дабрачыннасць. Гэткі крок можа нанесці шкоду расійскай эканоміцы. Памылка некаторых лідэраў Беларусі ў іх упэўненасці, што простае аб'яднанне з Расіяй адновіць эканоміку рэспублікі. Праблема ў тым, што Мінск вельмі пасіўны ў правядзенні рэформ».

*(Джэфры САКС, вядомы гарвардскі прафесар-эканаміст, «Народная газета», 28 верасня г. г.).*

## СПРАВА ТЫДНЯ

На мінулым тыдні пра сваё існаванне нарэшце заявіў Канстытуцыйны суд. Па ўласнай ініцыятыве ён узбудзіў справу «Аб адпаведнасці Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь норм Кодэкса законаў аб працы, якія прадугледжваюць магчымасць скасавання працоўнага дагавора ў сувязі з дасягненнем работнікам пенсійнага ўзросту». У пятніцу Канстытуцыйны суд разгледзеў гэтую справу і вынес свой вердыкт: з 23 верасня 1994 года ў Беларусі ніхто не можа звольніць з працы чалавека толькі за тое, што ён стаў пенсіянерам... Такім чынам, правы ветэранаў працы бліскуча абаронены. Як лёгка быць добранькім за дзяржаўны кошт...

## «ПАЛЕМІКА» ТЫДНЯ

У межах плюралізму «Народная газета» перад публікацыяй артыкула народнага дэпутата Беларусі С. Навумчыка «Старыя метады «новых кадраў» пазнаёміла з ім галоўных герояў публікацыі і дала магчымасць ім паралельна выказацца. На жаль, дыскусіі, а тым больш палемікі не атрымалася. Бо апраўданні (а менавіта такімі падаюцца адказы С. Навумчыку) шаноўных міністра культуры і друку А. Бутэвіча, старшыні Нацыянальнай дзяржтэлерадыёкампаніі Р. Кісяля і ягонага намесніка У. Ядранцава нічога не дадалі да артыкула, сітуацыю не прасвятлілі і толькі падмацавалі думку, што «новыя кадры» працуюць старымі метадамі. Пацвярджэнне гэтага — трансляцыя па БТ справаздач з сесіі ВС: колькі б ні спрачаліся дэпутаты, замест гадзіны рэпартаж ідзе 15—20 хвілін, «Рознае» зведзена да пераказу дыктарам таго, пра што гаварылі дэпутаты, затое любая рэпліка прэзідэнта гучыць цалкам.

## «ЛІЧБА» ТЫДНЯ

«Хто плаціць, той і заказвае музыку» — гэтая народная мудрасць прыгадалася пасля знаёмства з вынікамі апытання, праведзенага службай «Общественное мнение» па просьбе газеты «Советская Белоруссия». Згодна апытанню, «СБ» чытаюць 73,3 працэнта насельніцтва рэспублікі. Просты падлік паказвае, што, паводле накладу, кожны нумар «СБ» павінна «прачытаць і перадаць другому» не менш за дзесяць жыхароў Беларусі... Дзеля чаго ж праведзена гэтае даследаванне (дарэчы, «в соответствии с международными канонами» і «методом случайного отбора»)? Сваю мэту журналісты «СБ» тлумачаць для асабліва «непанятлівых» у прэамбуле да вынікаў апытання: «Мы надеемся, что администрация президента и законодатели учтут их (вынікі апытання. — Рэд.) при утверждении окончательной концепции развития средств массовой информации». Маўляў, думай, прэзідэнт, што рабіць з гэтакай уплывовай і патрэбнай народу газетай, якая, дарэчы, з'ядае бюджэтных сродкаў амаль столькі ж, колькі ўвесь беларускамоўны друк разам узяты.

## АБМЕЖАВАННЕ ТЫДНЯ

Прэм'ер-міністр Беларусі М. Чыгір падпісаў пастанову, што рэгламентуе парадак фінансавання афіцыйных прыёмаў. Цяпер затраты на адну запрошаную асобу не павінны перавышаць пяць мінімальных заробкаў (гэта — месячны заробак карэспандэнта «ЛіМа»), а колькасць прысутных з прымаючага боку («халявы») — не павінна перавышаць колькасць гасцей.

## НОВАЎТВАРЭННЕ ТЫДНЯ

Пакуль улады Беларусі займаюцца пошукамі беларускага нацыяналізму, забараняюць патрыятычныя арганізацыі і правядзенне свят, рознага роду прарасійскія шавіністычныя арганізацыі квітнеюць і пашыраюцца. Днямі на Беларусі створаны саюз моладзі «Славянскія сокалы» (і што гэта нашых «старэйшых братоў» так цягне да абрэвіятуры «СС»?). Сузаснавальнікамі новага «СС» сталі СС «Белая Русь», саюз арміі і народа, ліберальна-дэмакратычная партыя (Жырыноўскі і ягоныя «сокалы»)... Мэты саюза моладзі «СС» тыя ж — наданне рускай мове на Беларусі дзяржаўнага статуса і добраахвотнае (так і хочацца ўзяць гэтае слова ў двукоссе) аб'яднанне народаў Расіі, Украіны і Беларусі. Спадзяёмся, абаронца Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь — Канстытуцыйны суд у рэшце рэшт зацікавіцца, наколькі канстытуцыйная дзейнасць гэтай і падобных ёй арганізацый на Беларусі.

# «ГЭТА ТОЛЬКІ ПАЧАТАК КАНФРАНТАЦЫІ?..»

## ПАЧАЛА ПРАЦУ XVI СЕСІЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Апошні раз мне давялося бачыць гэты высокі сход у час інаўгурацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі, і ўсё, што адбывалася тады ў Авальнай зале, пакінула дваістае ўражанне. З аднаго боку, уразіла ўрачыстасць моманту — усё-такі прысягаў на вернасць народу першы ў гісторыі краіны прэзідэнт. Што ні кажы, а падзея гістарычная. У той жа час нельга было не заўважыць, што немалая частка дэпутацкага корпусу знаходзілася ў стане, блізкім да шокавага. І гэта таксама было ўвогуле зразумела — пераважная большасць нардэпаў паставіла ў прэзідэнцкай гонцы на В. Кебіча і была яго ўнушальным паражэннем дэмаралізавана. Відаць, гэтай акалічнасцю і можна вытлумачыць адносную лёгкасць, з якой прэзідэнту ўдалося атрымаць падтрымку Вярхоўнага Савета пры фарміраванні новага Кабінета міністраў, у які ўвайшлі многія члены яго каманды. Адыграліся дэпутаты толькі на адным з бліжэйшых паплечнікаў прэзідэнта — Д. Булахаве, кандыдатуру якога на пасаду старшыні Канстытуцыйнага суда яны пракацілі.

Усё гэта адразу ўспомнілася ў першы дзень працы чарговай XVI сесіі Вярхоўнага Савета. Як павядуць сябе дэпутаты цяпер, ці будуць шукаць згоды з прэзідэнтам, з новым урадам або, наадварот, стануць на шлях канфрантацыі з імі? На жаль, ужо праз гадзіну стала відавочным, што ў зале пераважаюць настроі, якія лаяльнымі да прэзідэнцкай улады назваць цяжка. Вядома, хапала і дэпутатаў, якія, як і раней, дэманстравалі поўную апатыю да ўсяго, што адбывалася ў зале, але затое актыўнасць асобных дэпутатаў, іх чэргі ля мікрафонаў прымусілі пераканацца ў тым, што А. Лукашэнку давядзецца сустрэцца ў парламенце з жорсткай, можна нават сказаць, непрымірымай апазіцыяй з боку, даруйце за таўталогію, апазіцыі БНФ і часткі дэпутатаў, якія яе падтрымліваюць. Магчыма, па задуме апанентаў прэзідэнта, гэта была толькі разведка боем, але напал многіх выступленняў сведчыў аб сур'ёзных намерах у першы ж дзень работы сесіі перахапіць у прэзідэнта і ягонай каманды, уключаючы Кабінет міністраў, ініцыятыву, блакіраваць усе іх прапановы і наогул зрабіць так, каб Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка адчуваў сябе ў парламенце, як на гарачай патэльні.

Адсюль і прапанова лідэра апазіцыі Зянона Пазняка прыняць на гэтай сесіі закон аб прэзідэнце, які, на думку прамоўцы, ужо неаднойчы парушаў Канстытуцыю, у прыватнасці, самім фактам стварэння сваёй адміністрацыі, не прадугледжанай ніякімі заканадаўчымі актамі. Адсюль і прагучаўшая пагроза амаль ужо прафесійнага выкрывальніка ў сценах парламента нардэпа С. Антончыка «выступіць на сесіі з дакладам аб карумпаванасці прэзідэнцкага асяродка». На надта выбіраў словы ў папроках прэзідэнта адзін з актыўнейшых дзеячаў апазіцыі А. Голубеў.

Але, дзеля справядлівасці, нельга не сказаць і таго, што некаторыя пасажы, якія гучалі з процілеглага боку, таксама, «паветра не азанíравалі», шакіравалі сваёй прэтэнцыёзнасцю, непрыхаваным імкненнем прынізіць ролю Вярхоўнага Савета.

Нечакана вострая спрэчка ўзнікла вакол прапанаванага парламенцкай Камісіяй па галоснасці і правах чалавека парадку асвятлення работы сесіі ў сродках масавай інфармацыі. Як вядома, у часе работы мінулых сесій (гэта ўжо стала амаль традыцыяй) па радыё, у прамым эфіры, цалкам трасліраваліся ўсе выступленні ў «Розным», у тым ліку, вядома, і дэпутацкія запыты. На гэты раз камісія, кіруючыся невядома якімі меркаваннямі, вырашыла раздзел «Рознае» з прамой трансляцыі выключыць. «Навацыя» гэтая многімі дэпутатамі была ўспрынята, як спроба «заткнуць ім раты», пазбавіць адзінай трыбуны, з якой дэпутаты-дэмакраты могуць звяртацца да народа. Не ўсё ў гэтых сцвярджэннях адпавядала ісціне, не сакрэт, што многія выступленні ў «Розным» насілі, кажучы па-руску, «сиюминутный» характар, вызначаліся драбнатэм'ем, і, тым не менш, усё гэта не з'ўлялася падставай для скасавання радыётрансляцыі з «Рознага». Масла ў агонь падліў сам прэзідэнт, які, узяўшы слова, не знайшоў нічога лепшага, як папярэдзіць дэпутатаў, што не пацерпіць іх умяшання ў дзейнасць тэлерадыёкампаніі, якая з'яўляецца дзяржаўнай структурай і поўнасцю падначалена яму, прэзідэнту, як кіраўніку выканаўчай улады. Гэтую заяву А. Лукашэнкі многія дэпутаты расцанілі, і, заўважым, небеспадстаўна, як замах на свабоду слова, спробу ўвесці цэнзуру і г. д.

Як спробу звузіць, а то і наогул адсячы некаторыя функцыі Вярхоўнага Савета было ўспрынята прэзідэнцкае пасланне парламенту, у якім яму рэкамендавалася зняць з абмеркавання некаторыя пытанні, уключаныя ў парадак дня сесіі. Сярод іх такія, як прыняцце законаў аб спажывецкай кааперацыі, бухгалтарскім уліку, аб архівах і архіўнай справе, аб жыллёвым кодэксе і некаторыя іншыя. Матывы гэтага, магчыма, былі ў некаторай ступені слушнымі (законапраекты яшчэ «сырыя», новы ўрад павінен выпрацаваць свае падыходы да гэтых праблем, каб прынятыя пасля прэзідэнцкія ўказы насілі канкрэтны характар), але былі выказаны, як справядліва заўважыў дэпутат У. Грыбанаў, у зняважлівай у адносінах да дэпутатаў форме. У рэшце рэшт, Вярхоўны Савет, паводле Канстытуцыі, сам вырашае, якія пытанні знаходзяцца ў яго кампетэнцыі. «Гэта толькі пачатак канфрантацыі», — са скрухай падсумаваў прамоўца ўсё, што адбывалася ў гэты дзень у Авальнай зале, і заклікаў калег, прэзідэнцкі бок не паддавацца эмоцыям, шукаць шляхі да згоды...

Вось такое ўражанне ад пачатку работы сесіі. Нічога суцяшальнага, тым больш, калі ў вушах гучаць лічбы, прыведзеныя Старшынёй Вярхоўнага Савета М. Грыбам у яго ўступным слове — за 9 месяцаў гэтага года нацыянальны даход у рэспубліцы ў параўнанні за адпаведным перыядам мінулага года знізіўся на 27 працэнтаў, цэны на харчовыя і прамысловыя тавары, а таксама на паслугі насельніцтву ўзраслі ў 24,8 раза.

Вярхоўны Савет павінен абмеркаваць прэзідэнцкую праграму вываду краіны з эканамічнага крызісу. Будзем спадзявацца, што яна ўселіць у нас хоць якую-небудзь надзею на лепшае.

**М. ЗАМСКІ**

*Адгалоскі*

# ВЫШУК ПРАЦЯГВАЕЦЦА?

Штотыднёвік «7 дней» борздзенька адгукнуўся на факт узнагароды Міколы Чаргінца прэміяй Міжнароднай асацыяцыі пісьменнікаў-марыністаў і баталістаў за 1994 г. (Гэта экзатычная арганізацыя створана, заўважце, пры былым Саюзе пісьменнікаў былога СССР). Прафесійная завядзёнка лаўрэата як міліцыянера-практыка знайшла сваё праяўленне ўжо ў загалоўку артыкула: «Не могу идти против совести». Вінаваўца ўзнагароды на старонках штотыднёвіка выступіў у якасці сябра пісьменніцкай арганізацыі Беларусі і старшыні камітэта па сацыяльнай абароне вайскоўцаў.

Інтэрв'ю, як і ўсё метафізічнае, пачынаецца са Слова. У дадзеным выпадку — беларускага. На пытанне даць адзнаку прайшоўшага з'езда пісьменнікаў сп. Чаргінец канстатуе: «групповщина, противостояние». Водападзелам, як вынікае з яго адказаў, з'яўляюцца адносіны пісьменнікаў да беларускай мовы. Адны, па яго меркаванню, за «язык», другія, «к их числу я отношу себя, не против языка». Менавіта другія нібыта сімвалізуюць прагматызм і рэалізм у моўным пытанні і папярэджваюць, што «заговорить по-белорусски — не щелкнуть выключателем».

З пазіцыі вобразнага выключальніка літаратар з генеральскімі зоркамі выказвае нязгоду з «принуждением», прадбачыць «несогласие, противостояние». Пра які прымус можа весці гаворку, паважаны творца? У дачыненні да каго? Да тых дзетак-першакласнікаў, якія толькі другі год як атрымалі магчымасць вучыцца па-беларуску? Да іх бацькоў? Да самога сп. Чаргінца, які нарадзіўся ў даваенным Мінску і ўзгадоўваўся яшчэ ў пасляваеннай хатне-вулічнай беларускамоўнай стыхіі, але быў пазбаўлены магчымасці стаць «паўнавартым беларусам» у школе ды інстытуце? Каб аўтар дзесятка дэтэктываў, ставячы пытанне, хто вінаваты ў становішчы беларускай мовы, спрабаваў даць адказ з пазіцыі незалежнай суверэннай Беларусі, то ён не спрошчваў бы складанасць гэтай праблемы. Не ўзнікала б тады ў яго жадання вульгарызацыі сферы ўжывання мовы, якая зводзіцца ім да тэлевіктарын, конкурсаў, спартыўных перадач. Гэтае намі ўжо пройдзена. Два-тры тэатры з акалечанай сцэнічнай мовай, лісток непрацаздольнасці ды цэтлікі аб выплаце падаткаў па-беларуску.

Сімбіёз уражлівага славесніка і прафесійнага прафілактыка злачынстваў паспрыялі, мусіць, сп. Чаргінцу адкрыць новы зрэз у поглядзе на беларускую мову. Усё тлумачыцца вельмі проста. Першапрычына — у пісьменніцкай браціі. Гэта яна ініцыіруе завастрэнне моўнага пытання. Адны з іх робяць гэта з меркантыльных памкненняў, каб прыкрыць сваю бяздарнасць спасылкамі на няведанне народам роднае мовы. Другія, хоць крыху і таленавітыя, але вельмі амбіцыйныя і спалітызаваныя, таксама спрыяюць гэтаму.

Прысарамаціўшы нацыянальных хціўцаў і прыглушыўшы сваю сціпласць інтэрнацыяналіста, шматвопытны лаўрэат у якасці ўзору для пераймання ставіць сваё пісьменніцкапладавітае «Я». Перакладзены па-беларуску, як ён адзначыў, яго дэтэктыў «В тихом переулке» знік з гандлёвых паліц у імгненне вока. Во як трэба пісаць! Адчуваеце, што значыць тварыць на «великом и могучем»! Пры гэтым сп. Чаргінец тактычна замоўчвае, што ў сваёй творчасці ён усяго толькі далучэнец да мовы суседняга народа і наўрад ці што прыўнёс у рускае красамоўства, а з'яўляецца шараговым трубадурам выкарыстання рускага слова, як эфектыўнага сродку экспансіі на іншаславянскія землі. Любому разумнаму чалавеку ясна, што заляжаласць беларускай літаратуры — вынік не столькі творчы, колькі — і ў большай ступені — палітычны.

Цяжка нават уявіць сабе, каб, не дай Бог, усе беларускія літаратары ўзгадоўваліся і пісалі на «правильном языке». Тады не існавала б і самой дзяржавы, імя якой Беларусь.

**Мікола АНЦЫПОВІЧ**

# ЯШЧЭ РАЗ ПРА ПОМНІК НА ВЫСПЕ

## АДКРЫТЫ ЛІСТ

***Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь сп. Лукашэнку А. Р.***
***Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па культуры, адукацыі і захаванні нацыянальнай спадчыны***
***Менскаму гарадскому Савету***
***Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь***

З часу анексіі Беларусі ў канцы XVIII ст. беларускія юнакі рэгулярна выкарыстоўваліся ў якасці гарматнага мяса ва ўсіх заваёўніцкіх войнах Расіі.

Вайсковыя авантуры царызму — так званыя «кампаніі» каўказскія, балканскія, маньчжурскія, японскія, першая сусветная вайна, забралі многія тысячы жыццяў беларусаў, і шлях Расіі да сусветнай імперыі быў высланы і беларускімі касцьмі. Пераняўшы імперскія традыцыі, такую ж агрэсіўную палітыку ажыццяўляў і крамлёўскі бальшавіцкі рэжым. І зноў беларусы гінулі за тысячы вёрстаў ад Бацькаўшчыны за чужыя інтарэсы ў Фінляндыі, Карэі, Венгрыі, Чэхаславакіі, Егіпце, Сірыі, ды іншых кутках свету. Злачыннай і ганебнай была апошняя агрэсіўная вайна супраць афганскага народа, якая забрала сотні маладых жыццяў нашых суродзічаў, прынесла гора ў тысячы беларускіх сем'яў, пакалечыла фізічна і духоўна яшчэ больш маладых лёсаў, што наклала адбітак на цэлае пакаленне беларусаў.

Гэтая трагедыя мае і другі бок — боль і бяду афганскага народа, які стаў ахвярай агрэсіі, зведаў нязмерныя пакуты, згубіў незлічоныя мільёны чалавечых жыццяў, у тым ліку мірнага насельніцтва. Гора мацярок Афганістана, Беларусі, Украіны, Расіі, Таджыкістана, ды іншых народаў, сыны якіх загінулі ў гэтай вайне, аднаго вымярэння, толькі з той розніцай, што сыны Афганістана баранілі сваю краіну ад няпрошаных гасцей. Праўду пра афганскую вайну сталі пісаць і гаварыць нядаўна. Вялікі ўклад у праўдзівае асвятленне падзеяў у Афганістане ўнесла пісьменніца, мужная жанчына Святлана Алексіевіч сваёй кнігай «Цынкавыя хлопчыкі». Аднак і сёння далёка не ўсе прыйшлі да ўсведамлення ганебнасці гэтай вайны, віны камуністычнага рэжыму перад сіротамі, удовамі і няшчаснымі мацяркамі. Многія беларускія радыё- і тэлеперадачы, публікацыі ў беларускай прэсе прасякнуты традыцыйным імперскім духам, ім бракуе рэалізму ў ацэнцы ролі гэтай вайны для Беларусі. Тут па-ранейшаму «афганцамі» і інтэрнацыяналістамі называюцца вайскоўцы, якія нібыта выконвалі «інтэрнацыянальны абавязак»... Пэўныя сілы з пачатку афганскай вайны імкнуліся выкарыстоўваць вайскоўцаў, удзельнікаў гэтай вайны, у сваіх брудных мэтах: памятныя падзеі 1986 г. у Траецкім прадмесці Менска, калі іх падрыхтавалі і скіравалі на пагром беларускіх навучэнцаў са школы мастацтваў. Цяпер жа выкарыстоўваюць некаторых мацярок палеглых вайскоўцаў супраць пісьменніцы С.Алексіевіч і яе кнігі. Больш таго, справакавалі нават прыцягненне пісьменніцы да судовага разбіральніцтва! За што?! Вось дзе крыецца ўся крывадушнасць сённяшняга камуністычнага кіраўніцтва і ягонай паслухмянай Феміды! Няхай бы беларуская Феміда хоць бы назвала тых сакратароў ЦК КПБ, кіраўнікоў БССР і генералаў БВА (у тым ліку і жывых), якія так паслухмяна і спрытна выконвалі ўсе крамлёўскія загады, на сумленні якіх жыцці беларускіх хлопцаў.

Бацькам загінуўшых яшчэ ёсць з каго спытаць за сваё гора і бяду. Але бясспрэчна адно. Нягледзячы на амаральнасць і злачыннасць гэтай вайны, злачыннасць тых, хто пасылаў беларускіх хлопцаў паміраць ні за што ў чужой далёкай краіне, саміх вайскоўцаў нельга вінаваціць. Памяць ахвяраў авантурнай палітыкі павінна быць ушанаваная. Маці, жонкі, дзеці, якія ні за што страцілі сваіх сыноў, мужоў і бацькоў, павінны быць сацыяльна забяспечаныя дзяржавай. Ветэраны-інваліды афганскай вайны таксама павінны мець надзейную сацыяльную і медыцынскую абароненасць. Грамадства з дзяржавай павінны спрыяць сацыяльнай адаптацыі і псіхалагічнай гуманізацыі ветэранаў, а ўжо гэта трэба ажыццяўляць супольнымі намаганнямі.

Пэўна ж, не знойдзецца ў нашай краіне чалавека, які б быў супраць узвядзення помніка ахвярам афганскай вайны. Менавіта ахвярам, а не героям-інтэрнацыяналістам. І самым мэтазгодным і натуральным было б ушанаваць іх памяць у месцах, дзе захаваныя іхнія рэшткі, найперш на Чыжоўскіх могілках.

Але мацяркі і ветэраны афганскай вайны апрыёрна адвяргалі ўсе прапанаваныя ім для ўзвядзення помніка месцы. Яны ўпадабалі невялікую штучную выспу на рацэ Свіслач паміж Траецкім прадмесцем і менскім замчышчам XI ст.

Статут гэтай тэрыторыі Менска асаблівы, тут пачатак гісторыі сталіцы нашай дзяржавы, вытокі нашае цывілізацыі: амаль тысячу гадоў таму нашыя продкі заклалі драўляныя палі менскага гарадзішча, збудавалі магутны замак, а ў XV—XVII стст. вышэй на гары збудавалі мураваны Верхні горад. Усе гэтыя мясціны ўваходзяць у ахоўную дзяржаўную гістарычную зону горада. Распрацаваны праект рэканструкцыі, рэстаўрацыі Верхняга горада і элементаў замчышча, у тым ліку царквы XII ст., падмуркі якой захаваліся. Узвядзенне ў гэтай зоне новага сучаснага аб'екта, помніка, не звязанага з эпохаю, неадпаведнага гістарычнаму часу, — недапушчальнае.

На жаль, ніякія аргументы навуковага, гістарычнага, горадабудаўнічага, эстэтычнага, урэшце маральна-этычнага і псіхалагічнага кшталту супраць узвядзення помніка ў гэтым месцы не ўздзейнічалі.

У гэтай далікатнай сітуацыі, звязанай з памяццю пра палеглых, перад, трэба сказаць, агрэсіўным напорам з празмернай эксплуатацыяй святых чалавечых пачуццяў капітулявалі і органы аховы помнікаў гісторыі і Міністэрства культуры, і Галоўнае горадабудаўнічае ўпраўленне, і Гарвыканкам, у выніку чаго быў дадзены дазвол на ўзвядзенне помніка на выспе, хоць усе згаданыя арганізацыі і лічаць гэтае месца непрымальным для яго пабудовы.

Фактычна без удзелу спецыялістаў і шырокай грамадскасці быў прыняты для рэалізацыі і праект самога помніка, выкананы скульптарамі з Украіны. Праект, на жаль, надзелены ўсімі характэрнымі рысамі афіцыёзных мемарыялаў нядаўняга часу — прэтэнцыёзнасцю, псеўдаманументальнасцю, мастацкім шаблонам. Тут і імітацыя ў натуральную велічыню праваслаўнай расійскай капліцы, і некалькі чатырохметровай вышыні бетонных скульптурных групаў і дубовая (?) алея памяці, і каменныя памінальныя сталы. І ўся гэтая эклектыка — на забетанаванай пляцоўцы маленькай штучнай выспы, у яўнай немаштабнасці і дысанансе з агульнай горадабудаўнічай сітуацыяй.

Няма сумнення, што спроба збудаваць помнік ахвярам афганскай вайны ў гістарычным цэнтры беларускай сталіцы — гэта відавочная авантура, якая ставарае палітычныя і маральныя праблемы ў грамадстве. Нельга, каб такое сур'ёзнае пытанне вырашалася на ўзроўні волевыяўлення і эмацыянальнага жадання невялікай групы людзей і навязвання іх выбару ўсяму беларускаму грамадству. Няўжо нельга добрую справу зрабіць па-людску — з розумам і без канфлікту. Патрэбна сур'ёзная комплексная (гістарычная, горадабудаўнічая, прафесійна-мастацкая, мастацтвазнаўчая) экспертыза праекта спецыялістаў з удзелам аўтарытэтных прадстаўнікоў грамадскасці, якая б вызначыла месца размяшчэння помніка і вырашыла іншыя ўзнікшыя праблемы. Нашае грамадства, якое ў гады панавання камуністычнай дыктатуры так самаададана і ахвярна змагалася за захаванне гістарычнай спадчыны сталіцы і ўсяе краіны, у час, калі Беларусь аднаўляе незалежнасць і будуе сваю дзяржаву, павінна абараніць гістарычную спадчыну ад недарэчнага ўмяшальніцтва.

Сёння, калі не зважаючы на пярэчанні і пратэсты грамадскасці, на выспе пачынаюцца работы па будаўніцтве помніка, мы, дзеячы культуры і навукі Беларусі, патрабуем ад кіраўніцтва горада і краіны спыніць будаўніцтва помніка ахвярам афганскай вайны ў гістарычным цэнтры беларускай сталіцы. Мы заклікаем улады краіны не дапусціць грубай памылкі, якую праз нейкі час усё ж давядзецца выпраўляць, што прынясе непатрэбныя маральныя страты і боль грамадству.

**Э. АГУНОВІЧ — лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь; Л. АКАЛОВІЧ — намеснік старшыні Згуртавання беларускае шляхты; В. АСТАШЫНСКІ — кандыдат фізіка-матэматычных навук, вядучы навуковы супрацоўнік ІМАФ АНБ; Р. БАРАДУЛІН — народны паэт Беларусі; А. ГРЫЦКЕВІЧ — доктар гістарычных навук, прафесар; С. ГАРБУНОВА — скульптар; Л. ДЗЯПЛЕЎ — прарэктар Беларускай акадэміі мастацтваў; П. ДРАЧОЎ — мастацкі рэдактар «Беларускага гістарычнага часопіса»; М. ЗАХАРЭВІЧ — народная артыстка Беларусі; В. ЗУЁНАК — старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі; М. КУПАВА — намеснік дырэктара Мінскага мастацкага вучылішча; В. КАВАЛЕНКА — дырэктар Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АНБ; В. КАСЦЮЧЭНКА — мастак; В. КОЎТУН — пісьменніца; Г. КРЫВАБЛОЦКАЯ — мастачка; Л. КАЗЛОЎ — старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі РБ; А. МАРАЧКІН — дацэнт Беларускай акадэміі мастацтваў; В. МАЗЫНСКІ — мастацкі кіраўнік тэатра «Вольная сцэна»; М. МУШЫНСКІ — член-карэспандэнт АН Беларусі; Л. РАМАНОЎСКІ — мастак; М. САВІЦКІ — прафесар Беларускага эканамічнага універсітэта; З. САНЬКО — вядучы спецыяліст выдавецтва «Навука і тэхніка»; І. САВІК — дацэнт Беларускага універсітэта культуры; В. СВЕНТАХОЎСКАЯ — мастак; У. СЛАБОДЧЫКАЎ — скульптар, загадчык кафедры скульптуры Беларускай акадэміі мастацтваў; С. ТАРАСАЎ — кандыдат гістарычных навук; С. ЦІМОХАЎ — мастак; В. ШМАТАЎ — доктар мастацтвазнаўства; Г. ШТЫХАЎ — доктар гістарычных навук, прафесар; П. ШАРЫПА — мастак; Т. ВАСЮК — мастак, выкладчык Беларускага універсітэта культуры.**

# «ШКЛЯНКА ВАДЫ» НА АДКРЫЦЦІ СЕЗОНА

Учора адбылося ўрачыстае адкрыццё сезона ў Дзяржаўным тэатры музычнай камедыі Беларусі. Папулярны мастацкі калектыў запрасіў (і сёння запрашае) сваіх шматлікіх прыхільнікаў на прэм'еру: гэта новы мюзікл Уладзіміра Кандрусевіча «Шклянка вады». За пультам — маэстра А. Сасноўскі, рэжысёр-пастаноўшчык Б. Утораў, мастак — Б. Герлаван. У галоўных ролях Н. Гайда, А. Ранцанц ды іншыя любімыя гледачом артысты. Тэатр мае даволі напружаныя творчыя планы на сезон: пастаноўка аднаактовага балета «Дон Кіхот» Л. Мінкуса, узнаўленне аперэты «Вясёлая ўдава» Ф. Легара ў сапраўдным, класічным абліччы, якім было яно пры жыцці аўтара... Словам, не спыняецца праца, плён якой цешыць публіку, дае спажыву крытыкам і складае сэнс жыцця артыстаў...

**Н. К.**

# «БЫЎ ПЕРШЫМ У ЛІТОЎСКАЙ РУСІ...»

## НЕНАВУКОВЫЯ НАТАТКІ

***«Нясвіж як агульнаеўрапейская гісторыка-культурная каштоўнасць» — такую назву меў міжнародны навуковы сімпозіум, праведзены ў гэтым жа горадзе. З дакладамі выступілі ганаровы доктар А. Цеханавецкі (Вялікабрытанія), многія знаныя навукоўцы Польшчы (А. Гейштар, А. Міхайлоўскі, Е. Кавальчык), а з нашага боку — А. Грыцкевіч, Л. Побаль, А. Федарук, В. Шматаў, М. Гурын і многія іншыя. Секцыйная работа вялася па двух напрамках: «Гісторыя Нясвіжа. Радзівілы і Нясвіж» і «Архітэктура і мастацтва Нясвіжа». На адкрыцці прысутнічалі прадстаўнікі пасольстваў Польшчы, Італіі, Расіі, намеснік міністра культуры РП Тадэвуш Поляк. Працавала таксама сумесная беларуска-польская камісія па справах культурнай спадчыны. За «круглым сталом» пры завяршэнні абмеркавалі канцэпцыю Нацыянальнага гісторыка-культурнага запаведніка «Нясвіж», распрацаваную пад кіраўніцтвам намесніка міністра культуры і друку РБ У. Гілепа. Ён жа паспяхова справіўся і з роляй вядучага, а пра мэту міжнароднай культурнай акцыі сказаў так: «Гэта першая спроба аб'яднаць усіх, хто вывучае спадчыну Нясвіжа, звярнуць на яе ўвагу еўрапейскай грамадскасці».***

***Вось, калі коратка, праграма, той стрыжань, на якім трымалася двухдзённая, многімі людзьмі падрыхтаваная дзея, дзе былі свае адкрыцці і правалы, дзе закіпалі страсці і ўспыхвалі непрадбачаныя дыскусіі, дзе, акрамя падзейнай канвы, быў свой эмацыянальны фон.***




## ШТО ЎРАЗІЛА

Прысутнасць нашчадка роду Радзівілаў князя Антонія з жонкай пані Ружай (Вялікабрытанія) і яе брата, князя Паўла Чартарыйскага (Польшча). І калі першыя праз добраахвотнага перакладчыка прафесара Джыма Дзінглі адказвалі на шматлікія пытанні нясвіжцаў і мінчан, то другі як вучоны, спецыяліст па сярэдневечны браў слова на падвядзенні вынікаў. Ён адзначыў тэматычную разнастайнасць дакладаў і выказаў надзею, што аб'яднаныя намаганні будуць мець плён для будучыні Нясвіжа.

Не менш уразіла драматычная гісторыя радзівілаўскага замка, пра якую апавядала кандыдат навук М. Яніцкая. Мы даведаліся, што ўпершыню нясвіжская скарбніца была разрабавана ў 1772 годзе пры другім падзеле Рэчы Паспалітай. Каштоўнасці адправілі ў Пецярбург і Смаленск. 20-тысячны кніжны збор па загадзе Кацярыны II быў перададзены ў бібліятэку Імператарскай акадэміі навук. З нагоды вялікага папаўнення бібліятэкар зрабіў такі цікавенькі запіс: «...полученное библиотекой в 1772 г. другое приращение, о котором никак умолчать не можно, превосходит все прежде помянутые. (...) Дивно, что война наукам везде зловредная, в России им полезна. Она пособием нам служила в начальном еще заведении библиотеки и доставила ей наибольшую часть скопленных ею книг».

1812-ы — год наступнага патрасення для замка і яго жыхароў. Паколькі Дамінік Радзівіл удзельнічаў у вайне на баку Напалеона, то расійскае войска, праследуючы французаў, не прайшло міма казачных багаццяў яго вотчыны. Першымі ўзбагаціліся генералы Кнорынг і Тучкоў. Потым была створана спецыяльная камісія, якая рэквізавала астатняе: замежныя творы жывапісу, рыцарскія даспехі, кубкі з каштоўнага металу, мастацкія тканіны, гадзіннікі, убранства каралеўскага трона, каштоўную зброю і зноў — кнігі. Нумізматычную калекцыю адправілі ў Харкаўскі універсітэт, культавыя рэчы — у Маскоўскі Успенскі сабор. Багацце вывозілася на 13 вазах.

У 1919 годзе прыйшло чырвонае войска, «и завладел историческим замком отряд товарища Солдатова». Пазней частка рэчаў па Рыжскім дагаворы была аддадзена Польшчы як «уласнасць польскіх грамадзян». Марыянетачная рэспубліка БССР прэтэнзій у такіх выпадках не мела.

39-40-я гады завяршыліператварэнне некалі пышнай каралеўскай рэзідэнцыі ў тое, што мы бачым сёння. Беларускі ўрад усё ніяк не мог вырашыць, куды накіраваць рэшткі радзівілаўскай спадчыны. Натуральна, многа што звезена прыватным чынам і страчана назаўсёды.

Перад вайной частку архіва і кнігі перавезлі ў нашу Акадэмію навук. Але, як ні дзіўна, было чым пажывіцца і гітлераўцам. Гаўляйтэр Кубэ спыніў армейскі грабеж і арганізаваў улік і вываз дабра ў Германію. Дык колькі ж яго ў замку было, калі на працягу стагоддзя хапала ўсім, хто сюды ні наязджаў!

Дакументы з дзяржаўнага архіва Вялікага княства Літоўскага, якія там захоўваліся, зараз знаходзяцца ў Санкт-Пецярбурзе, Кракаве, Познані, Рызе, Вільні і іншых гарадах. Гарматы ўпрыгожваюць музеі і плошчы Варшавы, Стакгольма, Вены, Коўна. Большасць каштоўнасцей увогуле не знойдзена, яны ў запасніках чужых музеяў. Вось чаму такой небагатай — пры ўсіх намаганнях — аказалася выстава, адкрытая з нагоды сімпозіума.

Экспазіцыя «Скарбніца Нясвіжа» створана Нацыянальным музеем гісторыі і культуры Беларусі і Аб'яднаннем дзяржаўных літа-

*(Працяг на стар. 4)*

ЛіМ
ЧАСАПІС

## ЗАПРАШАЕ ДОМ ЛІТАРАТАРА

**Кастрычніцкая афіша пазначана шэрагам вечароў, на якіх можна пазнаёміцца з работамі, вылучанымі на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь. 4 і 5 кастрычніка — дэманстрацыя цыкла музычна-этнаграфічных фільмаў па сцэнарыях З. Мажэйкі.**

**11 кастрычніка — прагляд мультфільмаў рэжысёра І. Волчака. 12 кастрычніка ўсе жадаючыя запрашаюцца на знаёмства з цыклам дакументальных і навукова-папулярных фільмаў рэжысёра С. Гайдука. Дакументальныя фільмы рэжысёра М. Ждануўскага будуць паказаны 19 кастрычніка.**

**Аўтарская вечарына А. Вольскага запланавана на 14 кастрычніка.**

**Літаратурнае аб'яднанне «Случ» свой вечар праводзіць 21 кастрычніка.**

**27 кастрычніка — прэм'ера дакументальнага фільма «Ветрык арэляў» (рэжысёр С. Гайдук).**

**28 кастрычніка — вечарына «Сустрэча з нагоды...» Адбудзецца прэзентацыя кнігі паэзіі Г. Булыкі «Турмалін».**

**18, 20, 26 кастрычніка збіраюцца адпаведна секцыі прозы, перакладу, паэзіі.**

## УСЁ ДАЛЕЙ І ДАЛЕЙ...



**Падобна, што даўно ўжо хвалюе гледачоў лёс тэатра-студыі Рыда Таліпава. У верасні — ліст доктара В. Гаркун у рэдакцыю газеты «Культура», потым — ліст В. А. Нікалайчук, інжынера-тэхнолага, «падпісчыцы «ЛіМа» з велізарным стажам», адпаведна, у «ЛіМ»...**

**З Рыдам Таліпавым і ягоным тэатрам-студыяй сталася тое, што і з вамі, і з намі, шаноўныя чытачы-гледачы, магчыма або відавочна станецца ў хуткім часе з бальшынёю прадстаўнікоў мастацтва, бо яно не спрыяе наўпрост павышэнню вытворчасці каўбасы і нізавошта не вытрымлівае гаспадарчага разліку. У Рыда Таліпава і ягонага тэатра-студыі няма сродкаў для існавання. Зусім. Сам Рыд за нядаўнім часам спадзяваўся пратрымацца на ганарары ад спектакля «Стрыптыз» С. Мрожака, пастаўленага ў Інсбрукскім гарадскім тэатры (Аўстрыя). «ЛіМ», дарэчы, пісаў пра гэты спектакль, падаючы водгукі аўстрыйскай прэсы. Ганарараў хапіла ненадоўга. Інсбрук, упадабаўшы спектакль Таліпава, запрасіў рэжысёра папрацаваць над пастаноўкаю рускай класікі («Іванавым» А. Чэхава). Беларускія акцёры, у свой час знойдзеныя і запрошаныя Рыдам для працы ў Мінску, паспяхова, хоць і са скрухаю, разышліся. Хто — у дзяржаўны тэатр, хто — у камерцыю, — па сутнасці, усё далей і далей ад мастакоўскіх пошукаў ды эстэтычных спроб, так небанальна абвешчаных пяць гадоў таму.**

*На здымку: сцэна са спектакля «Стрыптыз» С. Мрожака ў Інсбрукскім гарадскім тэатры.*

## СЕМІНАР ГЕОГРАФАЎ

**З 12 па 16 верасня ў Харкаве праводзіўся міжнародны навукова-метадычны семінар «Сучасны стан і перспектывы вывучэння геаграфіі роднага краю ў школах». У рабоце семінара прынялі ўдзел 70 прадстаўнікоў 20 рэгіёнаў Расіі, Украіны, Казахстана. Рэспубліку Беларусь прадстаўляў выкладчык МДПІ імя А. Куляшова І. Шаруха.**

**Семінар паказаў, што, нягледзячы на пэўныя цяжкасці, геаграфічная навука ў Расіі і на Украіне крочыць наперад. У гэтых краінах ствараюцца не толькі падручнікі геаграфіі, школьныя атласы і контурныя карты па абласцях, але і па раёнах (напрыклад, па Валкаўскаму раёну Харкаўскай вобласці, аўтар настаўнік У. Ф. Воўк).**

**На вялікі жаль, Беларусь пакуль што не можа пахваліцца такімі дасягненнямі. Праўда такія падручнікі, як «Геаграфія Магілёўскай вобласці» Г. Рыдзеўскага ствараюцца, але гэта праца не знаходзіць падтрымкі ні ў мясцовых улад, ні ўва ўрадзе краіны.**

Віншуем!

# З БОГАМ І ЛЮДЗЬМІ — НА РОДНАЙ МОВЕ

## ДА 50-ГОДДЗЯ КАПЛАНСКАЙ ДЗЕЙНАСЦІ У. ЧАРНЯЎСКАГА

**«Добры ойча Ўладзіслаў,**
**Цябе Бог да нас паслаў!**
**Нашы сэрцы праясняй,**
**Навучай нас, навучай:**
**Змагаць духа злога,**
**Верна служыць Богу,**
**Любіць маму, тату,**
**Край і родну хату».**

Так спявалі дзеці, маленькія вернікі Вішнеўскай парафіі, што ў Валожынскім раёне Мінскай вобласці, у пачатку года для свайго пастара, ксяндза Уладзіслава Чарняўскага з нагоды 40-годдзя ягонай службы ў Вішнеўскім касцёле і 78-годдзя з дня нараджэння.

Гэтак жа шчыра і з удзячнасцю мы, парафіяне Вішнеўскай парафіі, віншуем зараз а. Уладзіслава з яго залатым юбілеем — 50-годдзем яго капланскай дзейнасці. Напэўна, да нашых віншаванняў далучацца многія, хто ведае, паважае і любіць нашага ксяндза.

4 кастрычніка 1944 г. у Віленскай Катэдры біскуп Мечыслаў Райніс удзяліў марыяніну Уладзіславу Чарняўскаму сан святарства. А ў канцы кастрычніка 1944 г. кс. У. Чарняўскі адправіў першую святую імшу ў Крэве. 10 гадоў працаваў у Літве, службу праводзіў для літоўскіх беларусаў па-беларуску, для літоўцаў — па-літоўску, для палякаў — па-польску. «Імкнуўся быць справядлівым, — гаворыць а. Уладзіслаў. — Мова народа — гэта Божы дар. Кожны народ павінен маліцца ў сваёй мове».

У сілу палітычных абставін на працягу вялікага часу праз урадавыя структуры, цэрквы ды касцёлы вынішчаўся на Беларусі беларускі дух. Цалялі ў самую сарцавіну ўсёй культуры народа — яго мову. Найбольш цярпелі здзеку ды ўціску відныя і свядомыя дзеячы беларускай культуры ды святары-беларусы. Многія з іх плацілі невыносным неспакоем, выгнаннем на чужыну і нават жыццём. Усё гэта бачыў Уладзіслаў Чарняўскі, але не ступіў на шлях прыстасавальніцтва і ўгодлівасці. «Я ўжо з Друі (тут вучыўся і ўступіў у Закон Марыянаў) быў свядомым. Калі ксяндзоў-беларусаў вывозілі, усё гэта я перажыў, — успамінае кс. Чарняўскі. — Потым не трэба было ні гаварыць, ні вучыць мяне пра беларускасць. Пазней быў у Варшаве і там бачыў адносіны да беларусаў, пасля выгналі клерыкаў-беларусаў з Вільні. На нас, беларусаў, глядзелі, як на злачынцаў».

Усё гэта, здавалася б, павінна было павярнуць маладога семінарыста на больш спакойны шлях, каб пазбегнуць жыццёвых ускладненняў, а ў яго ад усяго гэтага склалася ўстаноўка — «быць справядлівым», застацца беларусам, кім і паклікаў яго на гэты свет Бог, даручыўшы яму несці цяжкі крыж на ніве святарства ў Беларусі. І ён, ксёндз Уладзіслаў Чарняўскі, нясе яго мужна і цярпліва праз усё сваё жыццё.

Дык прыміце ж, дарагі наш Ойча Уладзіслаў, самыя шчырыя віншаванні з залатым юбілеем Вашай службы на хвалу Божую. Жадаем здароўя і здзяйснення ўсіх Вашых задум і жаданняў.



Няхай апякуецца Вамі і Вашай працай Найсвяцейшая Дзева Марыя, якой Вы ўзносіце свае штодзённыя малітвы.

**Ад імя парафіян Вішнеўскай парафіі**
**Марыя ТРАПАШКА.**

*Фота з архіва музея М. Багдановіча*

# «БЫЎ ПЕРШЫМ У ЛІТОЎСКАЙ РУСІ...»

*(Пачатак на стар. 3)*

ратурных музеяў. Адна з залаў прысвечана літаратуры. Як вядома, многія з Радзівілаў былі пісьменнікамі — Сіротка, Уршуля Радзівіл, Рыбанька. Не абыдзены ўвагай мецэнат, фундатар выдавецкай справы Сымона Буднага Мікалай Радзівіл Чорны. Культурныя і нацыянальныя традыцыі знайшлі працяг у дзейнасці Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі, дзе навучаліся А. Сержпутоўскі, А. Багдановіч, Якуб Колас, Кузьма Чорны, Рыгор Мурашка. Заўважым, што выданні нясвіжскай друкарні прадстаўлены ў арыгіналах.

### ШТО ЗДЗІВІЛА

Ужо некалькі год на тэрыторыі замка два энтузіясты вядуць саматужныя раскопкі — шукаюць падземныя хады. Знойдзены і скарб, частка якога выстаўлена ў экспазіцыі. Іх праца абрасла чуткамі і падазрэннямі, узбуджалася і закрыта крымінальная справа, грамадскасць горада абурана і апелюе да Міністэрства культуры і друку, якое дало дазвол на раскопкі. У сувязі з гэтым старшы дзяржаўны інспектар па ахове гістарычнай спадчыны названага міністэрства Д. Бубноўскі меў нямала непрыемных хвілін, калі мусіў адказваць на пытанні начальніка раённага ўпраўлення па архітэктуры Ю. Самойліка і мясцовых краязнаўцаў. На думку Бубноўскага, усё нармальна, парушэнняў не выяўлена. Аднак усё, што мы пачулі, у тым ліку і гібель трох падлеткаў на месцы раскопа, сведчыць, што тут пахне па меншай меры авантурызмам, патураць якому з боку адпаведных устаноў — злачынна.

У Нясвіжа ёсць 500 год пісанай гісторыі і 100 тысяч няпісанай, як адзначалася «на круглым стале». Усе земляныя работы ў межах горада-помніка павінны весціся пад наглядам спецыялістаў, для чаго прапанавана стварыць пастаянна дзеючую археалагічную экспедыцыю.

### ШТО СПАДАБАЛАСЯ

Гэта, перш за ўсё, канцэрт майстроў мастацтваў, якім завяршыўся першы дзень сімпозіума. І хоць ён сабраў не поўную залу, аднак стаў падзеяй у культурным жыцці горада. Музыказнаўца В. Дадзіёмава са сцэны казала так: «Вы пачуеце музыку, якая створана нясвіжскімі аўтарамі і не гучала тут 210 год».

У фартэпіянным суправаджэнні Ганны Каржанеўскай прагучалі вакальныя творы кіраўніка паўстання Тадэвуша Касцюшкі і паўстанца Міхаіла Клеафаса Агінскага (пераклад У. Мархеля). Ансамбль «Кантабіле» выканаў паланезы Мацея Радзівіла (1751—1821), вядомага тым, што ён удасканаліў арфу, добра граў на скрыпцы і стварыў некалькі опер. Усе гэтыя творы вярнуліся на Беларусь цудам — яны адшуканы В. Дадзіёмавай у замежных архівах, і гэта толькі нязначная частка нашай вялікай культурнай спадчыны.

### ШТО ЗАСМУЦІЛА

Адсутнасць эмацыянальнага падмацавання сухаватым выступам навукоўцаў. «Гэта навуковы сімпозіум, ніякіх шоу», — патлумачыў старшыня Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў А. Мальдзіс. «Шоу» і не было, а разам з тым і ніводнай, хаця б стыхійнай экскурсіі па палацы, парках, іншых старажытных куточках горада. Суцяшае толькі тое, што большасць з гасцей ужо мела раней такую магчымасць — зблізку пабачыць, пакратаць, увабраць у памяць і душу непаўторныя рысы нясвіжскай мінуўшчыны. Ды на зваротнай дарозе, акрамя таго, нас на паўгадзінкі завезлі ў Мір.

На пасяджэннях была адна істотная перашкода для паўнавартага ўспрымання: выступы гасцей гучалі на польскай мове, без схематычнага нават перакладу. Зала дэманстравала выхаванасць і ўважліва слухала. А там былі далёка не адны навукоўцы... Зрэшты, усе даклады выйдуць асобнай кніжкай, мы іх прачытаем па-беларуску.

### ШТО ПАЦЕШЫЛА

З якім урачыстым выглядам, амаль навыцяжку стаяла абаяльная пані Смулэк, слухаючы прамову Анджэя Цеханавецкага. Ганаровы доктар уручыў паўнамоцнаму паслу Польшчы ў Беларусі ордэн Святога Юр'я. Пані Смулэк выказала задавальненне з той нагоды, што знамянальная для яе падзея адбылася на старажытнай нясвіжскай зямлі.

Шчыра радаваўся сам князь Цеханавецкі, мастацтвазнаўца і мецэнат, калі яго віншавалі — праўда, крыху наперад — з 70-годдзем — Міністэрства культуры і друку ў асобе У. Гілепа і прадстаўнік мясцовай улады А. Жук.

Быў і яшчэ адзін дарунак: дырэктар Інстытута гісторыі АН РБ М. Касцюк разам з загадчыкам аддзела Г. Галенчанкам уручыў мясцоваму музею факсімільнае выданне гравюр з партрэтнай галерэі Радзівілаў.

### ШТО ВЫКЛІКАЛА СПРЭЧКІ

Ці можна гаварыць пра Нясвіж у кантэксце еўрапейскай гісторыі ды называць яго «некаранаванай сталіцай» ВКЛ? Наконт гэтага досыць рэзка выказаўся кандыдат гістарычных навук М. Спірыдонаў. Адказ М. Касцюка быў пераканаўчым: 12 міждынастычных шлюбаў, што былі заключаны Радзівіламі, — лічба сама па сабе красамоўная. Тут спалучаюцца традыцыі заходнееўрапейскай, польскай, літоўскай, украінскай, рускай і мясцовай культур, пачалося беларускае кнігадрукаванне, была створана першая карта Вялікага княства Літоўскага, паркі, тэатр, опера, балет, аркестр адпавядалі лепшым узорам таго часу.

Адносна навуковай каштоўнасці дакладаў таксама не было адназначнай думкі. Згаданы М. Спірыдонаў выказаўся наступным чынам: «Ні новых фактаў, ні новага асэнсавання». Сапраўды, асобныя паведамленні падаліся мне малазначнымі і нават непрафесійнымі, паўтараліся тэмы, да таго ж многія з заяўленых у праграме даследчыкаў проста не прыехалі. Мо і да лепшага, бо мясцовая гасцініца з цяжкасцю ўсіх нас размясціла, а для прэсы і зусім месца ледзьве знайшлося...

### ШТО НАВЯЛО НА РОЗДУМ

Генеалагічнае дрэва Радзівілаў мае безліч адводкаў і разгалінаванняў, яно зелянее і па сёння. 22 прадстаўнікі гэтага магутнага княжацкага роду займалі ў дзяржаве вышэйшыя пасады. Пра іх рэзідэнцыю Адам Кіркор пісаў: «Несвиж своими богатствами, блеском, великолепием разных замечательных произведений науки и искусства не только был первым в целой Литовской Руси, но превосходил во многом второстепенные столицы». Вось і думаецца: куды гэта ўсё сплыло, дзе тыя «блеск» і «великолепие», у якую бяздонную Лету канулі? Як магло здарыцца, што за два апошнія стагоддзі ўсё страчана і забыта, што беларусы неяк згубіліся паміж суседніх больш развітых народаў, і свет дасюль цьмяна ўяўляе, што гэта за новая дзяржава і дзе яе месца на геаграфічнай карце. Наша духоўнае апірышча — колькі б мы ні згадвалі пра слаўную гісторыю — не ў мінулым. Нам яшчэ належыць сцвердзіць сябе — чаго не зрабілі нашы продкі падчас знаходжання ў шматэтнічных дзяржавах. Яны ўвесь час некаму служылі, да некага прыпадабняліся, хварэлі за чужыя інтарэсы. Тагачасныя вяльможы гэтак жа мала цанілі сваю самабытнасць, як і цяперашнія дзеці сялян. Тут мы ўсе роўныя — роўныя ў занядбанні сябе. Вось чаму такімі праблематычнымі ўяўляюцца мне заклікі вярнуць каштоўнасці Нясвіжа, адрадзіць яго былую славу.

План пераўтварэння горада настолькі маштабны, такіх запатрабуе матэрыяльных і духоўных выдаткаў, што на сённяшні дзень яго можна назваць «Нясвіжскай марай». Бо адродзіцца горад, відавочна, толькі разам з беларускай дзяржавай. Зрабіць з яго турыстычны аазіс сярод нашай галечы наўрад ці ўдасца. Хіба што статус урадавай рэзідэнцыі дапаможа?

Стварэнне нацыянальнага запаведніка — справа доўгатэрміновая. Трэба выкарыстаць вопыт Полацка і Заслаўя, узгадніць некаторыя пытанні з мясцовым кіраўніцтвам, распрацаваць бізнес-план, вызначыць першачарговыя задачы.

... Заключнага аптымістычнага акорду пра светлыя перспектывы Адраджэння ў мяне не атрымалася. То няхай заканчэннем будзе спіс арганізатараў міжнароднага сімпозіума: Міністэрства культуры і друку РБ, Міжнародны фонд «Нясвіж», аднайменны гісторыка-культурны запаведнік, Міжнародная асацыяцыя беларусістаў, Беларускі інстытут праблем культуры, Інстытут гісторыі Акадэміі навук Беларусі.

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**

# ПРЭСА, ЭФІР, МОВА

Леанід ЛЫЧ

У НАЦЫЯНАЛЬНА-КУЛЬТУРНЫМ адраджэнні любога этнасу вырашальная роля належала і заўсёды будзе належаць самой дзяржаве. Яна і толькі яна павінна вызначыць і забяспечыць асноўныя напрамкі развіцця нацыянальнай культуры і яе самага важнага кампаненту — мовы. У значнай ступені па месцы культуры і мовы ў жыцці карэннага насельніцтва той ці іншай краіны можна беспамылкова меркаваць, наколькі тут дзяржаўная палітыка адпавядае яго нацыянальным інтарэсам. З другога боку, паводле характару палітыкі дзяржавы ў пытаннях духоўнага развіцця народа, імя якога яна носіць у сваім тытуле, можна правільна вызначыць рэальнасць, паўнату яе суверэннасці. Калі ў 20-я гады нашага стагоддзя суверэннасць Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі не выклікала асаблівых сумненняў, яе дзяржаўныя і партыйныя органы самастойна, без аглядкі на Маскву ладзілі нацыянальна-культурнае жыццё ў сваёй незалежнай краіне, тады нават самыя закаранелыя скептыкі верылі ў рэальнасць яе духоўнага адраджэння. Але варта было Беларускай дзяржаве пад націскам Цэнтра пачаць губляць пазіцыю за пазіцыяй у сваёй суверэннасці, як многае з таго, што раней так проста і лёгка вырашалася ў сферы нацыянальна-культурных адносін, стала даваць збоі, а ў канцы 20-х — пачатку 30-х гадоў нават выявіліся істотныя і небяспечныя адступленні ад раней узятага прагрэсіўнага курсу.

У правядзенні нацыянальна-культурнай, моўнай палітыкі дзяржава абапіраецца на многія рычагі і не ў апошнюю чаргу на сродкі масавай інфармацыі. У некаторым сэнсе іх можна паставіць нават вышэй за такую важную галіну культурнага жыцця, як асвета. Чаму? Дзякуючы выйгрышу ў часе. Асвета, будучы сапраўднай жытніцай нацыянальна-духоўнага адраджэння, усё ж досыць павольна вяртае людзей да іх гістарычных каранёў, культурнай спадчыны. Праўда, выконвае гэтую ролю грунтоўна, капітальна. Сродкі ж масавай інфармацыі могуць скіраваць людзей на такі шлях літаральна за два-тры месяцы, толькі трэба, каб гэтага пажадала занятая на даным прэстыжным участку ідэалагічнай службы інтэлігенцыя. Сваім пераканаўчым публіцыстычным словам яна можа ўзрушыць нават самага закаранелага нацыянальнага нігіліста. Менавіта такога пазітыўнага ў дачыненні да роднага слова беларусаў патоку інфармацыйных матэрыялаў і чакалі многія з нас пасля прыняцця ў студзені 1990 года Закона аб мовах у Беларускай ССР.

На вялікі жаль, такога не атрымалася. Наадварот, трохі пачакаўшы, сродкі масавай інфармацыі, якія знаходзяцца на ўтрыманні дзяржавы, першым абавязкам якой было і з'яўляецца выратаванне свайго карэннага насельніцтва ад духоўнага заняпаду, рускай культурна-моўнай асіміляцыі, далі сапраўдны бой беларускай мове. Рускамоўныя перыядычныя выданні раслі, як грыбы пасля дажджу. Пачасціліся нават прамыя выпады супраць роднага слова беларусаў на старонках газет і ў выступленнях па радыё, чаму, на вялікае здзіўленне, зусім не давалі адпаведнай ацэнкі журналісты. Не з'явілася аніводнага рэдакцыйнага артыкула па моўнай праблеме! Таму ў многіх чытачоў і слухачоў заканамерна склалася ўражанне, што публікацыі і выступленні антыбеларускага зместу цалкам задавальняюць погляды журналістаў, або, можа, яшчэ і вынікаюць з палітыкі самой дзяржавы па даным пытанні. Зразумела, ішла інфармацыя і ў абарону беларускай мовы, але зусім не такім патокам, як таго патрабаваў яе статус дзяржаўнасці.

Афіцыйныя сродкі масавай інфармацыі Рэспублікі Беларусь стварылі сапраўдны феномен у сусветнай практыцы: замест адчайнага адстойвання правоў дзяржаўнай мовы яны дазвалялі сабе расхістваць яе і без таго слабыя сацыяльныя пазіцыі, што перашкаджала і перашкаджае сёння нармальнаму ходу беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэння.

Не раз думалася, каб з такімі суадносінамі паміж нацыянальным і рускім, што склаліся ў сродках масавай інфармацыі Беларусі сутыкнулася якая-небудзь іншая краіна, дык праз пяцьдзесяць гадоў ад яе нацыянальнай мовы толькі б трэскі засталіся. А наша ўсё яшчэ жыве і захоўвае пэўную колькасць сваіх носьбітаў, не даючы народу як самастойнаму этнасу зусім сысці на абочыну цывілізацыі. Так што не паддавайся, дарагі народзе, плёткам, што ты, як ужо не раз заяўлялася ў сродках масавай інфармацыі, нібыта не склаўся ў нацыю. Ты ўжо некалькі разоў меў яе, толькі, на вялікае гора, заўсёды аднекуль з'яўляліся розныя злыдні, а былі і сваёй гадоўлі, што дашчэнту разбуралі яе. Асабліва ж пакалечанымі застаёмся мы на сёння.

Прагрэсіўныя, нацыянальна-самасвядомыя станы беларускага народа маюць усе падставы быць крайне незадаволенымі сучаснай сітуацыяй у сродках масавай інфармацыі і дамагацца карэннага перагляду іх работнікамі свайго стаўлення да святой беларускай ідэі. Уся іх дзейнасць, прычым незалежна ад мовы выданняў ці выступлення па радыё і тэлебачанні, павінна быць скіравана толькі ў адным напрамку — на выратаванне і ўмацаванне нацыянальных асноў беларускага народа. На этнічнай тэрыторыі апошняга пад рэальнай пагрозай поўнага заняпаду знаходзяцца толькі яго культура і мова, а не прадстаўнікоў якіх-небудзь іншых нацыянальнасцей нашага краю: рускіх, палякаў, украінцаў, яўрэяў, літоўцаў, татараў і г.д., якія нават і ў самых неспрыяльных для сябе ўмовах усё ж змогуць задаволіць свае патрэбы тымі духоўнымі каштоўнасцямі, якія маюцца і ствараюцца дзесьці на зямлі іх продкаў. У нас жа такі варыянт адсутнічае і ніколі не з'явіцца, калі мы цалкам не выкарыстаем сённяшні шанц нацыянальна-культурнага Адраджэння беларусаў на іх спрадвечнай і адзінай на свеце зямлі. Добра, каб гэта глыбока зразумелі работнікі сродкаў масавай інфармацыі і пастараліся такі погляд пераканаўча данесці да ўсведамлення тых мільёнаў чытачоў і слухачоў, якія карыстаюцца іх матэрыяламі.

Праклятае далёкае і зусім яшчэ нядаўняе мінулае дарэшты адвучыла многіх з нас, не выключаючы нават значную частку інтэлігенцыі, нармальна, па-людску жыць паводле сваіх нацыянальных стандартаў, як гэта робяць усе цывілізаваныя народы. Па гэтай прычыне мы як суверэнная нацыя пракладваем свой шлях наперад вельмі марудна і нібыта ўпоцемкі, не ведаючы, што нас чакае праз год, не кажучы ўжо пра больш аддалены перыяд. І проста незразумела і невытлумачальна, што ў такой цяжкай для нас сітуацыі кампетэнтныя структуры ўлады не ідуць на пераўтварэнне адной з рэспубліканскіх газет, калі не ў выключна, дык пераважна навукова-тэарэтычны перыядычны орган друку, у сапраўдную трыбуну нашага нацыянальнага жыцця. З'яўленне часопіса падобнага накірунку ніяк не зняло б вастрыні праблемы з-за яго недастатковай аператыўнасці. У нас жа нярэдка ўзнікаюць сітуацыі, калі салідны, навукова-абгрунтаваны погляд па нацыянальным пытанні, да прыкладу, аб дзяржаўным двухмоўі неабходна даць народу літаральна сёння ці заўтра.




Ад функцыянавання прапануемай мною навукова-тэарэтычнай газеты, вядома ж, ніяк нельга патрабаваць рэнтабельнасці ў звычайным разуменні гэтага слова. Яе рэнтабельнасць трэба вымяраць не на грошы, а на лік асоб, што з дапамогай грунтоўных публікацый данага перыядычнага органа ўдасца выратаваць з-пад этнічнага амярцвення, далучыць да свядомай актыўнай дзейнасці на карысць беларускай ідэі. Такое незвычайнае для фінансавых работнікаў стаўленне да падліку ўзроўню рэнтабельнасці мяркуемай газеты вельмі і вельмі важна для нас, бо асноўныя пласты беларускай нацыі яшчэ спяць, не далучыліся да прагрэсіўнага руху і ў значнай ступені таму, што органы ўлады і кіравання, іх сродкі масавай інфармацыі надта ж нясмела, баязліва бяруцца за вырашэнне кардынальных праблем нацыянальнага жыцця свайго народа.

Не ведаю, як хто, а калі я нясу даволі ёмісты навукова-тэарэтычны матэрыял па агульных пытаннях нацыянальнага развіцця ў газету «Літаратура і мастацтва», адчуваю пэўную ніякаватасць, бо разумею, што гэты друкаваны орган павінен больш за ўсё звяртаць увагу на асвятленне культуралагічных, а не нацыянальных праблем. Пахвальнага слова заслугоўвае «Настаўніцкая газета». Яе рэдакцыя, добра разумеючы месца народнай асветы ў справе нацыянальна-культурнага Адраджэння, вельмі прафесійна асвятляе гэтую праблему на сваіх старонках, зразумела, за кошт пэўнага змяншэння плошчы пад паблікацыі чыста педагагічнага, метадычнага характару. Улічваючы незвычайна вялікую актуальнасць асвятляемых «Настаўніцкай газетай» пытанняў, было б мэтазгодным замест двух яе нумароў на тыдзень, выдаваць тры.

Наш сённяшні перыядычны друк, мо як ніколі раней, з'яўляецца драбнаінфармацыйным, калейдаскапічным, а не дык і прама разлічаным на сенсацыі, смажаныя факты, як сродкі дасягнення прыстойнага тыражу. Сур'ёзнаму чалавеку — а іншаму ў наш час проста і быць нельга — часам здараецца, што і прачытаць няма чаго вартага ў газетах. Ствараецца ўражанне, што хтосьці ў высокіх урадавых структурах, рэдакцыях газет крайне зацікаўлены трымаць народ у невуцтве адносна перспектыў свайго нацыянальнага развіцця. Калі я памыляюся, дык чаму тады ў нашых газетах няма сталых рубрык, накшталт: «Нацыянальнае жыццё ў Рэспубліцы Беларусь», «Экран беларусізацыі» і ім падобных, знаёмства з матэрыяламі якіх дапамагала б людзям хутчэй пакончыць са сваёй недасведчанасцю ў пытаннях уласнага нацыянальнага лёсу? У многіх разуменне такіх пытанняў да таго элементарнае, калі не сказаць прымітыўнае, што яны нават выступаюць супраць навучання сваіх дзяцей у беларускіх нацыянальных школах, не разумеюць згубнасці дзяржаўнага двухмоўя. Заўважу, што апошнім часам здавалася б зусім безнадзейна адсталыя ў сваім развіцці афрыканскія плямёны і тыя пацягнуліся да роднай мовы, уводзячы яе ў школы, службовае, дзяржаўнае справаводства, а многія беларусы, старажытны еўрапейскі народ з багатай, адмысловай гісторыяй і духоўнай культурай, насмех усяму цывілізаванаму свету выракаюцца (дзякаваць Богу не ўсе) роднага слова — і самае страшнае, што ў краіне і па сёння яшчэ не забяспечылі яму пачэснага месца ў сферы народнай адукацыі, асабліва ў яе вышэйшых звёнах, дзе якраз кожная нацыя найлепшым чынам духоўна ўзнаўляе свае сілы. Ці не па гэтай прычыне мы ўсё ніяк не можам выйсці з фарватэру рускай культуры? Калі б газеты, радыё і тэлебачанне належным чынам асвятлялі праблемы сучаснага складанага і супярэчлівага нацыянальнага жыцця і трагічны лёс яго асяродку — беларускай мовы, яна б не мела яшчэ і дагэтуль легіёна нядобразычліўцаў.

Здзіўляе, як нашыя сродкі масавай інфармацыі часам вельмі спрытна ўмеюць ухіляцца ад асвятлення вузлавых праблем нацыянальнага жыцця. Не стаў выключэннем і Першы сход беларусаў блізкага замежжа, які праходзіў 18—19 снежня 1992 года ў Мінску. Што падзея гэта вялікай гістарычнай важнасці, ніхто не асмеліцца аспрэчваць. А вось па тым, якое месца заняла яна на старонках перыядычнага друку, у перадачах радыё і тэлебачання, такая важнасць не пацвярджаецца. Людзям удалося азнаёміцца ў асноўным толькі са зместам выступленняў першых асоб рэспублікі, якія носіць больш прывітальны, урачысты, чым аналітычны характар. Па-за ўвагай сродкаў масавай інфармацыі засталіся дзесяткі цікавейшых выступленняў беларусаў блізкага замежжа. А шкада, бо сказанае імі мае непасрэднае дачыненне да самых актуальных праблем нашага Адраджэння, уключаючы і выратаванне роднай мовы. Не хочацца верыць (хаця ад многіх даводзілася чуць), што гэта загадзя спланаваная інфармацыйная блакада. Так гэта ці не, аднак да суродзічаў з блізкага замежжа, лічу, паставіліся вельмі нетактоўна. Прыкладна такое ж здарылася, калі ў ліпені 1993 года ладзілі сустрэчу з супляменнікамі беларускай эміграцыі. Колькі цікавай і каштоўнай інфармацыі не дайшло да людзей! Газеты, радыё і тэлебачанне больш паведалі ім пра чарговае жніво, чым пра радасць сустрэчы эмігрантаў з роднай Бацькаўшчынай, выказаны імі боль з-за велізарнай страты ёю нацыянальнага ў духоўным жыцці. Глыбока і надзейна закапана ў пясок амаль усё, што гаварылася пра адраджэнне беларускай культуры і мовы. Трохі суцяшае, што мяркуецца выданне паасобнымі кніжкамі матэрыялаў Першага сходу беларусаў блізкага замежжа і Першага з'езда беларусаў света. Але калі толькі гэта будзе? Час няўмольна ляціць наперад, ставячы ўсё новыя і новыя праблемы.

Небывала гаротны стан нашага нацыянальнага жыцця абавязвае да актыўнага, неадкладнага пошуку шляхоў умацавання пазіцый беларускага слова ў сродках масавай інфармацыі, каб зрабіць апошняе больш папулярным не толькі сярод законных носьбітаў яго, але і нацыянальных меншасцей Рэспублікі Беларусь. Дробязей у гэтым не можа быць, пра што пераканаўча сведчыць вопыт іншых народаў. Многія ведаюць, які працяглы час на маскоўскім радыё існуе перадача «Друзьям русского языка» і якую шырокую аўдыторыю яна мела на абсягах ўсяго колішняга СССР. Упэўнены, што нешта падобнае можна было б стварыць і ў нас, чым удалося б павялічыць кола актыўных і пасіўных носьбітаў беларускай мовы. Ідзе ж у нас, дзякуючы нястомным намаганням пісьменніка Уладзіміра Юрэвіча больш за трыццаць гадоў перадача «Жывое слова» і зацікаўленасць да яе надзвычай вялікая. Думаецца, што такой была б яна і сярод дарослых, калі б работнікі радыё сур'ёзна патурбаваліся пра арганізацыю аналагічнай перадачы.

Зусім не ад беднасці штораніцы з лінгвістычнай зарадкай выходзіць у сусветны эфір англійская радыёстанцыя «Бі-Бі-Сі», вярбуючы сабе новых аматараў англійскага слова і сярод іншаземцаў. Наша ж мова дыхае на ладан, а мы не робім нават у межах рэспублікі такой лінгвістычнай зарадкі. Слушна было б уключыць яе ў ранішнюю перадачу «Радыё-факт», бо і гэтая рэдакцыя не дужа клапоціцца пра нашую культуру і мову. Не раз здаралася такое, што на працягу цэлай гадзіны для музычнага афармлення перадачы пракруцяць чатыры-пяць мелодый і сярод іх ніводнай беларускай. Праслухаўшы ўсё гэта, міжвольна паставіш пытанне, што гэта: нізкі прафесійны ўзровень аўтараў перадачы ці хранічная хвароба большасці беларусаў, назва якой — нацыянальны нігілізм? Што б гэта ні было, яно не на карысць нашай нацыянальнай ідэі.

Не магу не спыніцца і яшчэ на адной адмоўнай з'яве ў практыцы нашага радыё, якая выступае ў супярэчнасць з сучасным Адраджэннем. Радуе, што апошнім часам журналісты даволі часта і на належным узроўні вядуць аповяд пра цікавейшыя старонкі гісторыі Бацькаўшчыны, далучаюць людзей да багатай духоўнай спадчыны. Але калі такія перадачы ідуць у рускім музычным афармленні — а такое практыкуецца даволі часта, — яны істотна губляюць моц уздзеяння на масы. Не перабольшу, калі скажу, што ў агульным аб'ёме музычных, песенных перадач Беларускага радыё на рускае падае 70-80 працэнтаў, таму зусім не варта, каб ім яшчэ суправаджалі перадачы нацыянальна-адраджэнскага плана. Прычым музычна-песенныя ўстаўкі падобных перадач часта запаўняюцца такімі нізкапробнымі творамі, што іх наўрад ці ўключыць у сваю праграму якое-небудзь абласное радыё Расіі. А ў нас ім знаходзяць месца і мо толькі таму, што яны небеларускія. Як усё гэта крыўдзіць і абражае шчырага беларуса! Не, не такое яму цяпер патрэбна! Яго душу часам куды больш сагрэе, прылашчыць звычайная радавая беларуская народная, эстрадная песня, чым самы выдатны рускі раманс, полька Шапэна, славянскі танец Брамса... Наданнем пэўнага прэстыжу нацыянальнай музыцы і песні ў радыёперадачах мы, напэўна ж, зможам яшчэ і падахвоціць творчых людзей да больш актыўнай працы, пасадзейнічаем упэўніцца, што яны будуць пачутымі народам.

Элементарнай журналісцкай нядбайнасцю лічу і тое, калі ў студыю з апарату міністэрства ці ведамства, дзе працуе да сотні і больш чалавек, запрашаюць асобу, якая не валодае ці ігнаруе беларускую мову. Не веру, што сярод іх няма службоўца, які мог бы на дзяржаўнай мове выйсці ў эфір і паведаміць пра стан спраў у сваёй галіне. Шукаць, шукаць такіх людзей трэба, а не без разбору хапацца за тых, каму «да лямпачкі» наша роднае слова! Гэта ж не перадачы ў прамы эфір з вуліцы ці плошчы, дзе і сапраўды сёння не так проста з ходу натрапіць на чалавека з беларускай мовай. Апарату ж міністэрства альбо ведамства заяўку на выступленне па радыё можна падаць за колькі дзён з умовай гаварыць на дзяржаўнай мове. Менавіта яе валоданню, а не рангу службоўца належыць аддаваць прыярытэт. Іншага выйсця тут няма, бо, відаць, самім лёсам наканавана беларусам, што ўлады, самыя заможныя элітарныя станы насельніцтва, як гэта асабліва яскрава праявілася ў перыяд Рэчы Паспалітай і ў час панавання савецкай таталітарнай сістэмы, больш жывуць інтарэсамі суседніх краін, зыходзяць з нейкіх чужых ідэалаў, чым са сваіх уласных. Таму і мова ім даражэй іншых дзяржаў, чым роднай Бацькаўшчыны.

Апошнім часам усё часцей сустракаешся з такой недарэчнасцю ў практыцы нашага радыё. Журналіст пачынае па-беларуску свой дыялог з тым ці іншым удзельнікам перадачы. Але варта пачуць з процілеглага боку толькі першыя два-тры словы па-руску, як журналіст адразу ж здраджвае дзяржаўнай мове. Беларускаму слову зарывае ў эфіры. І навошта ўжо так спяшацца? Здаецца, нішто ж не гарыць і ніхто не топіцца. Для рускамоўнага чалавека беларускае слова — не кітайскае. Працяг журналістамі ў такіх умовах гаворкі па-беларуску ніяк нельга назваць бескультур'ем ці непавагай да суразмоўцы, а павінна разглядацца як прапанова для яго старацца ўсё ж карыстацца дзяржаўнай мовай, няхай сабе нават і з пэўнымі памылкамі. Слухачы, думаю, даруюць, а для некаторых гэта будзе школай авалодання беларускай мовай. Трэба ж нам неяк прайсці беларускамоўны лікбез!

*(Працяг на стар. 12)*

## УНІВЕРСІТЭТ ПАВІНЕН БЫЦЬ БЕЛАРУСКІМ...

**У адным з апошніх нумароў «Настаўніцкай газеты» (24 верасня 1994 года) змешчаны матэрыялы, якія дазваляюць лепш зразумець, як праходзіла беларусізацыя ў дваццатыя гады. З аднаго боку, яскрава бачна, што знаходзіліся тыя, хто любымі спосабамі стрымліваў гэты працэс. З другога відочна, што сумленныя людзі адстойвалі права беларусаў заставацца беларусамі. Да іх належаў і рэктар Беларускага дзяржаўнага універсітэта У. Пічэта. Дарэчы, ён не з'яўляўся беларусам па нацыянальнасці. Але выхаваны на лепшых традыцыях Маскоўскага універсітэта, па прыездзе на Беларусь вывучыў беларускую мову, займаўся даследаваннем гісторыі і культуры Беларусі.**

**Аб тым, як разгортваліся падзеі ў другой палове дваццатых гадоў ва універсітэце, гавораць апублікаваныя ў «НГ» матэрыялы, аб'яднаныя назвай «Беларускі універсітэт павінен быць беларускім». Гэта артыкул навуковага супрацоўніка Беларускага навукова-даследчага цэнтра дакументазнаўства,археаграфіі і архіўнай справы Аляксандры Гесь і ліст самога У. Пічэты, накіраваны 11 чэрвеня 1928 года ў Народны камісарыят асветы БССР.**

**Беларусізацыя статус дзяржаўнай палітыкі, як вядома, набыла з ліпеня 1924 года. Дзякуючы У. Пічэту, родная мова загучала і ў сценах універсітэта. Рэктар прыцягнуў да выкладання такіх вучоных, як У. Ігнатоўскі, М. Доўнар-Запольскі, А. Смоліч, Я. Лёсік, а таксама А. Вазнясенскага, І. Замоціна, Я. Барычэўскага і іншых. Універсітэту быў нададзены краязнаўчы ўхіл. На рабфаку ўвялі лекцыі па беларусазнаўстве. Прыклад ва ўсім паказваў педагагічны факультэт, але марудзілі на факультэце права і гаспадаркі. Гэта не магло не непакоіць У. Пічэту, тым больш, што наперадзе быў 1928—29 навучальны год, а ён лічыўся годам завяршэння беларусізацыі і ў ВНУ. А тут яшчэ супраць пачаў выступаць намеснік рэктара па адміністрацыйна-гаспадарчай часці С. Слонім і актыўна шукаў аднадумцаў. У. Пічэту нічога не заставалася, як звярнуцца па падтрымку да наркома асветы А. Баліцкага. У сваім лісце рэктар выказваў занепакоенасць: «Той праект, які абгаварваўся ў Праўленні Ун-та, парушае агульную мэтаўстаноўку Універсітэта і ставіць беларускія прадметы ў такое становішча, пры якім фактычна скасоўваецца вывучэнне гісторыі Беларусі і яе культуры, адступаючы на задні план, і перастае быць цэнтрам вывучэння ва Універсітэце». Трывожыла У. Пічэту і тое, што «на 1-м курсе быў выкінуты агульны курс па гісторыі беларускай культуры. Гэты курс уводнага характару меў, безумоўна, вялікае значэнне, бо ён уводзіў у вывучэнне іншых беларускіх прадметаў». «Не магу таксама згадзіцца, — канстатаваў ён, — і са скасаваннем курса культуры і літаратуры Беларусі XVI і XVII стагоддзяў на IV курсе літаратурна-лінгвістычнага аддзялення».**

**Ліст У. Пічэты па даручэнні Старшыні ЦВК БССР А. Чарвякова быў перасланы сакратару ЦК КПБ(б) Кнорыну. І захоўваўся пад грыфам «Зусім сакрэтна». Праўда, пры абмеркаванні плана педфака БДУ у Наркамасветы большая частка прапаноў У. Пічэты па беларусізацыі была падтрымана. Але наперадзе быў 1930 год, калі ў верасні У. Пічэту арыштавалі па справе акадэміка С. Платонава, якога абвінавачвалі як удзельніка «Усенароднага саюза барацьбы за адраджэнне свабоднай Расіі». У 1931 годзе У. Пічэта быў высланы ў Вятку.**

## ДЗЕЛЯ АДРАДЖЭННЯ

**Змястоўным атрымаўся восьмы нумар часопіса «Зрок». У ім — верш М. Ермаловіча «Думка і воля» і працяг яго гутарак, што публікуюцца пад рубрыкай «Аб усім, што баліць». Гэтым разам прапануюцца запісы, пазначаныя 1975—1976 гадамі, з якіх бачна, што і раней Мікола Іванавіч разважаў аб шляхах нацыянальнага Адраджэння, задумваўся, ці так мы жывём, як трэба было б жыць.**

**Дакументальныя навелы М. Капыловіча, прапанаваныя пад рубрыкай «Характары і лёсы», узяты з самога жыцця. Змешчана апавяданне В. Гардзея «Дынамік на школьным коміне», вершы В. Барысава. М. Маліноўскі выступае з краязнаўчым нарысам «Нёман, Нямунас, Мемель...» З. Яцкевіч («Цудатворны абраз Бялыніцкай Боскай Маці») далучае яшчэ да адной нацыянальнай святыні.**

**У раздзеле «Ліхтарык» — вершы У. Марука для дзяцей.**

**На завяршэнне нумара — гумарэска М. Лук'янава «Прыкмета».**

# НОВАЯ МАРГІНАЛЬНАЯ БЕЛАРУШЧЫНА

## ПАВОДЛЕ ЦЫТАТ

*«За які рог ні пасунешся, адусюль постмадэрнізм прэ насустрач...»*

*В. АКУДОВІЧ*

Сёння паўсюль паўтараецца, што мы жывём у новай культурнай сітуацыі. Сапраўды, надышоў канец нарматыўнай эстэтыкі, гэтаксама як і старой рэгламентацыі жыцця — жорсткай, па сутнасці антынацыянальнай. У 1993—94 гг. прыкметнымі зрабіліся і пошукі новага беларускага фундаменталізму. У гэтых варунках рэфлексія паводле беларускай культуры, літаратуры зачаста пачала пераходзіць у агульны натхнёны крытыцызм і бічаванне, да поўнай страты цвярозага адчування рэальнасці ўключна. Прыкладам — некаторыя тэксты апошніх гадоў, што былі надрукаваныя на старонках аўтарытэтных выданняў.

***«Ці існуе беларуская нацыянальная культура? <...> ...няма глыбокай рэфлексіі над дынамікаю развіцця нашай культуры. А таму і няма таго, што мы можам упісаць у еўрапейскую карціну свету. Вось і атрымоўваецца: ёсць нацыя, але няма культуры...»*** *(Матрунчык М. Што мусіць быць у ідэале? Фрагмент з працы «Культурная традыцыя: этнічнае і канфесійнае». «Культура», 1993, 24 жніўня).*

Тут відавочна ігнаруецца не тое што аура беларускага слова, знака, аура любога прадмета культуры як канцэпта, а нават і элементарны здаровы сэнс. У вышэйшай ступені смела ігнаруе М. Матрунчык і найвядомыя беларускія імёны, што ўжо даўно ўпісаны ў «еўрапейскую карціну свету» і без Матрунчыкавай на тое згоды.

Не парупіўшыся засведчыць, што беларуская культура не ў 30-я гады XX ст. нарадзілася, некаторыя аўтары з асаблівым размахам крытыкуюць сёння культуру часоў савецкіх. Асноўны змест гэтай ваяўнічай крытыкі — «няма культуры, ды і нацыі няма».

***«Беларускай культуры ў класічным разуменні тэрміна на сённяшні дзень няма. Масавая ж свядомасць тутэйшага жыхара на сёння знаходзіцца ў лепшым разе паміж адзнакамі «мой дом» і «маё мястэчка»; пра нас пакуль рана гаварыць, як пра нацыю, а таму тэрмін «беларуская культура» варта адкласці да лепшых часоў. Гаварыць можна хіба пра кангламерат субкультур. Сярэдняму дэнацыяналізаванаму беларусу субкультурніцкія канцэпцыі адраджэнскага кшталту незразумелыя, а іх праблемы нецікавыя. Сапраўдная культура можа быць толькі агульнанацыянальнай».*** *(Ахроменка У. Субкультура. «ЛіМ», 1993, 12—18 чэрвеня).*

Мне падаецца вельмі рамантычным уяўленне У. Ахроменкі пра нацыю і культуру. Яму хочацца, каб не існавала ў прыродзе наступстваў генацыду, каб культура складалася адно з геніяў агульнанацыянальнага маштабу... Гэта на здароўе, але ці ўласна беларуская нацыя і беларуская культура перад У. Ахроменкам вінаватыя, што не адпавядаюць ягонай мары?

***«Больно, горько в этом признаваться, однако вся современная «белорусскоязычная» культура, если угодно, до сих пор есть культура мифотворческая — во всех мыслимых ее проявлениях. Литература — тем более. <...> ...что есть сама наша литература, как не затянувшаяся игра мечтательно-дерзкого воображения?»*** *(Афанасьев И. Мелодия оборванной струны. «Нёман», 1994, N 2).*

Двухмоўны І. Афанасьеў, даследчык беларускай літаратуры, асабліва творчасці В. Быкава, найбольш паслядоўны ў сваіх негатыўных фантазіях. Не быў бы ён філосафам, калі б не дайшоў да труізмаў тыпу «что наша жизнь? Игра!», «жизнь есть сон», але ж жыць неяк трэба...

Ці не самы памяркоўны сярод названых аўтараў — І. Бабкоў. Ён усяго толькі лічыць, што савецкая культура (у многім гвалтоўная, асабліва напачатку. — **Л. К.**) была «сувенірнай», а таксама лічыць, што які-небудзь несімпатычны табе перыяд развіцця культуры карысна «адпрэчыць»:

***«З іншага боку, мы выразна бачым працэсы пэўнага ўскладнення ўнутранага культурнага ландшафту, што адбываецца на тле складвання грамадзянскае супольнасьці. Тут мы знаходзім, па-першае, пэўнае апрэчванне «сувенірнай» савецка-беларускай культуры, што складалася за савецкія часы».*** *(Бабкоў І. Беларуская традыцыя: на зломе сэнсаў. «Культура», 1993, 17 мая).*

***«Працэс праяўлення іманентных беларускаму духу сэнсаў можна сплanаваць і рэгуляваць. Гэта справа нацыянальнай асветы і адукацыі. <...> Каб працэс «абуджэння» народа ішоў не стыхійна, неабходна стварыць нацыянальныя праграмы, як своеасаблівую звышнатуралёвую даннасць для спячай свядомасці. І гэтыя праграмы выканаюць пераход этнакансалідацыі беларусаў у грамадзянскую супольнасць і нацыянальную еднасць».*** *(З названага артыкула М. Матрунчыка. Падкрэслена мною. —* **Л. К.***).*

Я думаю, што нацыянальныя праграмы — гэта адно, а кіраваць іманентнымі сэнсамі — трошкі другое. «Звышнатуралёвыя» шляхі, як паказаў гістарычны вопыт, яшчэ нікога і ніколі ў рай не прыводзілі. Наўрад ці дапаможа і нам светлая казарма.

***«Яшчэ складаней што-кольвек пэўнае засведчыць пра Беларусь як пра нешта цэласнае ў духоўным сэнсе, і ўжо зусім немагчыма вызначыць для яе агульнае эстэтычнае поле. <...> Пакуль, у культуралагічным сэнсе, Беларусь немагчыма ўявіць нечым адзіным, гэта хутчэй архіпелаг, дзе ўнутры азначанай дзяржаўнымі межамі прасторы раскіданы вялікія і зусім дробныя астраўкі беларушчыны».*** *(Акудовіч В. Літаратура ў краіне Сакрэту. «ЛіМ», 1993, 1 студзеня).*

Не разумею, навошта вынаходзіць праблему, дамагацца адзінства ў культуралогіі? Не трэба і немагчыма. Цікава, што варта толькі В. Акудовічу перамяніць сваю «стратэгічную» мэту (угрунтаванне «масонаў беларушчыны»), як мы з ім адразу салідарызуемся ў гэтым пытанні: ***«Аказваецца, прастора эпохі постмадэрнізму супраціўляецца ўсялякай ідэалагеме (і нацыянальна-патрыятычнай таксама), якая імкнецца заняць пануючае месца***

Часопісы ў жніўні

# З ЧЫМ ВЫХОДЗІМ НА ЛЮДЗІ?

Са жнівеньскіх публікацый найперш варта вылучыць дзве: пачатак гістарычнага нарыса Ю. Туронка «В. Іваноўскі і адраджэнне Беларусі» (яго пачала публікаваць «Маладосць») і аповесць А. Федарэнкі «Такое кароткае лета» ў «Полымі». Што тычыцца матэрыялу Ю. Туронка, дык, думаецца, маладосцеўцы правільна зрабілі, напісаўшы невялікую рэдакцыйную ўрэзку. Колькі слоў з яе: «Вацлаў Іваноўскі... Няпросты лёс, складаная асоба, спрэчная дзейнасць. Але што рабіць: яго замоўчваць? Ганьбіць далей? Ці паспрабаваць усё ж разабрацца ў паводзінах і ўчынках гэтага дзеяча, як мы разбіраемся ў матывах дзеянняў князёў, цароў, правадыроў, авантурыстаў, дэспатаў і тыранаў, якія для нас героі ці ворагі-злачынцы альбо наадварот?».

Так, В. Іваноўскі «ў гады апошняй вайны быў у мінскай цывільнай адміністрацыі. Гэта значыць, як прынята ў нас гаварыць, супрацоўнічаў з фашызмам». Але ж В. Іваноўскі — адзін з найбольш выдатных дзеячаў беларускага Адраджэння пачатку стагоддзя. Менавіта ён разам з Б. Эпімахам-Шыпілам і іншымі аднадумцамі стаяў ля вытокаў выдавецкай суполкі «Загляне сонца і ў наша ваконца», увогуле шмат рупіўся на ніве кнігадрукавання. Адным словам, постаць В. Іваноўскага супярэчлівая, а каб зразумець, чаго болей пераважала ў яго дзейнасці — станоўчага ці адмоўнага, — неабходна вывучаць яго далёка няпростае жыццё, старанна разблытваючы тыя вузлы і вузельчыкі, якіх, будзем справядлівымі, набралася нямала. Так што нарыс Ю. Туронка — толькі першы падступ да гэтага. З аўтарам можна пагаджацца, але можна і спрачацца, яго ацэнкі можна прымаць і не прымаць, але, тым не менш, міма публікацыі прайсці нельга.

А што да аповесці А. Федарэнкі, дык гэта несумненная творчая ўдача пісьменніка. Гэтым разам ён паспрабаваў зазірнуць у душу калегі па пяры. Старэйшага, з пакалення, станаўленне і фарміраванне якога прыпала на так званыя «застойныя гады». Ці такімі ўжо застойнымі яны былі ва ўсім — іншая справа, наконт гэтага спрачацца не будзем. У дачыненні ж да героя аповесці, дык яны сапсавалі яго як асобу. І справа нават не ў тым, што ён асаблівых творчых задаткаў не меў. Страшней іншае: талент (які б ён ні быў!) рэалізоўваўся зусім не так, як трэба, развіваўся не ў тым кірунку, у якім мусіў бы развівацца. Рана ці позна, але павінна было б прыйсці прызнанне. Яно і балючае, але без яго ўжо далей нельга, бо яно — як тое ачышчэнне, як палёгка, што з'яўляецца пасля цяжкай і зацяжной хваробы. У дадзеным выпадку хваробы духу: «Я лічыў сябе прафесіяналам, аддаваў, як умеў, сваёй прафесіі ўсе сілы, як умеў, стараўся абслугоўваць той лад, са спакойнай душою перабудаваўся, каб абслугоўваць гэты лад, — і раптам убачыў, што ніякі я не прафесіянал. Я збіраюся з драўлянымі ночвамі — будучымі сваімі забаўляльнымі творамі — выходзіць на людзі, на базар, дзе ўсё застаўлена пральнымі машынамі...»

А. Федарэнка ўдала сумяшчае ў творы два апавядальныя пласты: уласна аўтарскі і свайго роду дзённік галоўнага героя. У першым выпадку, як і трэба чакаць, ацэнка яго ўчынкам, паводзінам быццам даецца збоку. У другім — споведзь чалавека, які нямала пеpажыў і дажыў да моманту, калі яму здаецца, што неабходна займацца падрахункаваннем таго, што зрабіў і чаго не здзейсніў. Да гэтага падштурхоўвае нечаканая хвароба сэрца, прытым цяжкая. І адбываецца вяртанне да вытокаў, паездка ў вёску, адкуль пайшоў ён некалі ў вялікі свет.

Тут, на маю думку, спрацоўвае не столькі сам прыём (хто з літаратараў самых розных пакаленняў не прымушае сваіх персанажаў у самы трывожны і скрушлівы момант шукаць панацэю ад усіх бед у вёсцы?!), колькі сама... праўда жыцця. Бадай, не знойдзеш нікога з так званых гараджан першага пакалення (а да іх, як вядома, адносіцца і герой А. Федарэнкі), хто б не адчуваў пастаяннай патрэбы адпачыць душой (ды і сэрцам) на зямлі бацькоў.

Але аповесць не так пра канкрэтны лёс (няхай і пісьменніцкі), як пра імкненне аўтара ўвогуле разабрацца з тым, што адбываецца сёння. І да гэтых балючых момантаў, тым самым, звяртаецца і пакаленне сённяшніх трыццацігадовых, пакаленне, якое менш за ўсё здатна нешта браць напавер, а да ўсяго хоча дайсці само. І падобнае жаданне настолькі моцнае, што часам А. Федарэнка не заўважае (а можа, і свядома робіць гэта?), як дзённікавыя запісы яго героя становяцца па сутнасці і развагамі самога творцы. Пра месца мастака слова і прыгожага пісьменства ў складаны і скрушны час. Пра яго адказнасць і перад самім сабой і перад нашчадкамі. І гэта не гучныя словы. Не будзем забываць: напісанае застаецца. Пасля сямі дзесяцігоддзяў тое, што засталося, больш менш ведаем (іншая справа — шмат што патрабуе сёння пераацэнкі, карэкціроўкі, каб разабрацца, дзе сапраўдныя мастацкія якасці, а дзе толькі кан'юнктура часу). А вось што застанецца пасля «разняволення» літаратуры — яшчэ неабходна падумаць.

Адказ тут не хуткі і не такі лёгкі: «Са зніккненнем цэнзуры аказалася, што аўтаматычна знікае і «ўласна літаратура», літаратура змагання. Магільшчык апынуўся ў адной яме з тым, для каго яе капаў, і цяпер астаецца толькі чакаць, пакуль зверху не пачнуць ляцець першыя жмені пяску». А вось так званая «літаратура абслугі» застаецца:» і мэты ў яе астаюцца тыя ж: усялякімі спосабамі закалыхваць, адводзіць людзей ад змагання».

Ёсць над чым задумацца, бо за гэтымі словамі і ёсць сённяшняе... творчае жыццё. Тое самае жыццё, калі асобныя ўвішныя літаратары,

*ўсярэдзіне і залежна ад сябе арганізоўваць жыццё на ўсёй падлеглай тэрыторыі».* (Акудовіч В. Постмадэрнізм. «Культура», 1993, 3 верасня).

*«Пакуль Абдзіраловіч гучыць актуальна кожным сваім словам, пакуль ён не стаў гісторыяй, ён трымае цябе са сваёй магілы мёртваю хваткай. Калі вучні не працягваюць поступ настаўніка, адбываецца выраджэнне рамяства. Гэта — смерць культуры. <...> Недзе далёка ад уласнага народа, у забытым людзьмі і Богам зімовым лесе гэты глушэц* (нацыянальная культура. — Л. К.) *метадычна паўтарае адзін і той танец. І толькі зусім выпадковы паляўнічы залюбуецца раптам гэтай аднастайнай паўтаральнасцю».* (Дубавец С. Смерць культуры. «ЛіМ», 1993, 5 сакавіка).

Прыкладна тое самае сцвярджае Ю. Залоска: *«...пачынаеш думаць, ці не можа стаць мінулае прадметам асабліва хваравітага пакланення... З памяці не сыходзіць біблейскае «мёртвыя трымаюць сваіх мерцвякоў»...* (Быт і бытнасць літаратуры. «ЛіМ», 1994, 14 студзеня).

Між іншым, Абдзіраловіч цытуе біблейскае ў такім кантэксце: «Не адразу выхаваць творчую адзінку. Будучына належыць да творчай асобы, але яшчэ доўгія гады «мёртвыя будуць хаваць сваіх мерцвякоў». (Абдзіраловіч І. Адвечным шляхам: Даследзіны беларускага светагляду. Мн., «Навука і тэхніка», 1993).

Найноўшыя аўтары, як бачым, вынаходзяць эфектныя мастацкія вобразы. Яны маглі б быць праўдаю, калі б былі тоесныя нашай канкрэтыцы. Няўжо так і немагчыма сёння вучню працягваць поступ настаўніка? І ці душыцель урэшце Абдзіраловіч? Ці з кашмарыкаў вуліцы Вязаў усе нашы папярэднікі?

*«І калі раней думалася, ну вось пераменім парадыгму і нарэшце атрымаем адказ, то ў другой палове XX стагоддзя трывала склалася разуменне, што ад усіх гэтых перамен ніякага толку няма і не будзе, і ўвогуле, надалей трэба кінуць гэтую дурную звычку караскацца па вертыкалі ўверх і наперад і «дэканструяваць» наноў адбудаваную чалавецтвам Вавілонскую вежу, бо не існуе ні верху, ні нізу, ні гісторыі («Канец гісторыі» Фукіяма), ні часу («Канец новага часу» Гвардзіні), ні чалавека («канец чалавека» Фуко), ні культуры («Смерць культуры» Дубавец)».* (Акудовіч В. Постмадэрнізм).

Гэта называецца — што б там ні было, але і мы ўпісаліся...

*«Цяпер настае час вылучэння культуры масавай. Гэта яна мусіць забяспечыць жывое бытаванне беларускае мовы ды пашырэнне гістарычнае нацыянальнае свядомасці. <...> Перакладаць Чэйза й відзікі можна ўжо сёння».* (Фрагменты калёквіўму ў рэдакцыі «НН». «Наша ніва», 1994, N 4).

Калі ўсур'ёз зблытаць маскульт з місіянерствам, двухмоўныя беларусы смяяцца будуць. Той жа Іван Афанасьеў — першы.

*«Кватэра! Во — быційная канстанта, што (у многіх выпадках найперш яна) давала моцы літаратурным «вяскоўцам» трываць у горадзе і тым самым неяк папаўняць літаратуру, множыць шэрагі пісьменнікаў... Кватэра — культура; культура — кватэра, — во амбівалентная быційная супазіцыя, наяўнасцю якой і вырашаўся да нядаўняга часу лёс таго, што мы прывыклі называць «культурай». <...> У цяперашняга пачынаючага літаратара «быційнае» канстанты няма і не намерваецца быць».* (Залоска Ю. Быт і бытнасць літаратуры).

Ці патрэбны тут каментарыі?

Я, аднак, думаю, што ўчарашняя моладзь не адно з-за адсутнасці кватэр гэтакая сярдзітая на Бацькаўшчыну.

Сёння, у сапраўды постмадэрнісцкай сітуацыі, беларускі дух мусіць выконваць задачу нацыянальнага адраджэння. Задача ж гэтая — архаічная, яна з часоў таго Вялікага Рамантызму, які ў цывілізаваным свеце даўно мінуўся. І трэба мець талент сапраўды выбітны, каб даць сучасны голас той гістарычнай песні, якую лёс не судзіў даспяваць Беларусі ў свой час; магчымасць з'явілася толькі зараз. Мажліва, перад намі не задача, а звышзадача. Патрэбен не рамантызм узораў класічных, а нейкі феномен, функцыянальна адпаведны яму. Між іншым, феномены і нараджаюцца з дысгармоній гістарычнага развіцця: «рэалізм у вышэйшым сэнсе» Дастаеўскага і Талстога, лацінаамерыканскі касмізм... У нашым друку ўсё часцей згадваецца «рамантычная» мара А. Адамовіча пра звышлітаратуру. Словам, чакацьмем новых класікаў, якія ізноў сцвердзяць нас у свеце, — насуперак самаедству, што зрабілася-такі нашай нацыянальнай рысай за вякі прыгнёту. Працытаваныя вышэй тэксты, на маю думку, дэманструюць найвыразна гэтую рабскую гатоўнасць таптаць свае магілы з-за прагі «паўнацэннасці», адпаведнасці культурнае модзе.

Урэшце гэта сумны парадокс: крытыцызм, народжаны рамантычна-безразважнай прагаю хутчэйшага новага нацыянальнага адраджэння, аказаўся ў нашай «моладзі» адпаведным агульнаму рудыментарна-савецкаму браку культуры.

Вядома, што каб выратаваць хоць бы аднаго чалавека (не кажучы ўжо пра цэлую нацыю), трэба найперш палюбіць яго, зразумець, адчуць боль за яго. А ў нас усё лупяць яго, і без таго ледзь жывога, даўбешкаю па галаве, — гэтак «адраджаюць». І ён, па адчайна-балючым слове класіка, яшчэ мусіць «дзякуй» крычаць...

**Людміла КОРАНЬ**

---

які гэтак славілі «чырвоны» сцяг, пачынаюць услаўляць «бел-чырвона-белы»... Для іх не важна, што і ў першым выпадку, і ў другім тое, што выходзіць з-пад пяра, вельмі далёкае ад сапраўднага мастацтва. Важна, каб своечасова... пракукарэкаць.

Калі А. Федарэнка, як і заўсёды, жыве блізкай яму сучаснасцю, дык А. Масарэнка ў прыпавесцях «Лесавікі» (часопіс «Полымя») расказвае і пра сямідзесятыя гады, і пра шасцідзесятыя гады, вяртаецца і ў ваеннае мінулае, і нават у трыццатыя... Гэта проза, што мацуецца на трывалым нацыянальным грунце. Яна традыцыйная ў лепшым сэнсе слова. З глыбокім псіхалагізмам, з дэталёвай вымалёўкай чалавечых характараў. Дзесяць прыпавесцяў — дзесяць асноўных лёсаў. Разам з тым, паколькі ў жыцці ўсё пераплецена, поруч з галоўнымі персанажамі раскрываюцца і другарадныя, але яны таксама выпісваюцца аўтарам псіхалагічна глыбока.

Нават не ведаеш, каго з герояў А. Масарэнкі вылучыць. Як і ў жыцці: што ні чалавек, то індывідуальнасць. Іншая справа, што пераважае ў ім — добрае ці благое. А хутчэй жа ёсць і тое, і другое. У гэтым сэнсе ўсё ж найбольш прывабны Янка Хвошч з «Прыпавесці трэцяй». Так сталася ўжо, што «складаная ў чалавека доля аказалася». З самага маленства, як кажуць, усё пайшло-паехала: «Малым — пяты год ішоў — яго ўкралі цыганы, і ён недзе каля дзесяці гадоў, пакуль і не падрос, бадзяўся з імі па свеце». Можна па-рознаму ставіцца да Хвашча (зноў жа праклятая вайна ўнесла сваю карэктыву, калі стаў ён старастам), але і ў гэтай прыпавесці, і ў наступных А. Масарэнка менш за ўсё схільны даваць нейкую канкрэтную ацэнку ўчынкам персанажа, апошняе слова за намі, чытачамі.

І яшчэ дзве празаічныя публікацыі ў «Маладосці». Аповесць У. Сцяпана «А» і заканчэнне аповесці Я. Сіпакова «Блуканні па іншасвеце». Ужо нават гэтыя творы сведчаць, што наша проза не стаіць на месцы, а імкліва набліжаецца да новых гарызонтаў. У. Сцяпан — прадстаўнік малодшай творчай генерацыі, таму для яго важней за ўсё разабрацца «ў сабе» і ў тых, хто поруч. А Я. Сіпакоў з поспехам асвоіў жанр фантастыкі. Хацелася б, каб наша крытыка заўважыла гэты твор: ён таго варты.

Паэзія таксама жыве сучаснасцю. Гэта відавочна з падборкі М. Дуксы ў «Полымі». Асабліва з верша «Казіно», што адкрывае яе:

**Ад канторкі люксовай і статнай**
**і да крамкі раённай прыватнай —**
**Беларусь (з ласкі сілы фатальнай)**
**стала ўсюды пляцоўкай ігральнай.**
**І па ёй заскакалі, бы ў танцы,**
**з акуратнаю стрыжкаю мальцы.**
**Шэпчуць ім тэлефоны і факсы**
**пра валютныя курсы і таксы.**

Але паэзія (прынамсі, паэзія М. Дуксы) таксама жыве не адным асэнсаваннем сучаснасці, а і пераасэнсаваннем нядаўняга і больш даўняга мінулага. Прынамсі, гэта бачна з вершаў «Маналог жабрака», «Беларускім жаўнерам», «Да лёсу Уладзіміра Маякоўскага»...

Такі ж роздум — і ў падборцы П. Макаля («Маладосць»): «Нямею на крыжовым раздарожжы, у тлумным заблудзіўшыся жыцці. Гукае трубна далягляд прыгожы, стукоча ў скроні кроў: куды ісці?».

І. В. Ракаў («Полымя») не абмінае сённяшняй супярэчлівасці і, як ачышчэнне, шукае ў трывалай народнай маралі, у паяднанні з блізкімі людзьмі, найперш з тымі, хто пайшоў з жыцця.

«Полымя» працягвае расказваць пра людзей, якія шмат рабілі дзеля Бацькаўшчыны, але доўгі час замоўчваліся. Гэтым разам В. Герасімаў («Да праўды светлай, братка, йдзі») падрабязна прасочвае жыццё Канстанціна Езавітава, лёс якога «быў складаны і поўны нечаканых паваротаў». В. Герасімаў, спасылаючыся на рэдкія публікацыі, архіўныя матэрыялы, пераканаўча паказвае, кім быў гэты чалавек для Бацькаўшчыны. Адно, бадай, патрабуе большага ўдакладнення: дзейнасць К. Езавітава ў гады вайны. Калі быць аб'ектыўным, дык да канца. Але, думаецца, тут шмат змогуць даць росшукі дакументаў, якія б дазволілі прытрымлівацца праўды і толькі праўды.

А вось артыкул С. Скарулiса «Я ведаю, вы мяне расстраляеце...» («Полымя») — ці не першае ў нас слова пра тое, як дзейнічалі карныя органы ў гады мінулай вайны, расстрэльваючы ні ў чым не павінных людзей. На дакументы, што яшчэ нядаўна захоўваліся ў «спецхранах», абапіраецца аўтар. Цяжка ўсё гэта чытаць. Цяжка, ды — трэба! Як нельга прамінуць і артыкул Л. Лыча «З нацыянальнага жыцця Беларусі» (таксама ў «Полымі»), у якім закранаюцца няпростыя перыпетыі верасня 1943 — мая 1945 гадоў).

**М. АНДРЭЕНКА**

---

На атрыманне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь

# ЦЯЖКІ ШЛЯХ ДА ПРАЎДЫ

Ці то ў канцы 1983-га, ці на пачатку наступнага года нам, у Інстытут гісторыі партыі, даслалі з галоўліта даволі аб'ёмістую папку — даць закрыты водгук на тое, што ў ёй. Справа для нас была зусім звыклая: нам тады прыходзілася часта па просьбе газет і выдавецтваў, па даручэнні вышэйстаячых устаноў рэцэнзаваць многія рукапісы і карэктуры — зразумела, у першую чаргу тыя, што асвятлялі пытанні рэвалюцыйнага і савецкага перыядаў.

Аднойчы такая папка трапіла мне. У ёй былі часткова ў карэктуры, часткова ў рукапісе раман Генрыха Далідовіча «Гаспадар-камень». Дагэтуль я ведаў ужо гэтае імя, чытаў апавяданні і аповесці маладога празаіка пра сучасныя вёску і горад, пра настаўнікаў, але тут — першы яго раман і, як я быў папярэджаны, пра нацыянальнае пытанне ў перадрэвалюцыйную эпоху.

Як вядома, тады да такіх твораў была звышпільная ўвага: па-першае, з высокіх трыбун гучала, што нацыянальнае пытанне ў нас вырашана справядліва, па-ленінску, няма ніякай патрэбы ўзбуджаць яго; па-другое, усё ж у ідэалагічных колах была небеспадстаўная асцярога, а то і боязь, што вось-вось можа адбыцца ў грамадстве абвастрэнне ў гэтым накірунку.

Калі я, адпаведна настройваючыся, пачаў чытаць «Гаспадар-камень», то ўсё больш адчуваў, што пісьменнік у гэтым творы, бадай, яшчэ не падыдзе блізка да «крамолы» — да паказу абнаўлення, узмацнення нацыянальна-дэмакратычнага руху, да спробы яго сіл (як тады гаварылі, буржуазных нацыяналістаў) утварыць БНР, якую па-ранейшаму асуджалі і кляймілі. Было відавочна, што аўтар спрабуе сродкамі літаратуры намаляваць пярэдадзень гэтых складаных падзей — вясковы, знешне сацыяльна і нацыянальна прыглушаны сялянскі побыт, духоўны свет як сталых, так і маладых тагачасных жыхароў, думкі і ўчынкі дробнага вясковага і гарадскога чыноўніцтва, інтэлігенцыі, сярод апошняй былі і, як кажуць у народзе, «гарачыя галовы».

Што да паказу вёскі, то ў мяне спачатку была чытацкая насцярога, што для маладога аўтара ёсць небяспека не выйсці з «ценю» выдатнай «Палескай хронікі» Івана Мележа, дзе беларускае сялянства даследавана і глыбока, і на высокім мастацкім узроўні. Але паступова, старонка за старонкай, я з той жа чытацкай радасцю, бачачы каларытную мову пісьменніка, яго ўменне маляваць і паказваць, дэталяваць, адчуў, што і тут ярка паўстаюць нашы вёска і сяляне, ужо з новым, налібоцкім, адценнем, што Нямкевічы, Гарбацэвічы, Чорныя — не проста героі, якія жывуць, думаюць, гавораць, штосьці робяць па аўтаравай волі, а самабытныя вобразы і тыпы, што яны нават паволі разбураюць усталяваны ў нашым літаратуразнаўстве, у гістарычнай навуцы, а ў некатарай ступені і ў асобных мастацкіх творах стэрэатып «забітага» чалавека «забітага» краю. Многія раздзелы, дзе паказаны спрадвечныя сялянскія клопаты, любоў сапраўдных гаспадароў да зямлі, працавітасць, сумленнасць, а таксама па-майстэрску выпісаныя сцэны лёсу любоўнага чатырохкутніка Зося-Янка-Віця-Анелька, не маглі не прынесці вялікага чытацкага задавальнення.

Праўда, тады я не мог «расслабіцца», не выпускаў з-пад пільнай увагі дзейнасць Алеся Нямкевіча, які, як зразумеў, быў носьбітам «крамолы» і, мабыць, выклікаў занепакоенасць тых, хто павінен быў падпісваць раман да друку. Гэты герой, сярэдні сын Нямкевічаў, настаўнік, у некаторай ступені нагадвае коласаўскага Лабановіча, якому было балюча за абжорства і марнатраўства «вышэйшых» і за галечу ды прыніжэнне «ніжэйшых» слаёў; таксама ён блізкі да Лявона Задумы Максіма Гарэцкага, таго, каму шчымела нацыянальнае пачуццё і хто нялёгка насіў яго, гэтае пачуццё, у сабе, у многіх сітуацыях быў адзінокі і самотны. Маючы гэтыя рысы, Алесь Нямкевіч у той жа час і адметны, ён не толькі пакутуе з-за нялёгкага жыцця землякоў ці з-за гвалтоўнай дэнацыяналізацыі царскай адміністрацыяй краю, але пачынае нават у царскіх умовах супраціўляцца, сваімі сіламі адваёўваць гонар беларуса, шукаць еднасці з тымі, хто дасягнуў у гэтай справе больш поспехаў.

Скажу шчыра, я хваляваўся з-за аўтара, калі ён прывёў Алеся Нямкевіча ў тагачасную Вільню, дзе тады быў асяродак беларускага руху, асветы, культуры, а гэта значыць нацыянальнай свядомасці (нацыяналізму, як сцвярджалі многія). Варта было б Генрыху Далідовічу толькі, скажам, назваць сваімі імёнамі Івана і Антона Луцкевічаў, Вацлава Ластоўскага, да якіх цягнецца яго герой, як яго, аўтара, тады чакала непазбежнае: альбо маляваць тых толькі чорнымі фарбамі, як гэта рабіў Ілья Гурскі ў хроніцы «Вецер веку», альбо не ўбачыць гэтыя раздзелы надрукаванымі.

Малады, але ўжо вопытны пісьменнік выбраў іншы, дапушчальны да мастацкай літаратуры шлях — калі можна так сказаць, выкарыстаў псеўданімы для вышэйназваных буйных асоб у справе станаўлення нацыянальнага светапогляду беларусаў, хто пазней быў у кіраўніцтве БНР і за што бязлітасна асуджаўся як вораг беларускага народа. Абмежаваўшыся невялікімі заўвагамі, я падтрымаў «Гаспадар-камень», і ён пабачыў свет у часопісе «Маладосць» у NN 3—5 за 1984 год. Пасля гэтага я асабіста пазнаёміўся з аўтарам, з якім мы правялі нямала дыскусій і якому я па магчымасці дапамагаў матэрыяламі. Галоўны вынік нашых дыскусій — абгрунтаванне канцэпцыі для новых раманаў «Пабуджаныя» і «Свой дом» (гэтыя творы я рэцэнзаваў для выдавецтва «Мастацкая літаратура»).

Мастацкі прыём, пра які я толькі што гаварыў, магчыма, і не самы лепшы, бо ён абмяжоўвае магчымасці ва ўсёй паўнаце сказаць належнае слова пра рэальных асоб нацыянальна-дэмакратычнага руху, але ўсё ж, лічу, гэты ход спрацаваў у тых умовах і паспрыяў у прынцыпе праўдзіва адлюстраваць перыпетыі палітычнай барацьбы, працэсы фарміравання БНР і БССР у 1917—1919 гады і ўжо тады рэзка адлюстраваць дзейнасць Фрунзе, Мяснікова, Кнорына і Ландара ў Мінску і ў Смаленску ў тыя часы за іхнюю абмежаваную, а то і варожую пазіцыю да стварэння беларускай нацыянальнай дзяржаўнасці на дэмакратычнай аснове, за іхняе зацятае супраціўленне нават дэкларыраванай БССР, як дзяржавы «рабочых і сялян», чым яны адштурхнулі ад бальшавіцкага палітычнага рэжыму многіх беларускіх дзеячаў (той жа Алесь Нямкевіч).

Тут варта падкрэсліць адну акалічнасць: Генрых Далідовіч вельмі ўважліва праштудзіраваў асноўныя працы нашых гісторыкаў пра той час, крытычна падышоў да многіх іхніх ацэнак, але ўмела асэнсаваў прыведзены імі дакументальны матэрыял (для нас, гісторыкаў, часамі гэта была адзіная магчымасць паказаць пранікліваму чытачу сапраўднае становішча спраў) і да ўсяго ўжыў у сваіх творах самыя розныя публікацыі па гісторыі БНР, што друкаваліся ці захоўваліся за межамі Беларусі. Адным словам, празаік мог бы пры жаданні абараніць кандыдацкую, а то і доктарскую дысертацыю пра ўтварэнне беларускай дзяржаўнасці на пачатку гэтага стагоддзя. У заключным рамане трылогіі, у «Сваім доме», напісаным ужо ў перабудовачныя часы, аўтар меў магчымасць назваць сваімі імёнамі рэальных, рэабілітаваных у гэты час асоб, але раней выбраны прыём дыктаваў свае правілы.

Цяпер і гісторыкам, і пісьменнікам ёсць усе ўмовы пра той няпросты адрэзак нашай эпохі, пра лепшых сыноў нашага народа, хто шчыра і сумленна прысвяціў сябе сцвярджэнню нацыянальнага, дзяржаўнага суверэнітэту Беларусі, а пазней паплаціўся жыццём за гэта і даўга быў зганьбаваны, пісаць спакойна, кожнаму аддаючы належнае сваё.

Але неабходна справядліва прызнаць: Генрых Далідовіч сваёй шматгадовай напружанай працай адзін з першых у нашай прозе паспрабаваў ужо шматколерна асэнсаваць гэта.

Яго трылогія «Гаспадар-камень», бясспрэчна, вартая таго, каб яе ўдастоіць Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь. Раманы гэтай трылогіі будуць хваляваць многія пакаленні беларусаў.

**Мікола СТАШКЕВІЧ,**
**доктар гістарычных навук, прафесар**

ЛіМ
ЧАСАПІС



## УСЕ ПЁРЫ МАГІЛЁЎШЧЫНЫ

**Даведнік пра пісьменнікаў Магілёўшчыны падрыхтаваны аддзеламі краязнаўчай літаратуры і бібліяграфічным абласной бібліятэкі. У ім змешчаны матэрыялы аб жыцці і творчасці літаратараў, якія нарадзіліся або творча сфарміраваліся, працавалі на Магілёўшчыне.**

**У даведнік уключаны і тыя аўтары, чые імёны пакуль шырока невядомы альбо вядомы толькі на Магілёўшчыне.**

**Напрыклад, М. Салаўцоў — журналіст з Чавус і М. Гудкова — будаўніца з Бабруйска, аўтары вершаваных зборнікаў. Ёсць звесткі і пра паэтаў — старшыню калгаса «Беларусь» Магілёўскага раёна А. Капылова, работніцу міліцыі В. Габрусёву, Н. Кавалёву з Горак, Л. Ляпко з Глуска, магілёўскага таксіста В. Кунцэвіча і іншых.**

**Шмат гадоў працаваў загадчыкам аддзела газеты «Магілёўская праўда» І. Ісачанка. У мясцовым драматычным тэатры доўга з поспехам ішоў спектакль па яго гістарычнай п'есе «Мурын бор». Выходзіць зборнік аднаактовак.**

**Прадстаўлены І. Шклярэўскі, М. Целеш, які, як і І. Шклярэўскі, родам з Бялыніцкага раёна. Самабытны пісьменнік згінуў недзе ў час ваеннага ліхалецця, творы яго, на жаль, не перавыдаваліся.**

**А ці шмат хто сёння помніць пра А. Вазілу — ураджэнца Прапойска? Яшчэ царская цэнзура нішчыла яго вершы, зборнік «Хвалі», праследавала прагрэсіўна настроенага паэта. І пры Савецкай уладзе Аляксандру Цімафеевічу не пашанцавала, быў арыштаваны, сканаў за калючым дротам, рэабілітаваны ў 1956 годзе.**

**Шмат каго зацікавяць пададзеныя ў зборніку звесткі пра пісьменніка, філосафа, святара XVIII -тагоддзя Г. Каніскага, які дзесяткі год жыў і тварыў у Магілёве, тут і пахаваны; пра перакладчыка П. Кабзарэўскага, пра арыгінальнага паэта М. Карпенку, пра М. Коласава, які жыў і памёр у Маскве...**

**Зборнік-даведнік прызначаны бібліятэкарам, краязнаўцам, літаратуразнаўцам, настаўнікам і ўсім, хто цікавіцца творчасцю пісьменнікаў-землякоў. І тут хочацца сказаць словы ўдзячнасці складальнікам — работніцам бібліятэкі А. Катлёнак і Н. Новікавай і рэдактару — намесніку дырэктара бібліятэкі Н. Мельнікавай і пашкадаваць, што даведнік выдадзены невялікім тыражом.**

**І. ГАЛІНОЎСКІ**

## ПАЧЫНАЛАСЯ З ПЕРШАГА...

**Вы, дарагія чытачы, бадай, звярнулі ўжо ўвагу на лісток у адрыўным календары «Родны край», пазначаны ўчарашнім днём — 29 верасня. Дата, праўда, не такая і круглая, тым не менш вартая таго, каб запісаць яе ў памяці: 465 гадоў таму, 29 верасня 1529 года, вялікім князем Жыгімонтам І быў уведзены ў дзеянне першы Статут Вялікага княства Літоўскага, які адначасова стаў і адным з першых у Еўропе сістэматызаваных законаў ва ўсіх галінах тагачаснага права.**

**Калі мы цяпер гаворым пра вяртанне ў Еўропу, дык, па сутнасці, першы ўваход нашай дзяржавы ў цывілізаваны свет і быў зроблены дзякуючы згаданаму юрыдычнаму дакументу. Безумоўна, Статут 1529 года — гэта дакумент, народжаны ў тагачасных палітычных і сацыяльных умовах, таму ён не мог не адлюстроўваць рэалій жыцця, якія склаліся. У прыватнасці, у Статут увайшлі нормы, што забяспечвалі прывілеі пануючаму класу, або яго групам. Але куды важней іншае: Статут прызнаваў суверэннасць дзяржавы (і, не будзем забываць, быў напісаны па-беларуску!), адзінства права, прырытэт пісанага права.**

**Юрыдычна замацоўваліся асновы грамадскага і дзяржаўнага ладу. Згодна Статуту, князь павінен быў захоўваць цэласнасць дзяржавы. Дзеля таго, каб дзяржава і на самай справе заставалася Вялікім княствам Літоўскім, а значыць і дзяржавай беларускай, на дзяржаўную службу дапускаліся толькі тыя, хто з'яўляўся яе грамадзянінам. Чужаземцы падобнага права не мелі. Не маглі яны атрымаць на тэрыторыі ВКЛ у сваё валоданне і маёнткі.**

**Увогуле, Статут складаўся з 13 раздзелаў і 244 артыкулаў. Пазней, пры ўнясенні дапаўненняў, колькасць артыкулаў павялічылася да 283. У Статуце закраналіся пытанні дзяржаўнага, шлюбна-сямейнага і спадчыннага, працэсуальнага, зямельнага, ляснога і паляўнічага, грамадскага, крымінальнага і крымінальна-працэсуальнага права.**

**Гэты Статут, як і Статут 1566 года, паслужыў асновай і крыніцай для распрацоўкі Статута 1588 года, які, як вядома, дайшоў (працаваў) да 1840 года. Ёсць меркаванне, што ў складанні і рэдагаванні Статута 1529 года прымаў удзел Францыск Скарына.**

**Так што, гаворачы сёння аб дзяржаўным уладкаванні, дэмакратычных свабодах, не забудзем, што пачатак шмат чаму быў закладзены ў Першым Статуце нашага Вялікага княства Літоўскага.**

Паэзія

Алег САЛТУК



# І ЧУЖАКІ МЫ НА ЗЯМЛІ СВАЁЙ...

### МАНА

**Манілі мне ўрачыста — будзеш ты**
**Пры камунізме жыць абавязкова.**
**А я — жабрак і мой кашэль пусты,**
**І хочуць адабраць яшчэ і мову.**

**Адкуль пайшлі,**
**Я ведаю так-сяк,**
**За чым ішлі — няспынна нас вучылі.**
**Куды прыйшлі?**
**Напаў на ўсіх стаўбняк:**
**Сказалі праўду ці ізноў схлусілі?**

### ПЫТАННЕ

**Нам не шэнціла з роду.**
**Пэўна, гэткі наш род:**
**На вачах у народа**
**Памірае народ.**

**Мы ідзём па свабоду,**
**На якую — наўрод.**
**На вачах у народа**
**Памірае народ.**

**Мова нам — асалода,**
**Ды — «язык наш — не тот!?»**
**На вачах у народа**
**Памірае народ.**

**Спекулянтаў чароды,**
**Маскультуры смурод...**
**На вачах у народа**
**Ці ўваскрэсне народ?**

•

**Ці настане час гаспадароў**
**У безгаспадарчасці ўсяіснай?**
**Струцілі і птушак і звяроў.**
**Хутка шпак, напэўна, і не свісне.**

**Рэкі спрабавалі павярнуць.**
**І яны даўно ўжо абмялелі.**
**Толам зруйнавалі даўніну.**
**І званы са страху анямелі.**

**І на мове роднае сваёй**
**Мы гаворым так яшчэ нясмела!**
**І не ўбачыш хутка над Дзвіной**
**Аніводнай чайкі белай-белай.**

### СКАРГА

**Мне дрэнна вельмі:**
**Боль і жаль**
**Штодня ўсяго мяне карэжуць,**
**Адчай і скруха без нажа**
**На сто кавалкаў мяне рэжуць.**

**Мне свет нямілы,**
**Белы свет,**
**Які я так люблю і кволю.**
**Вось, скажуць, выдумаў паэт —**
**У нас цяпер такая воля!**

**Не, воля ў полі жабраку**
**І воля-вольная вар'яту.**
**А нас трымае на пайку**
**Глухі да ўсіх кааператар.**

**Прапалі вёскі, і зямля**
**Без хлебаробскіх рук згібела.**
**Змарнела неяк спакваля**
**Святло душы ў гаротным целе.**

**І чужакі мы на зямлі**
**Сваёй, бацькоўскае святое...**
**Каму маліцца і маліць,**
**Каб прамінулася такое?**

### МАЙСТРА

**Узяў ён золата ў зары,**
**Калёр эмалі — ў небе сінім,**
**Сказаў:**
**— Агнём усё гары,**
**А крыж зраблю для Еўфрасінні!**

**Што для яго спыніўся час,**
**Цяпер было яму ўсё роўна:**
**Тварыў — няпрасты быў заказ,**
**А сказ для схімніцы-князёўны.**

**Ці для яе толькі адной,**
**З багамі стаць упоруч змогшай?..**
**Закончыў, цвёрдаю рукой**
**Імя сваё паставіў:**
**БОГША**

**І крыж успыхнуў на зары,**
**Асветлены яе душою.**
**І грэў далёкі кіпарыс**
**Так блізка тут,**
**Над Палатою.**

### НАДЗЕЯ

**Мала сказаць:**
**— Люблю,**
**Трэба дадаць:**
**— Да болю...**
**Нат калі ў гэту зямлю**
**Лягу — зайздросная доля.**

**Можа, з яе прарасту**
**Парасткам невядомым...**
**Чую яшчэ за вярсту:**
**— Сынку, збірайся дадому.**

**Голас матулін плыве**
**Над пералескам, над гаем...**
**Значыць, яшчэ дажывём,**
**Значыць, яшчэ дакахаем.**

Сяргей ВЕРАЦІЛА



# КАЛІ ДУШУ АГОРНЕ СМУТАК...

**За вакном краявід сумаваў,**
**І паветра напята трымцела.**
**Я апошнюю праўду спазнаў,**
**Цыгарэта мая дагарэла.**
**За вакном краявід дагараў,**
**За вакном краявід сумаваў.**
**Мае сэрца трымцела.**

•

**Залатое на чорным — поўня.**
**Поўня белым поўная.**
**Белае воблака ад святла поўні,**
**Шэрае воблака каля поўні.**

**Коціцца поўня,**
**Плыве воблака.**
**Сон адплывае,**
**Сляза коціцца.**

### РАЗМОВА

**— Сынок, хто там скача**
**у цемры начной?**
**— Нікога, бацька.**
**Толькі сіні халодны неон.**

**— Сынок, я чую, грукочуць**
**капыты па бруку.**
**Хто там скача?**
**— Нікога, бацька.**
**Толькі сіні халодны неон.**

**— Сынок, зорыць цёплае полымя.**
**Хто там скача?**
**— Нікога, бацька.**
**Толькі сіні халодны неон.**

**— Сынок, я чую голас.**
**Ён пяе і кліча.**
**Хто там скача?**
**— . . . . . . . . .**
**. . . . . . . . .**

**У месячным святле — мроіва сну.**
**Не ажыве, не спраўдзіцца мара.**

**Калі душу агорне смутак,**
**І вечар прынясе самоту,**
**Душа узрадуецца з музыкі пачутай**
**І ёй аддасць сваю пяшчоту.**

**І светлыя ўзгадкі**
**(Ёсць што ўспомніць)**
**Мяне абкружаць чарадой салодкай...**

•

**Не абміне**
**мяне**
**тваё прызнанне.**
**(А можа, гэта ўсё — мае трызненні?)**
**І толькі верш,**
**такі кароткі**
**і такі няўмелы,**
**Адзінае, што мне належыць...**

•

**Заплача нада мною маці,**
**Загалосіць, завые, заенчыць,**
**Пракляне сынаву нядолю,**
**Стане прасіць ад Маці Божае**
**спачування і дапамогі,**
**Гледзячы на ікону,**
**Дзе вясёлае і пульхнае дзіця**
**Добра сябе на руках пачувае.**

**Але дарэмнымі будуць**
**замовы і плачы,**
**Тая маці на іконе**
**Не здолела заступіцца**
**І за свайго сына.**

**Застанецца толькі**
**лёгкі успамін,**
**І дарогу скрэсліць**
**шэры далягляд.**
**На абрысы лесу**
**лягуць туманы,**
**І апошні яблык**
**аджалее сад.**

•

**Вока па звычцы крэсліць прастору**
**На даляглядзе.**
**Што мне раскажуць**
**спрадвечныя горы?**
**Што мне прашэпчуць**
**паўзучыя гады?**

**Што прашуміць мне аджылае лісце?**
**Што праспявае кіпучае мора?**
**Сэрца дарэмна шукае выйсця**
**З вокам акрэсленае прасторы.**

**І не падоўжыць працягласці гукаў**
**Сокам раздушанай**
**ў пальцах маліны...**
**Сэрца! Я чую твой грукат.**
**Там, за дарогай, далёка — Машына.**

Галіна БАГДАНАВА

# ВІШНЁВЫ САД

АПАВЯДАННЕ



Гэтую хату на ўскрайку гарадка, дзе мы звычайна летуем, я неяк адразу вылучыла сярод астатніх. Ад яе да рэчкі напрасткі ўсяго пару дзесяткаў крокаў. Зручнае месца. І хатка такая акуратненькая, блакітная, з белымі аканіцамі, крухмальнымі хусцінкамі фіранак, з усмешлівымі кветкамі-агеньчыкамі... Вы заўважалі, што, калі на падваконнях гадуюцца кветкі, нават просты альяс, здаецца, хата штораз усміхаецца табе, праводзіць уважным сваім паглядам, махае хусцінкай, зычыць дабра... Мінаеш такую аквечаную хацінку і лягчэе, харашэе на душы. Вяртаешся, і заўважаеш, што за плотам красуюць сабраныя ў гатычныя вертыкалі ружовыя мальвы і разбэрсаныя, усіх колераў — ад сляпучага лімоннага да мяккага малінавага — вяргіні. Яны сустракаюць цябе, як старога знаёмага, вітаюцца, паглядаюць гаспадынямі... Гародчык дагледжаны. Бульба, цыбуля, буракі, гуркі, памідоры, часнок, над усім — жоўта-зялёнае марыва кропу... Але галоўнае, што прыцягвае ўвагу — вішнёвы сад. Столькі вішань, буйных, налiўных, адна ў адну, я ніколі не бачыла. Там жыла Лісіха. На жаль, не папытала ні ў яе самой, ні ў людзей ейнага прозвішча, ці хаця б імені... Усе Лісіха ды Лісіха... Яна не крыўдавала, быццам нават ганарылася, што завуць, як калісьці звалі свякруху. Мужавы бацькі былі тут надта паважанымі гаспадарамі.



Праз пару дзён Лісіха ўжо частавала маіх малых вішнямі. Свежая белая хусцінка, выцвілая блакітная кофта, кавенька... Яна пасадзіла хлопцаў побач з сабою на лаўку пры веснічках і, падставіўшы ім нягнуткую ўжо сваю далонь, падсыпала і падсыпала туды з вядра вішань...

— Толькі на дарогу не плюйце. Дарога павінна быць чыстаю, — папярэдзіла цвёрда і, дзіўна, мае малыя адразу яе паслухаліся. Костачкі ляцелі ў прыдарожную траву.

А вось імёны маіх сыноў яе моцна здзівілі.

— Алесь? — перапытала Лісіха. — Неяк надта па-простаму. А Янка — гэта ж папольску... Ды ладна. Гадуйцеся. Расціце вялікія-вялікія, і мамку сваю не забывайце. Мае во ўжо і дзеці, і ўнукі павырасталі. Унукі тут, на суседняй вуліцы жывуць. Кваціеры са ўсімі удобствамі... Цяперака да мяне й вачэй не кажуць. Толькі што во па вішні. У Мінску на Камароўцы за вядро, кажуць, цэлу пенсію маю даюць. Няхай возяць, прадаюць. Мо й на машыны назбіраюць. А што ім са мною сядзець, прастарэкваць... Праўда?..



Слова за слова. Я пабедавала, што меншы мой шчэ слаба гаворыць. Лісіха праверыла, абнадзеіла: калі сказаў «камень», то ўжо загаворыць. Паспачувала мне, што «пужаныя» яны, мае малыя, можа, сабака калі кінуўся, абяцала загаварыць вады. Да яе, запэўніла, і з Мінска ездзяць паваражыць, ваду замаўляюць... А потым Лісіха вучыла хлопцаў гуляць «у каменьчыкі», перакідала цвёрдыя шэрыя драбочкі з тыльнага боку на далонь, назад, і расказвала, расказвала... Ці то гісторыю, ці то жальбу свайго жыцця...

У вайну, як і ўсе яе суседкі, засталася ўдавою. Вось такая заклятая вуліца... Дваіх дзяцей сама падняла на ногі. Сына і дачку. Сын, як паехаў на Поўнач служыць у арміі, так там і застаўся. Прыжаніўся. Дзяцей, праўда, нямашака. Але неяк жывуць. Піша. Прыязджае. Гэта ён і хату пафарбаваў, і плот падправіў, і вішні рассадзіў. Абяцаў і сёлета падвосень прыехаць. А дачка, дык тая пры ёй засталася. Хлопец з суседскае хаты пасватаўся. Абодва ж, здаецца, і не дурныя былі, прыгожыя, і да працы здатныя, жыць бы й жыць. Двое сыноў адзін за адным у іх нарадзіліся. Лісіха дасюль сябе дакарае: каб пры ёй, у гэтай во хаце жылі, можа б, і добра ўсё было. Ды надта ж горды, не схацеў у прымы, пайшлі да яго. А ў суседкі, ягонае маткі, заўжды на вячэру — пляшачка. Уцягнуўся. І ён, і дачка. А дзе пляшка, там сварка. Унукаў яна, Лісіха, і карміла, і абмывала. І дачку назад у хату, было, перацягнула. Ды ад долі сваёй хіба схаваешся? Прыбег мужык, вокны пабіў, дзяцей забраць хацеў. Дачка, як была ў начной сарочцы — на двор, ды на бяду ў сенцах керагаз падхапіла, поўненькі. Плёснула на таго газаю... «Падпалю!» — крычыць. А ён п'яны, яму мора па калена... Ну і чыркнула запалкаю. А потым тушыць кінулася. Так абодва і згарэлі. Лісіха, калі з хаты выбегла, малых жа трымала, каб услед за маткаю не выскачылі, позна ўжо было. Позна...

— І ўнукаў, як дзяцей... Адна падымала. Сын, праўда, памагаў. Калі грошы, калі адзежы якой прышле... Адгаравала сваё... Цяперака хай яны сваё гаруюць... Ажаніліся ж адзін і другі. Кваціеры са ўсімі удобствамі. А я... Што ім я... Вока во адно зусім не бачыць. Глухну... І твар... На малпу падобная... Праўда?

Я сачыла за малымі, каб меншы не праглынуў костачкі, каб большы не выбег на дарогу, і не прыглядалася, не ўглядалася ў яе твар... А калі на развітанне зірнула... Як апякло мяне... Ды не, не твар. Вочы. Адкрасавалі, выцвілі ейныя вочы. Ад тугі, ад слёз. Такія вочы былі ў маёй нябожчыцы бабулі перад смерцю...

Калі абабралі вішні, я бачыла, як раненька, да спёкі, абапіраючыся на нізенькі, спецыяльна прыстасаваны для таго зэдлік, поўзала Лісіха між градаў — палола. У нядзелю зранку аўтобус раптам спыніўся ля нашае вуліцы...

— Лісіху чакае. Да царквы падвозіць. Самой ёй ужо не дайсці, — растлумачыў сусед.

А потым некалькі разоў уздымалі пыл, ляцелі паўз нашую хату шалёныя «Мерседэсы».

— Да Лісіхі. Па ваду. — шапнула на вуха суседка.

Прайшоў год. Сёлета ізноў да вішань і яблыкаў прыехалі мы ў той маленькі, атулены ляснымі ўзгоркамі гарадок. З дарогі, ды ў гэткую спёку... На рэчку! Вядома ж, на рэчку... І як там пачувае сябе нашая Лісіха? Мы ёй прывезлі абрус і каробку цукерак. Вада ж, загавораная ёю, крынічная вада, здаецца, дапамагла...

Сон. Не, не сон. На месцы яснавокай, усмешлівай хацінкі стаяў суровы мураваны палац.

Вішні, бліскучыя, гладзенькія цэлымі гронкамі хінуліся да дарогі. Але нават суседскія хлопцы іх не шчыпалі. Сабака праводзіў усіх злосным, надрыўным брэхам.

Наша суседка ўсё растлумачыла. Лісіха шчэ ўвосень памерла. («Цяжка канала... Ой, цяжка...Яна ж чараўніца. А ў іх, пакуль душа да неба дабярэцца, ой нацерпіцца, напакутуе...») А ўнукі, бо сын і на пахаванне не прыехаў, адразу прадалі хату армянам. За долары. Купілі сабе па «Мерседэсу». Адзін — белы, другі — «колеру электрык» (гэта сын суседцы так сказаў, ён з імі ў леспрамгасе разам працуе).

Да гэтага лета Арменія ў мяне асацыявалася з выдатнаю паэткаю Сільвай Капуцікян, па суседстве з якой мы гадоў пятнаццаць таму адпачывалі ў Кактэбелі. Годная, падцягнутая, і ў свае шэсцьдзесят яна ў доўгай, строгага крою сукенцы не ішла, мякка ступала, няўмольна нагадваючы мне старажытную царыцу горнага, з небам абвенчанага сар'янаўскага краю... І прыветнасць у яе была царская. І жэсты, і гаворка, і вершы, якія чытала на адным з вечароў... А ўслед паспяшалі ейныя дзеці, беглі, раіліся, як пчолкі, унукі. Культ сям'і, культ маці ў Арменіі дасюль святы. Хоць прывучаныя найперша не да сямейнага, а дзяржаваю заведзенага парадку славяне пасмейваліся, дзівіліся, як гэта яны ўсе (чалавек восем ці дзесяць) жывуць у на траіх разлічаным пакоі, ды яшчэ й харчуюцца ў сталоўцы дома творчасці...

Потым, ужо ў Мінску, я чытала ейныя поўныя болю за родны край артыкулы ў «Літаратурнай газеце»... Потым Карабах, землятрус... Ізноў немы боль застыў у, як сцвярджаюць знаўцы красы, найпрыгажэйшых у свеце, правільна акрэсленых, глыбокіх вачах старажытных армянскіх фрэсак... Ахвяры, скрозь усё жыццё ахвяры...

Божа, як жа не стасаваліся з маімі юнацкімі ўяўленнямі, з вызначэннем «ахвяры», ды і з нашым бядотным для ўсіх, хто шчыра працуе жыццём, — раз'етыя, расхрыстаныя (сарочкі не сыходзяцца) гаспадары новай камяніцы ў нашым маленькім прырэчным гарадку! Яны з насалодаю падстаўлялі свае валасатыя, ды не, поўсцю зарослыя грудзі сёлета нечакана для ўсіх не засмужанаму, не заплаканаму, пасар'янаўску пякучаму нашаму сонцу. І адзінае, што аддалена нагадвала мне паэтычную царыцу Сільву, гэта хоць і не такі імклівы і мяккі, ды ўсё ж царскі поступ таго, які заўжды крочыў наперадзе, ды яшчэ, бадай, цэлы рой смуглявых дзетак, што ляцелі ўслед за дарослымі, бліжэй, бліжэй да сваёй сям'і, да сваёй радзімы. І іхняя незразумелая, далёкая горная гаворка злівалася ў адзінае пчалінае джырканне. Потым я бачыла, як чарнявыя хлапчукі, стоячы ў чарзе па малако, нядобра хіхікалі, чытаючы, каверкаючы, нявечачы беларускія словы над прылаўкам. Больш за ўсё іх чамусьці весяліла слова «яйкі».

Нехта ў чарзе расказаў, што гэта «нярускія» (у гарадку армян вельмі ж панашаму называюць «нярускімі») падбілі суседскіх хлапчукоў украсці барана. Асвежавалі, з'елі. Падлеткаў засудзілі на чатыры гады, а ім нічога... Яго тут жа перабілі: «А во ўчора дзяўчынка танула... Яе ж таксама нехта з іх, нярускіх, выцягнуў»...

Як я зразумела, жыло ў той камяніцы чалавек дваццаць. Сям'я дык сям'я... І да нас завітаў адзін, юнак, хлопец яшчэ. Павітаўся. Спытаў, ці можна яблыкаў-падкаў назбіраць... Нам што...

— Бярыце. Абы дрэвы не ламалі...

— Зачем же деревья ломать... Деревья ломать нехорошо...

«Можа й, някепскія будуць гаспадары...» — згадаўшы абламаныя ўчора суседскімі падшыванцамі нашыя вішні, паспрабавала я суняць сваю зрэшты натуральную патрыятычную пыху. Можа й, праўда, зямлі, нават нашае, на ўсіх хопіць. Яна шчодрая. Хто яе дагледзіць, уробіць, таму і дасць...

У іх не было яблыкаў. Затое было шматшмат вішань... Што збіраліся рабіць яны з імі, не абіраючы, выгадваючы пару, у гарадку так і не дазналіся. У адну ноч у іх абабралі амаль усе вішні. Сабака брахаў, але хто яго пачуе ў навальнічную ноч, калі маланкі сякуць неба і вецер з дажджом? Не прадыхнуць. Ці мала што прымроіцца прыкутаму ланцугом сабаку. Усяго два ці тры дрэвы засталіся неабабранымі. Пры самых вокнах. Тут ужо і суседкі паспачувалі няўдалым новым гаспадарам. Такога ж у іхнім гарадку не было адвеку...

На другую ноч сабаку спусцілі з ланцуга. І калі зайшоўся ён у брэху, не зважаючы на навальніцу, нехта з мужчын выйшаў на ганак...

Ля дрэў шчыравала жанчына ў белай хусцінцы. Яна, ніяк не рэагуючы на вецер і залеву, абірала вішні. Яна то ўладарна загадвала ім нахінуцца, то сама лёгка ўздымалася, узлятала да самых верхавін... Гром глушыў надрыўны сабачы брэх і гартанныя адчайныя ўскрыкі гаспадара. Маланка асвятляла ёй шлях і зоркамі пырхалі сярод змакрэлага лісця ягады. Вецер сарваў з сабачні бляху і... паслужліва нахінуў вішнёвыя голькі проста жанчыне ў рукі... Яна ізноў стаяла на зямлі. Ахрыплы сабака шалёна кінуўся, ужо, пэўна, не першы раз адчайна заглытваючы, раздзіраючы не фартух, не ейную спадніцу, не ейныя ногі — начное паветра і дождж... Другі мужчына выбег з самастрэламі. І ўжо на два галасы яны, не сыходзячы з ганку, нешта крычалі, стралялі ў паветра і па ёй... Але дождж не сціхаў, гром глушыў усё наўкола, і маланка мёртвым бляскам адбівалася ў шыбах. А жанчына ў белай хусцінцы ўсё абірала і абірала свае вішні...

Калі неба адгаласіла і хмары выпусцілі са смятрэльных абдымкаўваспаваты месяц, яна скончыла сваю працу, падхапіла бязважкія вёдры, і на ейным твары, у пустых вачніцах тужліва і ясна засвяцілі зоркі...

Гэта была другая запар навальнічная ноч. На дрэвах не засталося ніводнае вішні...

Той смуглявы юнак, што прыходзіў да нас па яблыкі-падкі, ажно перасмыкнуўся, расказваючы пра ўсё гэта... Перасмыкнуўся і перажагнуўся...

А ўвесь гарадок ужо працяла новая ліхаманка слыхаў. Унукі Лісіхі, тыя, што жылі ў «кваціерах са ўсімі удобствамі», зранку зайшлі кожны ў свой гараж, — мураваныя, на два замкі зачыненыя, — убачылі, што іхнія «мерседэсы» — белы і «колеру электрык» — як макам абсыпаны... вішнямі. На даху, на капоце, на багажніку — паўсюль зырчэлі налiўныя, салодкія ягады. Такія былі толькі ў іхняе бабулі. А ў машынах, на заднім сядзенні — кожнаму па вядры... Ейны дзёрзкі, горкі напамін аб прададзенай чужакам прадзедавай сядзібе...



Малюнкі Ул. СКРЫГАНАВА

## БАСАНОЖ У НЕВЯДОМАСЦЬ?

**«Басаногім у Афінах» распачаў свой сёлетні сезон Тэатр-студыя кінаакцёра ў сталіцы. Распачаў, міжволі вызначыўшы праз сцэнічны твор, мовім так, свой сённяшні стан ды становішча (крый Божа, каб лёс!). Паводле Аляксандра Яфрэмава, мастацкага кіраўніка тэатра-студыі, каб жыць, трэба рабіць спектаклі, але рабіць спектаклі няма за што. (Дарэчы, у мінулым сезоне на праспект Машэрава прэм'еры збіралі гледачоў ажно пяць разоў!) Выкручвацца, падбіраючы касцюмы ды дэкарацыі з іншых, старых, знятых спектакляў? Паспрабавалі. Год удавалася. Рэч ужо не ў тым, што заўсёднікі пазнаюць фатэлі ды шафы, абрусы ды халаты са спектакля ў спектакль, а ў тым, што і яны, часова ратуючы становішча, ледзь ліпяць. Сякім-такім найнеабходным рэчам рэквізіту тры чвэрці да смерці і яны могуць не дацягнуць нават да Калядаў...**

**Тэатр-студыю кінаакцёра фінансуе кінастудыя «Беларусьфільм», таму яе генеральны дырэктар кінарэжысёр Юры Цвяткоў не здзівіўся на просьбу вызначыць будучыню тэатральнага ўтварэння пры кіно. Не здзівіўся. Але — не вызначыў. Бо сама кінастудыя з усімі найскладанымі праектамі ды каштоўным абсталяваннем, з калектывам неблагіх прафесійнікаў ды адметнасцю творчых планаў відавочна асуджана на невядомасць. Кім? Урадам. Дакладней, тымі з урада Беларусі, якія ўжо мусяць сказаць пэўна: дае дзяржава Беларусь на кіно грошы ці не. Калі дае, дык калі і колькі? Калі не дае, дык што замест грошай гарантуе? Калі нічагуткі не гарантуе, дык... «Дык гэта трэба ведаць ужо!» — скончыў Юры Цвяткоў. Скончу і я. Толькі перш сціпла засведчу, што пра ўрадавых адміністратараў, прыстаўленых да культуры Беларусі, ён спакойнай ды добразычлівай думкі і чакае ад іх не грошай. А пэўнасці.**

**Жана ЛАШКЕВІЧ**

## НАЙГАЛОЎНАЕ — ДОБРАЯ ВОЛЯ

**У Дзяржаўным тэатры лялек Беларусі — невялікая адміністрацыйная змена: мастацкім кіраўніком зрабіўся дырэктар Яўген Клімакоў (прытым што Аляксей Ляляўскі застаецца галоўным рэжысёрам). Менавіта з імі абмяркоўвае цяпер Міністэрства культуры і друку разам з гарадскімі ўладамі перспектывы Міжнароднага лялечнага фестывалю, які мае адбыцца вясною 1995 года. Абмяркоўвае асцярожна. З сумнівам. Надта цьмяна вымалёўваецца будучыня беларускага тэатральнага фэсту...**

**Між тым 1 кастрычніка Дзяржаўны тэатр лялек адкрывае чарговы сезон. Па традыцыі — «Дзедам і жоравам» А. Вольскага ў пастаноўцы Аляксея Ляляўскага. Актрыса Валянціна Белаш, занятая ў спектаклі, на сёлетнім фестывалі ў Омску (Расія) была прызнана лепшаю актрысаю. Дарэчы, яшчэ два расійскія фестывалі, у Разані ды Цверы, прымалі нашых лялечнікаў са спектаклямі «Дзед і жораў», «Папялушка» ды «Цар Ірад». Прымалі ды з неахвотаю адпускалі, упадабаўшы спектаклі Аляксея Ляляўскага. Ён сам у чэрвені паспеў падрыхтаваць і адсвяткаваць у Нідэрландах прэм'еру спектакля пад назваю «Дзень пасля...», — вялікі сумесны праект еўрапейскіх лялечнікаў. Мяркуецца, што на нашым фестывалі ў маі 1995 года мы зможам яго ўбачыць. А пакуль што самыя свежыя спектаклі Дзяржаўнага тэатра лялек — «Банжур, мёсье Пэро!» Н. Слепаковай паводле казак Шарля Пэро (пастаноўка Аляксея Ляляўскага, мастак Аліна Фаміна) ды «Румі і стары леў» Івана Вострыкава (Балгарыя), ажыццёўлены Ірэнай Мацкевіч і Ларысай Герлаван, — прызначаны для дзіцячай аўдыторыі. Вось-вось адбудзецца прэм'ера «Кацяняці Гава» Р. Осцера (працуюць над ім А. Ляляўскі з А. Фамінай), а напрыканцы года гарадзенец Мікалай Андрэеў распачне стасункаванне з «Алі-Бабой і сарака разбойнікамі». Са свайго боку, нагадаю, што праекты «Забаў фартуны» У. Радзівіл ды «Урока» Э. Ёнэскі ўжо два гады як чакаюць — фінансавання, распрацоўкі, увасаблення. Як, магчыма, і адметныя творы дзіцячай літаратуры, да якіх у тэатры ці то рукі не дацягваюцца, ці то галава не паварочваецца. Напэўна, наспявае часіна для пэўнага і мэтанакіраванага тэатральнага праекта, які перадусім меў бы на ўвазе гэтую літаратуру, бо спатрэбяцца і п'есы паводле яе, і каментарыі спецыялістаў, і, найгалоўнае, — добрая воля выканаўцаў. Бо, як вядома, Толкіен або Льюіс, Кіплінг або Клавэль — гэта не «Алі-Баба...» і не дзяжурныя кацяняты са сланянятамі. А калі замахнуцца на цыкл, скажам, казак Андэрсана або Караткевіча?**

**Ж. Л.**

Музыка

# ЧАМУ КВЕТКА — САМОТНАЯ?

### 17 ВЕРАСНЯ, 210 ГАДОЎ ТАМУ, У НЯСВІЖЫ АДБЫЛАСЯ ПРЭМ'ЕРА ОПЕРЫ «АГАТКА»

Матэрыялы пра «Агатку» — першую створаную на Беларусі прафесійную оперу — неаднаразова траплялі на старонкі «ЛіМа». Спачатку — паведамленне пра вяртанне з-за мяжы рукапісу яе партытуры, што дасюль лічылася страчанай. Потым — інфармацыя пра запіс оперы на Беларускім радыё. Дарэчы, мне ўсё яшчэ не верыцца, што ў хуткім часе, якраз напярэдадні 210-х угодкаў прэм'еры, твор зноў прагучыць на радзіме, настолькі складаным быў шлях да гэтай падзеі. Але вопыт апошніх гадоў пераконвае ў тым, што ўвядзенне ў выканальніцкую практыку нядаўна знойдзеных музычных помнікаў адбываецца надзвычай хутка і плённа. Пакуль адны з нас, музыказнаўцаў, з захапленнем, другія — з недаверам глядзяць на старадаўнія рукапісы, вывучаюць і ацэньваюць іх мастацкія якасці, вакалісты ды інструменталісты ўжо з поспехам выконваюць вернутыя з небыцця творы ў канцэртных залах, на радыё, тэлебачанні і нават запісваюць за мяжой на кампакт-дыскі (нядаўнія бліскучыя вопыты «Кантабіле» — таму сведчанне).

Так яно, напэўна, і павінна быць. Бо шлях навукі пралягае не па вяршынях, скалануты́х громам авацый і залітых сонцам поспеху, а па змрочным зарасніку страт і сумненняў. Плады ж даследчых намаганняў выспяваюць марудна, няхутка і не могуць параўнацца па яркасці з вынікамі дзейнасці артыста, мастака. І я напэўна ведаю (і веру), што эмацыянальнае ўздзеянне музыкі «Агаткі» акажацца невымерна больш моцным, чым любыя словы пра яе. Тым не менш, хачу падзяліцца некаторымі думкамі, што ўзніклі ў працэсе аналізу оперы (падкрэсліваю, па ходзе, а не ў выніку працы, яшчэ далёкай ад завяршэння), і якія, магчыма, дапамогуць будучым слухачам «Агаткі» лепш зразумець твор.

Для тых, хто не знаёмы з ранейшымі лімаўскімі публікацыямі, нагадаю, што гэты твор — самы буйны з вядомых на сённяшні дзень помнікаў айчыннай музычнай культуры XVII ст. Яго аўтары — нясвіжскі кампазітар нямецкага паходжання Ёган Голанд і музыкант-аматар, вядомы й сваімі літаратурнымі вопытамі, Мацей Радзівіл. Месца напісання і пастаноўкі оперы — Нясвіж, дата прэм'еры — 17 верасня 1784 г. — адзін з дзён, калі ў радзівілаўскай вотчыне гасцяваў апошні кароль Рэчы Паспалітай Станіслаў Аўгуст Панятоўскі. Менавіта ў яго гонар і наладзіў уладар Нясвіжа Караль Радзівіл шыкоўную тэатральную імпрэзу, што складалася з названай оперы і з балета «Арфей у пекле», музыка якога таксама належыць Голанду.

Фабула «Агаткі» нескладаная. Маладая прыгонная сялянка сірата Агатка кахае вясковага хлопца Антака Цалку. Шлюбу закаханых імкнецца перашкодзіць падстараста Піяшка, які абяцае іншаму хлопцу, таксама Антаку, але па прозвішчы Гайдак, аддаць дзяўчыну за яго.

Агатцы з Цалкам спрабуюць дапамагчы гаспадар Валента — апякун дзяўчыны, а таксама старая служанка Плацюхова, але іхнія намаганні аказваюцца дарэмнымі. Толькі добры пан — уладар вёскі, вярнуўшыся з палявання, спыняе Піяшкаву інтрыгу і дарује маладым шчасце: ён дазваляе дзяўчыне ўзяць шлюб з тым Антакам, якога яна кахае. Опера завяршаецца ўсеагульнай радасцю і ўхваленнем добрага пана.

Пасля нясвіжскай прэм'еры «Агатка» на працягу 40 гадоў не сыходзіла з лепшых сцэн Варшавы і Любліна, Кракава, Львова і Познані. Менавіта яе пастаноўкай аж у 1926 годзе былі адзначаны 150-я ўгодкі заснавання Варшаўскага тэатра.

Жанр «Агаткі» яе стваральнікі вызначылі як «аперэтка» — тэрмінам, які ў той час выкарыстоўваўся для вызначэння невялікай оперы, бытавой камедыі ды ўсіх разнастайнасцей камічнай оперы. Гэтаксама, як і ў французскіх, рускіх, нямецкіх ды польскіх камічных операх, у «Агатцы» чаргуюцца размоўныя і музычныя сцэны і нумары, прычым, паводле жанравай традыцыі, у слоўных эпізодах рухаецца дзеянне, у музычных жа — даецца характарыстыка эмацыянальнага стану герояў.

Сваёй тэматыкай «Агатка» вельмі арганічна ўпісваецца ў плынь еўрапейскага мастацтва эпохі Асветніцтва з яго цікавасцю да пейзанскіх матываў, ухваленнем «натуральнага чалавека» і заклікамі да спадарскай міласэрнасці. Дастаткова прыгадаць «Вясковага чараўніка» Русо, «Вясковае выпрабаванне» А. Грэтры ў Францыі, «Лотхен пры двары» І. Хілера ў Германіі, «Анюту» І. Папова ў Расіі, «Ашчасліўленую галечу» М. Каменскага ў Польшчы. І нават канкрэтная персаніфікацыя сялянскай дабрадзейнасці ў вобразе «вясковай інжэню» таксама вельмі паказальная для свайго часу. Тое ж можна сказаць і пра музычную мову твора — у цэлым тыповую для камічнай оперы і вызначальнай для стылю Голанда як прадстаўніка паўночнанямецкай школы. У творыназіраецца адзінства і з іншымі мастацка-стылёвымі плынямі, аж да канкрэтных мелодыка-тэматычных аналогій з опернымі ды сімфанічнымі опусамі Я. Стаміца, Ё. Гайдна, В. Моцарта, А. Грэтры і інш. Ёсць у «Агатцы» і сляды ўздзеяння славянскай музыкі.

Цікава, што музычныя сродкі, абраныя кампазітарам для характарыстыкі другарадных персанажаў, розняцца: маюць гумарыстычнае адценне ў адносінах да Плацюховай і Валенты, сатырычнае — адносна Піяшкі ды Гайдака. Што да Пана, дык ён увогуле не мае музычнага «аблічча». Вяршыцель лёсаў выступае толькі напрыканцы дзеі са слоўнымі маралізуюча-афарыстычнымі сентэнцыямі, у якіх гучыць заклік да шанавання сялянскай працы, з якой «кормяцца ўсе саслоўі».

А цяпер пра галоўных герояў оперы. Справа ў тым, што музычная мова Агаткі ды яе выбранніка значна адрозніваецца ад агульнапрынятых у такіх выпадках канонаў. Калі вобразы высакародных пасялян большасці аналагічных опер характарызавала музыка пераважна песенна-танцавальнага складу — па сваёй лексіцы, так і па жанравай «генетыцы», дык вясковую пару з «Агаткі» — надзвычай далікатная, рафінаваная, узыходзячая да стылістыкі італьянскіх оперных арый. Досыць вытанчаны, складаны й мудрагелісты меладычны малюнак, шчодра аздоблены мелізматыкай, шырокія тэсітурныя памеры, развітыя і разгорнутыя формы, — усё гэта выклікае аналогіі з тымі музычнымі сродкамі, якія крышталізаваліся й клішыраваліся ў цал-

# ПАНСОФІЯ — МУДРАСЦЬ ДЛЯ ЎСІХ

***Можна толькі здзіўляцца, як у гэткім хаосе, калі пэўныя грамадскія працэсы ўжо непадуладныя кіраванню, існуе прыстойнасць, захоўваецца парадак, выяўляюцца міласэрнасць і павага да чалавека. Калі йдзе несумленнае «першаснае назапашванне капіталу» і адны захапіліся казнакрадствам або «прыхватызацыяй», іншыя, не здраджваючы свайму сумленню, дбаюць пра інтарэсы грамадскія, не маючы з гэтага ніякай карысці.***

***З ліку гэтых «іншых» — і гродзенскі педагог, выкладчык кампазіцыі, старшыня Асацыяцыі кампазітараў Гродзеншчыны Віталь РАДЗІЁНАЎ. Яшчэ я назваў бы яго гуманістам і асветнікам. Бо гэтага энтузіяста ведаюць не толькі ў Гродне, але і ў Ваўкавыску, Гожы, Лідзе, іншых мясцінах вобласці. Ён не толькі прапагандуе музыку, выкладаючы ў школах, але і дапамагае даравітым дзецям у творчасці, для заахвочвання ўстанаўлівае свае імянныя стыпендыі. Выдаткоўвае свае сумленна зробленыя і зусім не лішнія грошы — у той час як шмат каму карціць урваць хоць нешта ад агульнага набытку...***



**— Віталь Канстанцінавіч, пра сваё прызванне людзі дазнаюцца рознымі шляхамі. Як прыйшлі ў музыку вы?**

— Калі мне споўнілася 12 гадоў, наша сям'я пераехала з Ваўкавыска ў Гродна. Тут у школе нейкая нагода звяла са старшакласнікам — апантаным музыкай Іванам Харытановічам. Уразіла, як пранікнёна граў ён на баяне Сёмы вальс Шапэна. Запомнілася, як тлумачыў ён сэнс фіналу Першага фартэпіяннага канцэрта Чайкоўскага. Ён навучыў любіць класічную музыку. Я прыняў яе і зразумеў, што музыка, пра існаванне якой раней і не ведаў, удасканальвае чалавека, уплывае на ягонае жыццё. Я пачаў займацца на баяне, іграў па некалькі гадзін у дзень. Потым з'явіліся першыя ўласныя мелодыі. У 1964 годзе паступіў у Гродзенскае музычнае вучылішча. Яно не сталася для мяне чымсьці значным, апроч аднаго: некалькіх канфліктаў з дырэкцыяй...

— ?!?

— Справа ў тым, што са свету сяброўскіх адносін, якія пераважалі ў школе, з ідэальнага свету класічнай музыкі ды высокіх ідэй я трапіў у іншы свет — карыслівасці ды крывадушнасці. Аднойчы, заступіўшыся за сваіх таварышаў, зрабіўся вінаватым у вачах выкладчыкаў. Не раз выключалі мяне з вучылішча, ды, дзякуй Богу, аднаўлялі... Нягледзячы на непрыемнасці, наведваў канцэр-

кам іншай вобразнай сферы і выкарыстоўваліся для перадачы пачуццяў герояў, высакародных анталагічна, паводле свайго паходжання і сацыяльнага статуса (скажам, графіні з «Вяселля Фігара»).

Можна было б далусціць, што гэткая своеасаблівая музычная трактоўка вынікае з няведання нямецкім кампазітарам, які нядаўна прыехаў у Нясвіж, лакальнай, народнай песенна-танцавальнай традыцыі. Аднак у музыцы оперы ёсць многія элементы, якія сведчаць пра знаёмства Голанда з мясцовай музычнай стылістыкай. Так, напрыклад, у арыі Валенты з I дзеі оперы кампазітар вельмі трапна і з вялікім густам уводзіць народнажанравы тэматызм яўна славянскага паходжання.

У той жа час відавочна, што ў дадзеным дый іншых выпадках народны элемент выкарыстоўваецца як своеасаблівы знак, які паказвае не толькі на сацыяльны «статус» персанажа, але й пэўны камізм ягоных паводзін. Дарэчы, гэткая традыцыя «прывязкі» народнага да камічнага, смехавага, што вядзе пачатак ад карнавальнай культуры еўрапейскага сярэднявечча, вельмі характэрная таксама для мастацтва Беларусі эпохі барока і класіцызму. Сведчанне — гумарыстычная трактоўка народных персанажаў (скажам, мужыка ды бабы) у інтэрмедыях школьнага тэатра, «агучванне» гэтых інтэрмедый народнай, або стылізаванай пад народную, музыкай. Таму натуральна, што пры ўсталяванай мясцовай традыцыі «прачытання» ўласна фальклорных элементаў як носьбітаў перш за ўсё гумарыстычна-сатырычнай рысы, іх выкарыстанне аказалася б не надта дарэчы для характарыстыкі персанажаў, якія мусілі выклікаць павагу і спачуванне.

Аднак у гэтым канкрэтным выпадку існавала, як мне падаецца, й іншая, індывідуальна-канкрэтная, унутраная матывацыя ігнаравання кампазітарам пабытавай музычнай лексікі. Гэтая матывацыя будзе зразумелай, калі ўлічыць густы, пажаданні ды ўстаноўкі яшчэ адной, апрача аўтараў, неабыякавай да оперы асобы, а менавіта яе заказчыка — уладальніка Нясвіжа Караля Радзівіла. Як вядома, з канца 1770-х гадоў, пасля бурных падзей Барскай канфедэрацыі і некалькіх гадоў палітычнай эміграцыі Караль амаль бязвыезна жыў у Нясвіжы і прысвяціў сябе ўладкаванню мясцовага жыцця, наладжванню цесных кантактаў з тутэйшай шляхтай, у вачах якой ён імкнуўся выглядаць добрым панам і апекуном. Таму зусім верагодна, што, заказваючы свайму шчыраму сябру й сваяку Мацею Радзівілу «музычнае паднашэнне» для караля Рэчы Паспалітай, «кароль» Нясвіжа мог пажадаць, каб у алегарычнай форме са сцэны быў паказаны прыклад паводзінаў добрага пана (г. зн. — самога Караля), якім й належыць быць каралю дзяржавы ў адносінах да сваіх падданых.

Несумненна, што ў трагічныя гады падзелаў Рэчы Паспалітай ідэя адданасці караля свайму народу была надзвычай актуальная, таму яе ўвасабленне ў мастацкім творы вымагала максімальнай пераканаўчасці. Магчыма, у вобразах сялян, якія патрабавалі заступніцтва, Караль Радзівіл і аўтары оперы хацелі паказаць абагульнены вобраз усяго народа Рэчы Паспалітай. Народа, які ўручыў свой лёс манарху і патрабаваў яго адданасці. Калі ўзяць пад увагу гэтыя акалічнасці, можна растлумачыць, чаму музычная мова галоўных герояў акумулюе ў сабе не столькі ўмоўна пастаральныя, пейзанскія, колькі вытанчана-шляхетныя, высакародныя рысы — праз італьянізаваны арыёзны стыль. Безумоўна, такая музычная лексіка неадэкватна вызначала саслоўна-этнічны «статус» герояў, аднак менавіта яна дазваляла ім набыць «зададзеныя» рысы высакароднасці і спрыяла рэалізацыі асноўнай ідэі твора.

Гэткі шлях увасаблення на сцэне народных вобразаў і тэматыкі быў у цэлым характэрны менавіта для музычнага тэатра 18 стагоддзя, які дапускаў шмат умоўнасцяў. Разам з тым ён мае, як мне падаецца, і шэраг аналогій, якія можна знайсці ў вельмі аддаленых ад яго музычна-культурных з'явах. Напрыклад, у тэатры менестрэляў ці ў сённяшніх другасных квазіфальклорных прадстаўленнях, якія таксама ствараюць умоўна-абагульняючы, далёкі ад сваіх першавытокаў і нават скажоны вобраз народнай культуры. Пры ўсім непадабенстве і, здавалася б, несупастаўляльнасці гэтых з'яў іх аб'ядноўвае феномен падкрэсленай, асэнсаванай тэатралізаванасці мастацкай прасторы, у якой рэальнасць і ўмоўнасць як бы мяняюцца месцамі. Што гэта значыць? Што ў рэчаіснасці або ў сістэме іншых мастацка-стылёвых каардынат (у рамантычнай оперы, напрыклад, дзе патрабуецца максімальная праўдзівасць сацыяльна-этнічнай характарыстыкі вобразаў) здалося б умоўным, нацягнутым, у дадзеных з'явах робіцца адзіна магчымай рэальнасцю, бо адпавядае своеасаблівым «правілам гульні», выпрацаваным пэўным чынам арганізаваным мастацкім «полем». І наадварот, тое, што адпавядала сапраўднай рэчаіснасці, ва ўмовах гэтага «поля» магло аказацца ненатуральным і несла б цалкам неадэкватную сэнсавую нагрузку.

Твор Голанда і Радзівіла выклікае вялікую цікавасць не толькі як канкрэтны музычны помнік, але і як унікальны і этапны твор у гісторыі айчыннай музычнай культуры. Бо фактычна з «Агаткі», оперы, наскрозь прасякнутай лакальнымі рэаліямі, мог распачацца рух да ўтварэння мясцовай і нават нацыянальнай беларускай опернай школы (нагадаю, што такі працэс адбываўся ў суседніх культурах — расійскай, украінскай і польскай). Ды нясвіжская опера так і засталася цудоўнай, але самотнай кветкай у мастацкім садзе Беларусі. І спатрэбілася амаль 70 гадоў, каб традыцыя, распачатая ў ёй, была падхоплена «Сялянкай» В. Дуніна-Марцінкевіча, С. Манюшкі ды К. Крыжаноўскага.

Чаму? Можа, у час з'яўлення Голандава твора на Беларусі папросту яшчэ не выспелі ўмовы для стварэння ўласна нацыянальнай оперы і польскамоўная «Агатка» з музыкай у агульнаеўрапейскім стылі не магла займець беларускіх нашчадкаў? Ці, можа, оперны жанр па нейкіх прычынах увогуле не ўяўляў цікавасці для мясцовых кампазітараў?

У чымсьці гэта сапраўды так, бо «Агатка» з'явілася ў канцы таго этапу развіцця айчыннага мастацтва, у якім яно існавала пад уплывам польскай культуры (хаця апошняя ў сваю чаргу, безумоўна, была прадуктам моцнага ўздзеяння культуры ліцвінскай). І персанажы оперы яшчэ не маглі загаварыць са сцэны па-беларуску — гэтаксама, як у эпоху панавання універсальнага класічнага стылю не маглі яны заспяваць народныя песні.

Што ж тычыцца браку цікавасці да опернага жанру ўвогуле, дык гэта, думаецца, не надта адпавядае сапраўднасці. Бо яшчэ ў 1770-я гады да гэтага жанру звяртаўся Міхал Казімір Агінскі, пазней — Міхал Клеафас Агінскі. Да таго ж «Агатка» была не адным оперным творам сваіх аўтараў: пасля яе Мацей Радзівіл напісаў оперу «Войт Альбанскага паселішча», а Голанд яшчэ да прыезду ў Нясвіж стварыў оперу «Чужое багацце нікому не на карысць». Разам з тым відавочна, што оперны жанр ва ўсёй яго шматаблічнасці, як, зрэшты, і сімфанічны, зрабіўся вядучым у творчасці мясцовых кампазітараў. І патлумачыць гэта можна тым, што магнацкая культура мела спецыфічную святочна-пацяшальную дамінанту і на парозе сваёй гібелі набыла адценне весялосці-адчаю, насумяшчальнае з цікавасцю да філасожска-паглыбленых буйных канцэртна-тэатральных жанраў. Толькі камічная опера аказалася тут дарэчы.

Не выключана, паўтару, што ў іншых гісторыка-культурных варунках творы гэтага жанру (і «Агатка» ў тым ліку) маглі пакласці пачатак фарміраванню нацыянальнай опернай школы, бо менавіта камічная опера сталася ва ўсіх краінах арэнай дэклараванага (хоць неабавязкова рэалізаванага) імкнення аўтараў да стварэння такой школы. Аднак у рэальнай сітуацыі на тагачаснай Беларусі творцы, зразумела, не маглі ўсведамляць сябе прадстаўнікамі беларускай дзяржавы і прагнуць станаўлення нацыянальнай оперы. Таму ў канцы 18 стагоддзя гэты працэс у нас разгарнуцца яшчэ не мог. Чаму ён не ажыццявіўся на пачатку стагоддзя 19-га — пра гэта расказаць падрабязна ў межах артыкула немагчыма. Але коратка сказаць паспрабую.

Дык вось, у канцы 18 стагоддзя, акурат у часы стварэння «Агаткі», завяршаўся адзін з самых важных этапаў гісторыі музычнай культуры Беларусі, на якім яна зазнала надзвычай інтэнсіўнае і плённае развіццё, высокія дасягненні — й шматлікія пакуты. Ніколі ўжо на сваім шляху не зведала яна той велічнасці, пышнасці, яскравасці й нават стракатасці праяў, як два з нечым стагоддзі таму. На маю думку, менавіта тады, у межах адведзенага ёй часу і магчымасцей, яна дасягнула свайго апагея як сістэма поліцэнтрычнага тыпу, г. зн. утварэнне, адзначанае мноствам музычных цэнтраў-сталіц, што спаборнічалі паміж сабой і прыцягвалі мясцовых і замежных музыкантаў (сярод якіх, дарэчы, быў і Ёган Голанд).

Потым, у канцы стагоддзя, з далучэннем Беларусі да Расіі, наша культура ўвайшла ў прынцыпова іншую сістэму, монацэнтрычнага тыпу, г. зн. з адным самым буйным цэнтрам (у Пецярбурзе), куды сцякаліся музыканты з іншых гарадоў, абмежаваных статусам правінцыйных. Не скажу, што адна з названых сістэм, як культурнае ўтварэнне была лепшай за другую. Проста гістарычна склалася так, што ў нейкіх краінах (скажам, Італіі, Германіі, Рэчы Паспалітай) паводле пэўных гістарычных акалічнасцяў сфарміравалася першая, а ў нейкіх (Францыі, Расіі) — другая. Прычым абедзве давалі свету многія шэдэўры музычнага мастацтва. Але ж на Беларусі сам працэс пераходу з адной сістэмы ў іншую адбыўся ў вельмі адказны для нашай культуры перыяд і значна ўскладніў яе развіццё. На немалы і вельмі важны час яна аказалася як бы разбалансаванай: буйныя музычна-тэатральныя цэнтры ў Слоніме, Нясвіжы, Гародні, Ружанах ды іншых беларускіх гарадах хутка закрыліся (бо імі папросту не было ўжо каму апекавацца), а новыя, дзе б існавалі стацыянарныя тэатры, капэлы, прафесійныя навучальныя ўстановы — словам, усё тое, што складае неабходныя ўмовы для развіцця нацыянальнай прафесійнай школы, адразу ўтварыцца не маглі. Таму многім геніяльным мясцовым музыкантам XIX ст., якія маглі б стаць гордасцю беларускага нацыянальнага мастацтва, давялося шукаць працы ды прызнання не на Радзіме, а ў Варшаве, Пецярбурзе, Парыжы, Берліне. Бо працаваць над стварэннем, напрыклад, буйных оперных форм на Беларусі, дзе пры новым царскім рэжыме на працягу амаль стагоддзя ўжо не існавала ніводнага стацыянарнага опернага тэатра, было бесперспектыўна.

Вось чаму «Агатка» й не займела ў хуткім часе беларускіх нашчадкаў. Хоць, напэўна, магла, калі б край, дзе яна нарадзілася, напаткаў іншы лёс. Але гэта ўжо аспект гістарычнай наканаванасці, якой падпарадкоўваецца не толькі мастацтва...

**Вольга ДАДЗІЁМАВА**

---

ты. Слухаў цудоўную ігру Валерыя Клімава, Ігара Бязроднага, Святаслава Рыхтэра, спевы Зары Далуханавай, Барыса Штокалава. Прадаўжаў пісаць музыку — прынамсі, рамансы на вершы Гётэ, Гейнэ, Пушкіна. Чытаў філасофскую, мастацтвазнаўчую літаратуру.

**— Затым была кансерваторыя. Што яна дала?**

— Многае. На шчасце, маімі настаўнікамі ў БДК былі Сяргей Картэс і Дзмітрый Смольскі — па кампазіцыі, па гармоніі — Уладзімір Алоўнікаў, па інструментоўцы — Мікалай Аладаў, па аркестроўцы — Пётр Падкавыраў, словам, увесь свет беларускай музыкі. Увогуле, думалася, што кансерваторыя — гэта храм мастацтва, яе выкладчыкі — жрацы, на якіх мы, пачаткоўцы, глядзелі здаля. Ну, а жыццё аказалася куды больш празаічным.

Калі я пазнаёміўся з праваслаўнымі вернікамі, каб праз іх спазнаць сутнасць хрысціянскай рэлігіі, за мною пачалі сачыць: куды, да каго я іду. Патрабавалі прызнацца, што і я — веруючы, пагражаючы выгнаць з кансерваторыі. І як толькі разважлівы й добры Сяргей Картэс заступіўся, патлумачыўшы, што ў мяне чыста гістарычная цікавасць да рэлігіі, яго адразу ж вызвалілі з пасады ў кансерваторыі. Зноў — канфліктныя стасункі з адміністрацыяй, і мне зноў трэ было набірацца мужнасці, каб не здрадзіць сумленню.

**— На той час аналагічная сітуацыя пагражала выключэннем з ВНУ...**

— Правільна. Махнуўшы рукою на «храм мастацтва», я вярнуўся ў Гродна. Даў сабе слова выхоўваць вучняў, і выхоўваць інакш, чым гэта рабілася ў дачыненні да мяне. Доўгі час я выкладаў у Гродзенскім музвучылішчы. Калі не было працы там, настаўнічаў у Поразаве, Лунне, Верцялішках, Путрышках, Індуры. Пасля кожнага ўрока рабіў запісы. Паступова склалася ўласная методыка выкладання кампазіцыі ў музычнай школе й вучылішчы.

**— Сярод вашых вучняў ёсць і вядомыя сёння музыканты...**

— Так, Андрэй Бандарэнка вядомы і як кампазітар, прынамсі, аўтар оперы «Князь Навагрудскі», і як мастацкі кіраўнік Гродзенскай гарадской капэлы. Малады і перспектыўны кампазітар Яўген Паплаўскі з'яўляецца дырэктарам аб'яднання «Беларуская Капэла». Валерый Жывалеўскі — знаны гітарыст, прыкладае нямала намаганняў для фарміравання беларускай гітарнай школы, выкладае, ды і музыку піша. Ягоны аднакурснік па Гродзенскім музвучылішчы Уладзімір Захараў — першы з беларускіх гітарыстаў, хто вылучыўся на міжнародным конкурсе. Валодзя таксама піша музыку, займаецца педагогікай. Ягоны вучань Дзяніс Асімовіч ужо заваяваў званне лаўрэата міжнароднага конкурсу. І гэта, між іншым, цудоўны прыклад, бо Захараў па сутнасці здзейсніў подзвіг, пачаўшы займацца з невідушчым хлопчыкам, паказваючы яму літаральна вобмацкам, як здабываць гукі з гітарных струн, падтрымліваючы яго маральна, даводзячы ягоную ігру да належнага ўзроўню!

**— Віталь Канстанцінавіч, ваш выкладчыцкі плён гаворыць сам за сябе... Калі ласка, некалькі слоў пра творчасць.**

— Пакінуўшы кансерваторыю, захапіўся стварэннем музыкі. Напісаў некалькі опер, рамансаў. Мяне асабліва хваляваў трагічны лёс загадкавай асобы Пушкіна, і опера «Аляксандр Пушкін» сталася вынікам маіх разваг. Урыўкі з яе выконваліся ў Мінску, Маскве, Пецярбурзе...

**— Наколькі я чуў, вы спрабавалі ў музыцы асэнсаваць аблічча тагачаснага савецкага грамадства, і не толькі...**

— Мае канфлікты з начальствам паступова перараслі ў канфлікт з уладамі. Неаднойчы ў 70-я гады наведваў тайныя сходы ў Маскве. Сярод незадаволеных становішчам грамадства былі сумленныя і добрапрыстойныя людзі. На жаль, лідзіравалі ў іхнім асяроддзі, як правіла, агрэсіўна настроеныя дысідэнты. Я раіў не займацца палітыкай: калі верыце ў Бога, дык верце, абараняйце правы веруючых, адстойвайце свабоду веравызнання, але не кранайце палітыку... І зараз задумваюся: а ці валодаў Андрэй Сахараў дастатковымі гуманітарнымі ведамі, каб патрабаваць карэнных змен у краіне? Ці знойдзеце вы ў ягоных «праваабарончых» працах духоўную пераемнасць з рускімі пісьменнікамі ды рускімі філосафамі? Не. Праўда, ён спасылаецца на Салжаніцына, які на той час зрабіўся сцягам іншадумцаў. Аднак... Прыгледзьцеся: ці назавяце вы яго майстрам слова і ці ёсць у яго арыгінальныя ідэі? Іншая справа, што Салжаніцын пісаў на забароненую тэму — пра лагеры (не новую, але досыць раскрытую раней Дастаеўскім) — і падаў яе публіцыстычна ярка. Салжаніцын — хутчэй публіцыст, чым пісьменнік... Перада мной паўстала пытанне: палітычнымі або культурна-асветніцкімі метадамі трэба ўдасканальваць жыццё? І я канчаткова абраў другое, бо культура вышэй за палітыку...

У маёй фанатэцы больш за сотню самых розных опер, слухаючы якія, вывучаў законы опернай драматургіі і не толькі стараўся ўлічыць іх ва ўласных вопытах, але й абагульніць у тэарэтычных нататках. Сёе-тое ўдалося надрукаваць у «Тэатральнай Беларусі». Аднак парады маладым кампазітарам лепей даваць на практыцы. Апошнім часам я імкнуўся пашырыць геаграфію выкладання асноў кампазіцыі. Маімі вучнямі сталі дзесяткі даравітых дзяцей — з Ліды, Ваўкавыска... Урэшце, вырашыў арганізаваць рэспубліканскі конкурс юных кампазітараў. Звяртаўся да бізнесменаў, кружляў па дзяржаўных і грамадскіх установах, банках у пошуках сродкаў для фінансавання конкурсу. Клопаты аказаліся не марнымі: конкурс юных кампазітараў «Надзея-92», прысвечаны Максіму Багдановічу, прайшоў у Гродне і меў добры рэзананс. У працэсе яго падрыхтоўкі склалася невялічкае кола энтузіястаў, дзякуючы якім удалося правесці й конкурс «Надзе-93». Ёсць думка далучыць да кампазітарскага ды выканальніцкага конкурсаў («Новыя імёны» — ёсць і такі ў нас) спаборніцтва юных паэтаў ды празаікаў. Такім чынам Гродна можа з часам зрабіцца горадам апекавання й падтрымкі творчай моладзі краіны. А наогул — хочацца бачыць Гродна цэнтрам еўрапейскай культуры! Ну, і ёсць у мяне яшчэ адна справа, якой займаюся штодня: запісы афарызмаў на самыя розныя тэмы з самых розных галін жыцця. Чытаю рэлігійную, філасофскую літаратуру, займаюся педагогікай, назіраю за з'явамі прыроды, задумваюся над палітычнымі праблемамі... Словам, паступова складваецца ўласная пансофія.

**— Даруйце, давайце нагадаем чытачу, што гэта такое.**

— Пансофія — гэта ўсеагульная мудрасць. Пад пансофіяй маю на ўвазе філасофска-літаратурны твор пра ўсеагульныя культурныя і духоўныя каштоўнасці, неабходныя кожнаму асвечанаму чалавеку. Пансофія ёсць у Яна Амоса Каменскага — сямітомная праца пад назвай «Усеагульная парада наконт выпраўлення спраў чалавечых», выдадзеная ў Чэхаславакіі ў 1966 г. Пансофіяй займаўся Леў Талстой у апошнія гады жыцця. Самую сапраўдную пансофію ўяўляе з сябе 14-томная «Жывая этыка» Алены Рэрых. Натуральнанавуковым варыянтам пансофіі можна лічыць «Тэкталогію» Аляксандра Багданава (навука пра агульныя законы арганізацыі, якая папярэднічала некаторым ідэям кібернетыкі).

Чаму я згадаў Багданава? Не таму, што ён быў вестуном кібернетыкі. І не таму, што ён у спрэчцы з Леніным наконт прыроды матэрыі, як аказалася, меў рацыю (Ленін жа сцвярджаў, што матэрыя падзяляецца на бясконца малыя часцінкі, а Багданаў даводзіў, што матэрыя ператвараецца ў энергію). Справа і не ў самаахвярным учынку Багданавалекара, які рабіў на самім сабе эксперымент па пераліванні крыві, ад чаго й памёр. Усё гэта, безумоўна, цікава і важна! Аднак для мяне асабліва важная тая акалічнасць, што вучоны, філосаф, эканаміст, палітык, лекар, самаахвярны чалавек Багданаў — гэта ўраджэнец Гродзенскай губерні Аляксандр Аляксандравіч Маліноўскі! Гэта яшчэ адно сведчанне таго, што Гродзеншчына багатая на таленавітых людзей...

**Гутарыў Р. КАРАЧУН**

*Фота У. ВЫДЗЕРКІ*

# УСЕ СТРАХІ РАЗАМ



**22 верасня дабрачынным спектаклем для медыкаў Заводскага раёна падступіўся да адкрыцця свайго першага стацыянарнага сезона муніцыпальны тэатр-студыя «Дзе-Я» пад кіраўніцтвам Мікалая Трухана. Адкрыццё адбылося днём пазней, 23 верасня, спектаклем «Страхі жыцця. Цені» паводле Ф. Аляхновіча. Да вітанняў і віншаванняў я мусіла дадаць некалькі пытанняў, каб Мікалай дакладна акрэсліў сённяшняе становішча тэатра.**

**Кінатэатр «Радзіма», адна зала якога цяпер належыць Труханаваму тэатру-студыі, — уласнасць гарвыканкама. Але часова (?) гэтая ўласнасць падначальваецца кінавідэапракату. Таму, адпаведна, час-почас у другое зале кінатэатра паказваюць кіно. Паказваюць кіно і ў кінатэатральным буфеце, — так, што гук стужкі замінае працаваць акцёрам на сцэне.**

**Іх, дарэчы, у трупе тэатра-студыі ўжо семнаццаць, — сёлета прыйшло пяцёра выпускнікоў Беларускай акадэміі мастацтваў, засяродзіўшы грамадскую думку на тым, што вандроўна-перасоўная «Дзе-Я» перарабляецца на стацыянарны тэатр. Тэатру ж трэба заваёўваць свой Заводскі раён з коштам білета ў паўтары тысячы рублёў. Зала адначасова можа змяшчаць ад васьмідзесяці да двухсот гледачоў, але на гэтым перавагі камернасці канчаюцца, бо дапаможных памяшканняў кінатэатр тэатру шкадуе. Дваццаць адзін сталяр, што прайшоў праз студыйныя невыгоды і звольніўся, гэта б красамоўна засведчыў. Дваццаць другі сталяр пакуль працуе на сцэне ад самага рання, каб паспець справіцца перад рэпетыцыяй. Часам паспявае.**

**Галоўная недарэчнасць сённяшняга становішча тэатра-студыі ў тым, што арэндная плата можа ў некалькі разоў перабольшыць фонд заробку трупы. І тады смела можна зачыняцца й банкрутаваць. Уладзімір Сасноўскі, намеснік старшыні гарвыканкама, праўда, сцвярджае, што гэтага не адбудзецца. Старшыня райвыканкама Заводскага раёна сп. Юхновіч, які не адзін раз наведваў прэм'еры разам са сваімі сямейнікамі, падтрымлівае сп. Сасноўскага. Але Мікалаю Трухану ці то мірсціцца, ці то вядома, што небяспека такога няпэўнага фінансавага (або, калі больш дакладна, арэнднага) становішча пагражае тэатру-студыі штохвіліны, і падстаў для агульнае напятасці і раздражнення аж занадта. Мікалай скардзіцца, што развучыўся ўжо размаўляць шчыра, адкрыта і даверліва, таму патрабаваць гэтага ад сваіх акцёраў яму ўсё больш складана. Страхі жыцця ды знакамітае класікава «Не веру!» пагражаюць паўплываць на творчасць і самую атмасферу тэатра-студыі «Дзе-Я».**

**Аднак спектакль «Страхі жыцця. Цені» паводле Ф. Аляхновіча збярэ публіку ў тэатральнай зале кінатэатра «Радзіма» 27, 28, 29 і 30 верасня. Усяго ў афішы — шэсць назваў.**

Жана ЛАШКЕВІЧ

*На здымку: Мікалай Трухан на рэпетыцыі.*

# НЕ ЗБУДАВАЎШЫ КАМУНІЗМУ...

**Трагедыя пакаленняў, якія будавалі камунізм на адной шостай зямнога свету, сталася аб'ектам пільнага мастакоўскага доследу драматурга Івана Чыгрынава, мастака Барыса Герлавана і рэжысёра Уладзіміра Савіцкага, якія супольна працавалі над спектаклем «Госці» ў Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы. Прэм'ера прызначана на 5 кастрычніка. Глядацкай увагі вымагае склад выканаўцаў (і павагі — рэжысёрская рызыка): ці не самыя ганараваныя акцёры тэатра бяруць удзел у сцэнічным аповядзе. Гэта — Тамара Нікалаева-Апіёк, Галіна Бальчэўская, Валянцін Белахвосцік, Арнольд Памазан, Уладзімір Кудрэвіч, Мікалай Яроменка. Цэнтральную ролю выканае нядаўні юбіляр Генадзь Гарбук, чыёй новай ролі пасля пэўнага перапынку таксама чакае публіка.**

Віншуем!

# ДАНІЛА

## Д. К. МІЦКЕВІЧУ — 80

Сіні капялюш ляжыць на каленях. Акруглы, поўны твар, здавалася, застыў, толькі вочы выдавалі настрой гаспадара. У іх згадваўся смутак, журба, прываблівасць чагосьці роднага, блізкага і ў той час адлучанасць ад таго зямнога жыцця, што напаўняе чалавечую істоту... Ён яшчэ раз кінуў позірк на кучаравую бярозу, на дубы. Самы малодшы дуб пасадзіў брат Міхась з бацькам. Яны выкапалі яго ў Батанічным садзе і пасадзілі ў памяць па загінаўшаму Юрку ў 1947 годзе.

Цяжка ўздыхнуўшы, Даніла падышоў да бярозы, задуменна пагладзіў рабы, шурпаты ствол. Шчыльна прытуліўшыся, слухаў самотны напеў залацістай лістоты, што ўзрушана шапталася аб нечым патаемным.

Сын прыйшоў у свой дзень нараджэння пакланіцца маці, бацьку. Яны далі яму жыццё, перадалі сілу свайго кахання 1914 года ў Пінску, назвалі першынца гучным ёмістым словам Даніла...

Сярэдні сын Якуба Коласа, верны воінскай прысязе, пайшоў у ваенную камендатуру і, як зазначыў з сумам Даніла, «назаўсёды ад нас». Пазней высветлілася: Юрка трапіў у другі полк, бо вярнуцца назад у сваю часць было ўжо немагчыма, немцы набліжаліся да Мінска. Юрка, не развітаўшыся з бацькамі, дайшоў да Смаленскай вобласці і дзесьці ў раёне Ярцава загінуў.

Якуб Колас са сваёю сям'ёю апынуўся ў спякотным Ташкенце. Там Даніла працаваў у Акадэміі навук, якая дзейнічала ў Ташкенце. З 1944 года старэйшы сын паэта вяртаецца на Беларусь. Працуе ў Акадэміі навук вучоным сакратаром Інстытута хіміі, загадчыкам лабараторыі.

Праз год гаротная і сумная вестка прыляцела з Масквы. Званіў бацька, прасіў тэрмінова прыехаць: у філіяле Крамлёўскай бальніцы памірала маці... Майскае сонца залівала вясеннім цяплом палату, промні-зайчыкі бегалі па сценах, падлозе, а яна ацяжэлымі вуснамі шаптала:

— Сынок, падтрымай бацьку, беражы яго, шануй... слухайся... Жывіце ўсе разам... Цяжка мне гаварыць... Міхася не пакідайце... Я ўжо не ўбачу Юрачку... ён кліча мяне... Данік, сы-нок, дай сваю ру-ку...

Нібы зараз увачавідкі адчуў Даніла апошні дотык матчынай рукі. Ён агледнуўся на бярозу. Сэрца затахкала хутчэй. Захацелася зайсці ў музей да бацькі, глянуць на родныя вобразы, пабыць з самім сабою...

Ён доўга ўглядаўся ў мілыя і да болю блізкія рысы твару бацькі, маці, як быццам па-новаму бачыў лісты, назвы кніжак розных гадоў выдання, здымкі бацькавых сяброў, настаўнікаў. У бацькавым пакоі на другім паверсе прысеў за пісьмовы стол, глянуў на дату календара, асцярожна дакрануўся да ручкі, недапісанага ліста паперы, настольнага гадзінніка, які дакладна паказваў час бацькавай смерці. У вочы кінуўся бацькаў дзённік «На схіле дзён» і запіс: «Вечарам прыехаў Данік. Я вельмі рад, што ён вярнуўся. У дзень садзілі яблыні. Было холадна. Зямля падмерзла. Усяго не паспелі пасадзіць»...

— Жыў бы ты, тата, падзівіўся б на сад, які паспеў ужо састарыцца, але яшчэ добра пладаносіць... Прайшоўся б па пакоях сваёй хаты... Не папракнуў бы сына за нядбайнасць. Памяць аб табе, твая муза жыве з намі непарыўна... Я



выконваю сыноўні доўг перад табою і людзьмі. Удзячныя нашчадкі на векі вечныя ўшанавалі тваю памяць...

З 1957 года Даніла Канстанцінавіч Міцкевіч — дырэктар Літаратурнага музея Якуба Коласа. Вось ужо 37 гадоў ён кожны ранак ідзе на паклон да бацькі, ідзе да той крыніцы, адкуль сам бярэ сілы. Тады ўсё трэба было пачынаць з нуля, каб захаваць памяць пра выдатнага нацыянальнага паэта. Пэўныя структуры часам падстаўлялі ножку, не разумелі, або не хацелі разумець, што вялікага дуба з малым карэннем не бывае. Галоўны заступнік Коласавай спадчыны дамогся таго, што сёння маем.

Сын беражна і ў нейкай ступені хваравіта ставіцца да духоўнай спадчыны бацькі. Не дай Божа, каб хтосьці хоць знарок кінуў цень няпраўды на жыццёвы шлях паэта! Нікому не даруе вольнасці і лішняга додуму, што тычыцца Коласа. Яго часам называюць прыдзірлівым, занадта пераборлівым і прынцыповым, але Даніла Канстанцінавіч не крыўдзіцца, можна сказаць — у нейкай ступені задаволены тым: ён можа адвесці розную лухту, даць дакладны, дакументальны доказ у абарону літаратурнай і грамадскай дзейнасці Якуба Коласа.

Трэба аддаць яму належнае: памяць і сягоння яго ўчэпістая і дакладная. Ажно не верыцца, што так многа можна трымаць запраграмаванага ў галаве. Уражанне такое: кожную кнігу, шматлікія сустрэчы песняра з людзьмі, яго меркаванні, выказванні — усё гэта раскладзена на паліцах яго багатай скарбонкі. Ён не толькі заступнік, але шчыры, актыўны званар бацькавых песень. Немагчыма палічыць, колькі разоў меў выступы на розных сустрэчах, юбілеях, вечарынах, у школах, установах, заводах, калгасах. Яго густы бас часта гучыць па радыё, тэлебачанні. Друкуецца ў газетах, часопісах. Па сваёй сціпласці не прызнаецца пра самае запаветнае і дарагое: ён піша кніжку пра бацьку.

Сёння спадчына Коласа, духоўны скарб пісьменніка стаў даступны мільёнам. Талент Якуба Коласа — дар ад Бога чалавецтву на стагоддзі. Ён ёсць народны, таму што ніколі не цураўся сваёй Бацькаўшчыны. Моцнымі каранямі яго лёс пераплёўся з лёсам народа. Іншай жыццёвай мэты, як служыць свайму краю, дзядзька Якуб не шукаў. І людзі не цураюцца паэта, бо яго паэзія — сам беларускі народ.

Гэта і не толькі гэта вабіць да Коласа: падабралася творчая каманда супрацоўнікаў музея, няўрымслівых і шчырых прыхільнікаў духоўнага скарбу песняра. Яны з дапамогай сына паэта шырока прапагандуюць яго творчасць, дамагаюцца, каб самы буйны колас песняю прарос у сэрцах мільёнаў яго нашчадкаў.

... Шамацяць лістамі мядзяністыя сосны, пярэсцяць апошнія кветкі на сонцы, стары сад у самоце гамоніць каля хаты. Гаспадар Даніла мерным крокам абыходзіць сялібу. Хада ўжо цяжкаватая, грузная. Што ж, сівая восень у васьмідзесяты раз прыходзіць да шчырага і руплівага зберагальніка вялікай спадчыны. Хай іх, як і вёснаў, будзе яшчэ шмат.

Сымон БЕЛЫ

# ПРЭСА, ЭФІР, МОВА

*(Пачатак на стар. 5)*

Калі мы хочам зрабіць беларускую мову неад'емным атрыбутам кожнага грамадзяніна нашай краіны ўжо ў яго самым раннім узросце, трэба карэнным чынам палепшыць рэжым мовы нашых дзіцячых перадач па радыё. Асабліва гэта датычыцца казак. Часта інтанацыя голасу артыстаў, вымаўленне беларускіх слоў і выразаў (магчыма, з самымі добрымі намерамі: прыцягнуць як мага больш увагі маленькіх слухачоў) такое штучнае, што, думаю, мала хто з малышоў пажадае размаўляць так, як нясецца да яго з эфіру. Трэба па радыё весці перадачы для дзяцей на натуральнай беларускай мове, у якой досыць багата прыгожых і мілагучных слоў, якімі можна закрануць душы, выклікаць жаданне і самім карыстацца ёю ў асяроддзі аднагодкаў ці з бацькамі.

Па роду сваёй навуковай дзейнасці часта пераглядаю перыядычны друк за мінулыя гады і бачу, якой звычайнай нормай для газет 50—70-х гадоў было перыядычна даваць літаратурныя старонкі. Прычым у рускамоўных газетах на такіх старонках змяшчаліся матэрыялы, пераважна вершы, і ў беларускай мове. Асабліва такое часта практыкавалася ў газеце «Железнодорожник Белоруссии». Думаецца, рабілася гэта з мэтай хоць трохі прытармазіць працэс татальнага адыходу нашага народа ад роднага слова. Ізноў здзіўленне: чаму ж мы цяпер гэтак рэдка практыкуем такія літаратурныя старонкі?

Дапамагчы сродкам масавай інфармацыі выклікаць у народа павышаную зацікаўленасць да нацыянальнай гісторыі, культуры і мовы магла б удумлівая праца з краязнаўчым матэрыялам, асабліва з мясцовай мікратапаніміяй. Колькі яшчэ нявысветленага ў назвах палёў і лугоў, лясоў і ўрочышчаў, азёр і рачулак? Амаль тое ж самае можна сказаць і пра назвы многіх населеных пунктаў, не забываючы, вядома, і незаслужана скасаваныя найменні. Не абышоў бы ўвагай чытач і публікацыі, прысвечаныя праблемам мясцовых дыялектаў, што толькі ўзбагаціла б яго веды па беларускай мове.

Для выхавання паважлівых адносін людзей да духоўнай спадчыны роднага краю, правільнага разумення сацыяльнай ролі беларускай мовы ў сучасным нацыянальна-культурным Адраджэнні практычна толькі сімвалічныя высілкі робіць рускамоўны друк Рэспублікі Беларусь. А ён жа мае куды большае кола чытачоў, чым беларускамоўны. Дый сродкамі апошняга проста няма асаблівай патрэбы агітаваць чытачоў за нацыянальную мову карэннага насельніцтва нашага краю. Ужо сам факт, што чалавек выпісвае, чытае «Звязду», «Літаратуру і мастацтва», «Настаўніцкую газету», «Наша слова», «Культуру» ці іншую беларускую газету, сведчыць, што ён шануе, паважае матчыну мову, што яго нацыянальная самасвядомасць выстаяла, нягледзячы на шкодны ўплыў асіміляцыі, знаходзіцца на аптымальным узроўні. А вось да рускіх газет, часопісаў нярэдка цягнуцца людзі, якія мэтанакіравана не жадаюць чытаць і ведаць беларускую мову. Вось ім і трэба, зыходзячы з карэнных перамен у нацыянальна-дзяржаўным развіцці Беларусі, растлумачыць, што калі і раней такія падыходы нельга было апраўдаць, дык цяпер яны проста несумяшчальныя з патрабаваннямі часу, як з маральнага, так і культурнага боку, бо жыць у суверэннай краіне і не ведаць яе дзяржаўнай мовы — гэта нонсенс. Рускамоўны перыядычны друк Беларусі павінен лічыць за вялікі гонар і прафесійны абавязак дапамагаць сваім чытачам своечасова і грунтоўна разабрацца з аднаго боку ў складанасцях і цяжкасцях распачатага нацыянальнага Адраджэння, з другога — у яго гістарычнай непазбежнасці, адсутнасці яму альтэрнатывы, дапамагаць зразумець асабліва важнае месца ў гэтым прагрэсіўным з пазіцый нашай нацыі і ўсяго чалавецтва працэсе беларускай культуры і мовы. Дамагчыся такога рускамоўны перыядычны друк зможа толькі праз рэгулярную публікацыю на сваіх старонках матэрыялаў па розных пытаннях гісторыі, сучаснага стану беларускай культуры і мовы, дзейнасці, рэспубліканскага і мясцовых таварыстваў беларускай мовы імя Францішка Скарыны, праз асвятленне практыкі пераводу на дзяржаўную мову паасобных прадпрыемстваў і ўстаноў, маючых тут месца недахопах і няўвязках, зусім магчымым сабатажы. Калі рэдакцыі рускіх газет і часопісаў будуць прытрымлівацца такога накірунку ў сваёй працы, нас не напаткаюць аніякія канфлікты на нацыянальнай глебе, а журналісты, напэўна ж, зведаюць сапраўдную радасць ад усведамлення, што для паступальнага руху беларусаў па шляху адраджэння і яны зрабілі і робяць штосьці карыснае.

Чым хутчэй мы пераадолеем свой беларускамоўны нігілізм, тым хутчэй станем цывілізаванай нацыяй, здабудзем аўтарытэт, а разам з ім павагу ў свеце. Таму неабходна як мага хутчэй пакласці канец усялякага роду квазінавуковым публікацыям — і зноў-такі часцей за ўсё ў рускіх газетах — аб нібыта несамабытным характары беларускай мовы, што яна з'яўляецца нейкім прыдаткам, дыялектам рускай ці польскай. Прынцып павінен быць такі: пра беларускую мову альбо нічога, альбо толькі ў станоўчым плане. Такая агульнапрынятая ва ўсім свеце норма дачыненняў да кожнай дзяржаўнай мовы. А што да самабытнасці і адметнасці нашай роднай мовы, дадзім слова беларускаму вучонаму-філолагу з сусветным імем, акадэміку Яўхіму Карскаму: «Беларуская гаворка (у даным выпадку ён гэтым словам называў мову. — **Л. Л.**) павінна лічыцца самастойнай: сукупнасць яе характэрных рысаў не паўтараецца ні ў адной славянскай мове». Сказана гэта было ім яшчэ ў 1886 годзе. І ніводзін сур'ёзны вучоны-філолаг не ставіў перад сабой мэты абвергнуць гэтыя словы. Дый такое проста немагчыма. Марнымі застануцца любыя намаганні і тых, хто сёння пнецца даказаць, што беларуская мова не арыгінальная, што яна не ў стане абслугоўваць дзяржаўнае справаводства, вышэйшую і сярэднюю спецыяльную школу, навуку. Усё гэта ёй падуладна, толькі патрэбны адпаведныя захады на ўзроўні дзяржавы. Не менш патрэбныя ў гэтай высакароднай справе і намаганні ўсяго журналісцкага корпуса Рэспублікі Беларусь. З практыкі іншых краін ведаю, што ў час нацыянальна-культурнага адраджэння гэтая катэгорыя творчай інтэлігенцыі заўсёды стаяла на яго правым фланзе. Няма падстаў, каб іншыя журналісты не займалі такой прагрэсіўнай пазіцыі. Не тармазіць, а ва ўсім садзейнічаць павышэнню ролі беларускай мовы ў сродках масавай інфармацыі — вось галоўная задача, святы абавязак прэсы, радыё і тэлебачання. І адным з першачарговых крокаў тут павінна стаць вяртанне беларускай мове тых пазіцый, якія яна некалі займала ў абласных газетах: «Віцебскі рабочы», «Гомельская праўда», «Магілёўская праўда», «Мінская праўда» і шэрагу ведамасных беларускамоўных газет. Распачатае імі дзесьці пяць гадоў таму друкаванне рускамоўных матэрыялаў не толькі не дапамагае, а, наадварот, шкодзіць нашаму нацыянальна-культурнаму Адраджэнню, садзейнічае асіміляцыі беларусаў. У такім жа накірунку ўплывае на яго і ўвогуле рэзкае колькаснае перавышэнне ў краіне рускамоўных перыядычных выданняў і іх тыражу над беларускімі. Усталяваць аптымальныя суадносіны паміж імі нельга стыхійным шляхам. І тут патрэбна мэтанакіраванае дзяржаўнае рэгуляванне, як гэта робіцца ва ўсіх цывілізаваных краінах.

# ДОМ НА ГАНДЛЁВАЙ, 27

## З НАГОДЫ АДНОЙ СУДОВАЙ СПРАВЫ

«САВЕТ МІНІСТРАЎ Рэспублікі Беларусь. Распараджэнне. 18 сакавіка 1994 г. г. Мінск.

Дзяржмаёмасці да 5-га красавіка г.г. перадаць Беларускаму экзархату будынак па вул. Гандлёвай, 27 у г. Мінску і вырашыць пытанне аб выдзяленні ў доўгатэрміновую арэнду для патрэб Беларускага фонду культуры прыстасаванага будынка плошчай 500 кв. м.

Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь В. КЕБІЧ».

Як бачым, Вячаслаў Францавіч на гэты раз паказаў характар, загадаўшы правесці ўсю акцыю па перадачы будынка ў самы сціслы тэрмін. Факт неардынарны ўжо хоць ба таму, што нашаму былому прэм'еру, як вядома, не былі ўласцівыя такія неабходныя для высокага кіраўніка якасці, як аператыўнасць і настойлівасць у вырашэнні вялікіх і малых дзяржаўных спраў.

Што ж адбылося на гэты раз? Паводле адной з пачутых мной версій, праўда, не пацверджанай дакументальна, але досыць верагоднай, з'яўленню гэтага ўрадавага дакумента папярэднічаў візіт да В. Кебіча Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі Філарэта, які папрасіў прэм'ер-міністра пасрыяць вяртанню Беларускаму экзархату царкоўнай маёмасці, якая некалі была нацыяналізавана бальшавікамі. Сярод гэтай маёмасці называліся будынкі, у адным з якіх амаль усе пасляваенныя гады знаходзіцца Мінскае суворaўскае вучылішча, другі, размешчаны на праспекце Ф. Скарыны, вядомы мінчанам як Дом акцёра. Але ўлічваючы, што неадкладная перадача гэтых збудаванняў царкве можа стварыць для сталіцы дадатковыя праблемы, якіх і так хапае, — быццам бы сказаў высокі госць, — экзархат задаволіцца і пэўная кампенсацыя ў выглядзе перадачы яму будынка па вуліцы Гандлёвай, 27, які размешчаны паблізу Кафедральнага сабора.

Відаць, зыходзячы з таго, што распараджэнне В. Кебіча па часе супала з пачаткам прэзідэнцкай выбарчай кампаніі, злыя языкі сцвярджаюць, што ўладыка Філарэт у час свайго візіту ў Дом урада паабяцаў Вячаславу Францавічу падтрымку царквы на маючых адбыцца выбарах першага прэзідэнта Беларусі. Але наўрад ці ўсё гэта праўда — вышэйшы іерарх праваслаўнай царквы на Беларусі не будзе паводзіць сябе так прымітыўна, ён чалавек мудры, надзвычай вопытны і, як сцвярджаюць людзі дасведчаныя, вызначаецца вытанчаным дыпламатычным тактам. І калі я дазволіў сабе расказаць пра адну з чутак, што распаўсюджваюцца з выпадку з'яўлення нагаданага ўрадавага дакумента, дык толькі таму, што ў час выбарчай прэзідэнцкай кампаніі мы ў рэдакцыі мелі некалькі сігналаў аб тым, што ў некаторых праваслаўных цэрквах Беларусі святары ў сваіх пропаведзях заклікалі вернікаў аддаць свае галасы за В. Кебіча. Ды зноў жа, відаць, святары гэтыя дзейнічалі па ўласнай ініцыятыве, не ўсведамляючы, што царква ў нас аддзелена ад дзяржавы і яе ўдзел у «мирских» справах не стасуецца з існуючым заканадаўствам.

І ўсё ж такі, задамося пытаннем — дакумент, падпісаны прэм'ер-міністрам, кімсьці інспіраваны ці быў вынікам раптам успыхнуўшых у Вячаслава Францавіча рэлігійных пачуццяў? Я пазваніў у экзархат і натрапіў на аднаго з рэферэнтаў уладыкі, які згадзіўся адказаць на мае пытанні пры ўмове, што я не буду спасылацца на яго прозвішча. Я паабяцаў. Па словах майго тэлефоннага суразмоўніка, ён нічога не ведае пра візіт Экзарха да спадара Кебіча, ведае толькі, што экзархат неаднойчы звяртаўся ва ўрад з пісьмовымі просьбамі вярнуць праваслаўнай царкве яе маёмасць. Фігураваў у гэтых лістах і будынак па вуліцы Гандлёвай, 27, які экзархат мае намер прыстасаваць для сваіх патрэб.

Як і можна было чакаць, распараджэнне В. Кебіча выклікала самую негатыўную рэакцыю не толькі Беларускага фонду культуры на чале з яго старшынёй Іванам Чыгрынавым, а і бадай усёй творчай інтэлігенцыі рэспублікі, занепакоенай занядбаннем нацыянальнай культуры, у чым не апошнюю ролю адыграла і абыякавае стаўленне дзяржавы да яе патрэб. Адно са сведчанняў гэтага — і спроба пазбавіць Беларускі фонд культуры належачага яму дома.

Перада мной ляжыць ліст, адрасаваны ў сакавіку г.г. спадару В. Кебічу, у якім кіраўнікі творчых саюзаў Беларусі прасілі прэм'ер-міністра адазваць сваё распараджэнне аб перадачы будынка, што належыць БФК, Беларускаму экзархату. Адказу ад Вячаслава Францавіча яны не дачакаліся.

Іншы чытач можа ў непаразуменні спытаць, чаму Фонд культуры не задаволіўся будынкам, які яму, паводле распараджэння В. Кебіча, быў выдзелены ў якасці кампенсацыі? Ды таму, што тыя некалькі пакояў у адным з дамоў на ўскраіне горада, якія прапанавалі БФК, магчыма б, падышлі якому-небудзь статупраўленню ці райспажыўсаюзу, толькі не такой установе, як Рэспубліканскі фонд культуры, якому трэба мець пры сабе і мастацкі салон, і выставачную залу, і месца, дзе можна прыстойна сустрэць замежную дэлегацыю. Натуральна, што праўленне Беларускага фонду культуры ад падобнай «ласкі» ўлад адмовілася.

Так у гаспадарчым судзе Мінскай вобласці з'явілася іскавая заява Міністэрства па кіраванні дзяржаўнай маёмасцю і прыватызацыі Рэспублікі Беларусь з патрабаваннем «адабраць будынак па вул. Гандлёвай, 27 з незаконнага валодання Беларускага фонду культуры і прызнаць дагавор аб сумеснай дзейнасці, заключаны 7.9.93 г. паміж АТ «Стары Менск» і Беларускім фондам культуры несапраўдным».

Гаспадарчыя справы, па якіх узбуджаюцца судовыя разбірацельствы, як правіла, вызначаюцца заблытанасцю. Не з'яўляецца выключэннем і справа, пра якую ідзе гаворка ў гэтым маім аповядзе. Але паспрабуем ва ўсім разабрацца.

Як, відаць, заўважыў чытач, у іскавай заяве Дзяржмаёмасці, акрамя БФК, фігуруе яшчэ адна юрыдычная асоба — акцыянернае таварыства «Стары Менск», дзейнасць якога ў тандэме з Фондам культуры вельмі не падабаецца ісцу. Каб не заблытацца ва ўсіх гэтых перыпетыях, зробім невялікі экскурс у параўнаўча нядаўняе мінулае.

Пачнём з таго, што ва ўсіх пасляваенных генпланах забудовы г. Мінска да 1980 года ўключна прадугледжваўся знос яго самых старажытных раёнаў, у тым ліку і так званага «Верхняга горада» — гістарычнага цэнтра Мінска XVI—XIX стагоддзяў. Няўвагай да гэтага помніка гісторыі і культуры горада, дарэчы, тлумачыцца і ўварванне сюды на пачатку васьмідзесятых гадоў метрабудаўцаў, што ў свой час і выклікала немалое абурэнне грамадскасці.

Яшчэ да гэтага пачаўся знос размешчаных тут вуліц, бо заўважана, што самыя бязглуздыя праекты, у адрозненне ад праектаў разумных, маюць уласцівасць хутка здзяйсняцца. І наогул, разбураць — не будаваць. У канцы саракавых гадоў я жыў на Гандлёвай вуліцы, адной з нямногіх ацалелых у віхуры вайны. Сёння ад яе амаль не засталося і следу (калі не лічыць ужо вядомага нам дома пад нумарам 27), як не засталося следу і ад вуліцы Нямігі, якая вызначалася сваёй старой забудовай.

Але, як кажуць, лепш позна, чым ніколі. З цягам часу пад уплывам адраджэнскіх настрояў у грамадстве, узрастаючай увагі да гістарычнага мінулага краіны, яе культурных, мастацкіх і архітэктурных каштоўнасцей у горадабудаўніцтве нашым пачала выспяваць канцэпцыя захавання, рэстаўрацыі гістарычных раёнаў беларускіх гарадоў і паселішчаў. 10 сакавіка 1988 года выходзіць сумесная пастанова Міністэрства культуры і Мінгарвыканкама «Аб мерах па далейшым праектаванні і рэканструкцыі гістарычнай часткі г. Мінска «Верхні горад», у якой, сярод іншага, даручалася ЖРЭА Цэнтральнага раёна сталіцы неадкладна перадаць збудаванні Верхняга горада на баланс арганізацый, вызначаных той жа пастановай, — з тым, каб яны забяспечылі фінансаванне праектных і рэстаўрацыйных работ па сваіх аб'ектах. Сярод гэтых арганізацый было названа і Беларускае аддзяленне Савецкага фонду культуры (цяпер Беларускі фонд культуры), на баланс якога ЖЭС-34 ЖРЭА Цэнтральнага раёна г. Мінска па акце ад 24 мая 1988 года передаў дом па вуліцы Гандлёвай, 27. Спашлюся яшчэ на адзін дакумент, а менавіта на рашэнне сесіі Мінскага гарадскога Савета народных дэпутатаў ад 11 снежня 1991 года за N 185 аб зацвярджэнні «Палажэння аб камунальнай уласнасці і размежаванні паўнамоцтваў паміж Мінскім гарадскім і раённымі Саветамі народных дэпутатаў г. Мінска», якім да камунальнай уласнасці Мінгарсавета аднесены помнікі архітэктуры і іншыя збудаванні ў зонах гістарычнай забудовы. Такім чынам, дом па вул. Гандлёвай, 27, які знаходзіўся на балансе Беларускага фонду культуры, быў вызначаны як камунальная ўласнасць Мінгарвыканкама. Запомнім гэты факт, мы да яго яшчэ будзем звяртацца.

Не здзіўлюся, калі ўсе гэтыя падрабязнасці чытачу, які цэніць у газетным матэрыяле перш за ўсё вострую інтрыгу, займальнасць, пададуцца нецікавымі. Але калі ён намерыўся прачытаць гэты аповяд да канца, хай набярэцца цярпення. Справа ў тым, што ісцец у асобе Дзяржмаёмасці спрабуе ўсе гэтыя, здаецца, неабвержныя факты абвергнуць, і ў гэтым сваім памкненні знаходзіць, як мне падалося, падтрымку суддзі Веры Фёдараўны Савіцкай.

Але тут я вымушаны зрабіць яшчэ адзін экскурс у нядаўняе мінулае. На пачатку 1991 года рашэннем урада рэспублікі было ўтворана Галоўнае ўпраўленне рэстаўрацыі і кансервацыі помнікаў гісторыі і культуры пры Савеце Міністраў БССР. Неабходнасць мець такую арганізацыю і такім чынам сканцэнтраваць усю справу захавання помнікаў у адных руках была відавочнай, бо, як вядома, у сямі нянек дзіця без носа. Акрамя згаданага Галоўнага ўпраўлення, у Мінску і абласных гарадах былі ўтвораны падначаленыя яму аналагічныя падраздзяленні. У прыватнасці, пры Мінгарвыканкаме ў маі 1991 года было створана ўпраўленне па рэстаўрацыі і кансервацыі помнікаў гісторыі і культуры, якое стала адзіным заказчыкам усіх работ у Верхнім горадзе.

Я доўга гутарыў з былым яго начальнікам, а цяпер намеснікам генеральнага дырэктара акцыянернага таварыства «Стары Менск» Уладзімірам Мікалаевічам Ваўковічам, першае знаёмства з якім адбылося ў кабінеце суддзі В. Савіцкай у час разгляду іску Дзяржмаёмасці. Я ўжо да гэтага чуў сёе-тое пра АТ «Стары Менск», чуў рознае — і станоўчае, і не вельмі... Таму хацелася даведацца пра дзейнасць акцыянернага таварыства з першых вуснаў.

Ідэя паставіць справу захавання помнікаў на прыватныя рэйкі выспела тады, калі стала відавочна, што разлічваць толькі на дастатковыя дзяржаўныя субсідыі, — толькі марна траціць час, трэба выцягваць да адраджэння гістарычнай забудовы горада грошы інвестараў. 2 сакавіка 1992 года Мінгарвыканкам прымае рашэнне аб стварэнні акцыянернага таварыства адкрытага тыпу пад назвай «Стары Менск», асноўная мэта дзейнасці якога — аднаўленне, рэстаўрацыя, рэканструкцыя, рамонт і падрыхтоўка да эксплуатацыі раёнаў гістарычнай забудовы г. Мінска. Заснавальнікамі АТ сталі, акрамя Мінгарвыканкама, Галоўнае ўпраўленне рэстаўрацыі і кансервацыі помнікаў гісторыі і культуры пры Саўміне, «Белбізнесбанк», некалькі праектных і падрадных арганізацый. Дарэчы, Мінгарвыканкам у якасці свайго ўзносу ў статутны фонд акцыянернага таварыства прадаставіў яму права карыстання і здачы ў арэнду аб'ектаў Верхняга горада. Гэтая «аперацыя» тады была праведзена і з домам N 27 па вул. Гандлёвай, які быў здадзены ў арэнду Беларускаму фонду культуры.

Ідучы на сустрэчу з Уладзімірам Мікалаевічам Ваўковічам (адміністрацыя АТ месціцца ў адным з адноўленых будынкаў), я прайшоў ледзь ці не па ўсім Верхнім горадзе і быў, прызнаюся, уражаны ўбачаным — ці не большасць дамоў тут стаяла ў рыштаваннях, паўсюль чуваць быў віск цыркулярак, удары кавадлаў, гул аўтамашын — гукаў, якія суправаджаюць кожную будоўлю і якія, на жаль, сёння не часта пачуеш у Мінску. Здалёк вабіў новым бляшаным дахам і «злашчасны» дом на Гандлёвай. Потым Уладзімір Мікалаевіч раскажа мне, што ў яго рэстаўрацыю і падрыхтоўку да эксплуатацыі ўкладзены ўжо немалыя сродкі — давялося ўмацоўваць фундамент, бо выявілася, што дом гэты стаіць на нізінным, балоцістым грунце і пачаў даваць асадку. Ідуць поўным ходам і работы па ўнутранай перапланіроўцы будынка, дзе ўсё робіцца нанова, некранутымі застануцца толькі сцены і перакрыцці паміж паверхамі.

— Я не ведаю, для каго мы ўсё гэта робім, — гаварыў ён са скрухай, маючы на ўвазе іскавую заяву Дзяржмаёмасці.

А што суд, якая яго пазіцыя ў гэтай справе? Адбылося ўжо два пасяджэнні, і абодва — з нулявым вынікам. Наогул, праходзілі яны досыць дзіўна — выступалі ў асноўным прадстаўнікі адказчыка, выступалі з дакументамі ў руках і гаварылі, на мой погляд, досыць пераканаўча. Што датычыць прадстаўніка ісца, дык ён нібы набраў вады ў рот. Але, нягледзячы на гэта, суддзя В. Савіцкая, здаецца, схільна падтрымаць у гэтай маёмаснай спрэчцы іскавую заяву, якая, выкарыстоўваючы няпэўнасць, расплывістасць некаторых фармулёвак існуючага заканаўства, імкнецца дэзавуіраваць пагадненне паміж АТ «Стары Менск» і Беларускім фондам культуры.

Справа ў тым, што паводле Закона аб маёмасці, камунальнай (муніцыпальнай) уласнасцю маюць права распараджацца толькі мясцовыя ўлады, у дадзеным выпадку Мінгарвыканкам. І таму той жа спадар В. Кебіч, нягледзячы на сваю высокую пасаду, быў яму ў гэтай справе не ўказ. Разумее гэта і ісцец у асобе Дзяржмаёмасці, а таму праводзіць своеасаблівы абхадны манеўр, імкнучыся даказаць, што дом на Гандлёвай, як і ўвесь Верхні горад, з'ўляецца не камунальнай, а рэспубліканскай уласнасцю, на якую кампетэнцыя Мінгарвыканкама не распаўсюджваецца, і, такім чынам, распараджэнне прэм'ер-міністра мела законныя падставы. Асноўны аргумент ісца — усе аб'екты Верхняга горада — помнікі гісторыі і культуры рэспубліканскага значэння, а таму з'яўляюцца рэспубліканскай уласнасцю.

— Гэтае сцвярджэнне не вытрымлівае ніякай крытыкі, — гаварыў у гутарцы са мной юрыст Генадзь Кадыка, які прадстаўляў у судзе інтарэсы АТ «Стары Менск». — Па-першае, дом нумар 27 па Гандлёвай, а гэта былы жылы дом, не значыцца ў спісах помнікаў гісторыі і культуры рэспубліканскага значэння, а па-другое, калі б ён там і фігураваў, гэта б справы не мяняла, бо паводле Закона БССР ад 14 ліпеня 1978 года «Аб ахове і выкарыстанні помнікаў гісторыі і культуры», які дзейнічае і сёння, нідзе не гаворыцца, што статус нададзены таму ці іншаму помніку (агульнасаюзнага, рэспубліканскага або мясцовага значэння) вызначае і яго ўладальніка. Так што помнік можа быць рэспубліканскага значэння, а з'ўляцца камунальнай уласнасцю. Пра гэта ўскосна гаворыцца ў частцы першай артыкула 16 закона: «Помнікі гісторыі і культуры, незалежна ад таго, у чыёй уласнасці яны знаходзяцца, падлягаюць дзяржаўнаму ўліку».

Здаецца, усё тут зразумела. Тым не менш, суддзя і другое пасяджэнне завяршыла пытаннем — чыёй усё ж такі ўласнасцю з'яўляецца дом нумар 27 па вуліцы Гандлёвай? І рэзюмавала: «Абодва бакі не здолелі адказаць на гэтае пытанне, а таму яна вырашыла звярнуцца за растлумачэннем па гэтай справе ў Савет Міністраў».

Рашэнне досыць дзіўнае, калі ўлічыць, што Саўмін у дадзеным выпадку — зацікаўлены бок, бо яго міністэрства выступае ў гэтай справе ў якасці ісца. Так што можна лёгка прадугадаць, які будзе атрыманы адтуль адказ.

— Калі гэты злашчасны дом па Гандлёвай будзе ўсё-такі перададзены Беларускаму экзархату, — зазначыў пасля судовага пасяджэння Уладзімір Ваўковіч, — дзе гарантыя, што заўтра царква не «пакладзе вока» і на іншыя аб'екты Верхняга горада?

ЗАКРАНУЎШЫ такую тонкую і далікатную матэрыю, як стасункі дзяржавы і царквы, месца рэлігіі ў нашым грамадстве, дазволю сабе выказаць тут некалькі чыста асабістых меркаванняў.

Мяне, прызнацца, не перастаюць здзіўляць некаторыя праявы нашага саўковага менталітэту. Асабліва гэтыя шараханні грамадскай думкі з аднаго краю ў другі. Яшчэ, здаецца, учора мы былі краінай суцэльнага, «пагалоўнага» атэізму. Сёння многія ўчарашнія атэісты навыперадкі стараюцца засведчыць сваю веру ў Бога, павагу да царквы, якая, трэба аддаць ёй належнае, з вялікім уменнем і зайздроснай упартасцю памнажае шэрагі сваёй паствы (ужываючы слова «царква», я, вядома, не маю на ўвазе нейкую пэўную канфесію).

У адным з апошніх нумароў маскоўскай «Литературной газеты» маю ўвагу прыцягнула змешчаная ў адной з рэцэнзій цытата з кнігі вядомага расійскага рэлігіязнаўцы Льва Мітрохіна «Філасофія рэлігіі». Прыцягнула дакладнасцю думкі: «Принуждение к религиозной вере не менее отвратительно, чем засилие «госатеизма». Сёння ў газетах, электронных сродках масавай інфармацыі вы амаль не сустрэнеце матэрыялаў на атэістычныя тэмы, затое «зялёнае святло» тут заўсёды адкрыта рознага роду рэлігійным

(Працяг на стар. 14)

# «УЗДЫХ» ПРА БЕЛАРУСКУЮ МУЗЫКУ

**Без малога год «церабіў шлях» да Мінска апошні леташні нумар часопіса «Музыкальная академия» (колішняя назва «Советская музыка»). Да гэтага нумара, які затрымаўся ў друкарні, а потым — у рэдакцыі, у чаканні, пакуль з'явіцца аказія прывезці яго з Масквы да беларускіх аўтараў, — цікавасць наша асаблівая. Бо тут, пад рубрыкай «У краінах садружнасці», прадстаўлена падборка матэрыялаў з Беларусі. Публікацыі падрыхтавалі нашы маладыя музыказнаўцы Н. Бунцэвіч, Н. Сушкевіч ды Т. Ліхач, а таксама супрацоўніца рэдакцыі «Музыкальной академии» В. Бугрова, якая і арганізавала гэтую падборку, наведаўшыся ў Мінск падчас святкавання 60-годдзя Беларускай акадэміі музыкі.**

**«Фестываль новай беларускай музыкі: уздых адчаю і надзеі...» — пад такой назвай надрукаваны матэрыялы «круглага стала» па выніках кампазітарскай імпрэзы, што адбылася яшчэ ў канцы 1992 года. Такая вось аператыўнасць... Тым не менш, выказванні й меркаванні ўдзельнікаў абгаварэння — кампазітараў Г. Гарэлавай, В. Войціка, Л. Мурашкі, музыказнаўцаў Р. Аладавай, Н. Бунцэвіч, Т. Песнякевіч, Н. Калеснікавай — пачытаць цікава.**

**Прыцягвае ўвагу і гутарка з масцітым сімфаністам і кампазітарам-педагогам Д. Смольскім — «Калі ты кампазітар не з-за збегу акалічнасцяў». (Шкада толькі, што ў яе праніклі прыкрыя для нашых чытачоў недакладнасці: кампазітар А. Елісеенкаў двойчы названы «Елисеенко», З. Яўтуховіч — «Евтуховичем», а знаны твор Г. Гарэлавай «У год сусветнага пажару» — «В огне мирового пожара»).**

**Прачытаўшы інтэрв'ю А. Літвіноўскага «Творчасць правяраецца творчасцю», можна яшчэ і яшчэ раз пераканацца, што ў беларускую музыку прыйшоў рознабаковы, дапытлівы мастак і глыбокі арыгінальны чалавек. Праблемам Беларускай акадэміі музыкі, спадкаемцы кансерваторыі, прысвечана выступленне яе прарэктара В. Яканюка. І, нарэшце, дзве публікацыі т. зв. адраджэнскага кшталту: артыкул Т. Ліхач пра Сігізмунда Лауксміна, адметнага дзеяча езуіцкага ордэна ў ВКЛ XVII стагоддзя, і ягоную працу «Ars et praxis musica» ў асветніцкай традыцыі каталіцкіх ордэнаў, а таксама пераклад «Тэорыі і практыкі музыкі для моладзі, што навучаецца ў калегіях Таварыства Ісуса» С. Лауксміна.**

**Н. К.**

# АНДЭРСАН — ПА-ЗА СЕЗОНАМІ



**«Прынцэса на гарошыне» паводле Г.-Х. Андэрсана сталася апошняй прэм'ерай мінулага сезона ў Магілёўскім абласным тэатры лялек. Прэм'ерай, якую па-сапраўднаму разгледзець ды ацаніць ёсць магчымасць толькі ў сезоне сёлетнім. Пачаўшы яго ў верасні з тэатральнага свята «Лялька», тэатр лялек Магілёва ладзіць ужо і паказы «Прынцэсы на гарошыне», плёну супольных намаганняў рэжысёра (ён сам і аўтар інсцэніроўкі) Міколы Андрэева, кампазітара Авеніра Ванштэйна, мастака Леаніда Быкава, аднаго з самых вядомых у лялечным свеце: у свой час менавіта ён быў сярод заснавальнікаў Магілёўскага тэатра лялек. Задумы пастаноўшчыкаў увасабляюць Галіна Барысава, Наталля Віктарава, Наталля Суворава, Ганна Лазуціна, Мікалай Сцешыц і Уладзімір Тэвасян.**

**Дарэчы нагадаць, што амаль усе гэтыя акцёры заняты і ў спектаклі «Русалачка» паводле знакамітага дацкага казачніка ў пастаноўцы Алега Жугжды. Ведаючы планы апошняга, варта спадзявацца на адметны працяг: Андэрсан заўжды сучасны ды ўлюбёны...**

*На здымку: сцэна са спектакля «Русалачка» Х.-К. Андэрсана.*

*Фота А. ЖУГЖДЫ*

Пошта

# ЦІ Ў ТЫМ БАКУ ШУКАЕЦЕ?

Паслухаў я неяк паведамленне сп. Гайдукевіча аб тым, што ён і сп-рыня Машэрава атрымалі лісты з пагрозамі ад беларускіх фашыстаў. Назаўтра ж купіў выданне гэтага «народнага руху Беларусі», які арганізавалі і падтрымліваюць камуністы Беларусі — «Новую народную газету».

Каб добра ўявіць, што гэта за «рух» і чаму супраць яго нацыянальна свядомыя сілы, працытуем выказванне сакратара ЦК ПКБ С. Калякіна на VII пленуме ЦК гэтай партыі. Тав. Калякін сказаў наступнае: «...оно (НДБ. — **А. Б.**) получило мощную подпитку в лице четырех коллективных членов ПКБ, ДСПС, ЛКСМБ и Союза офицеров Беларуси.

Затем **с помощью партии и на ее базе** была создана разветвленная сеть организационных структур Народного движения в областях и районах.

Руководитель координационного комитета НДБ Гайдукевич С. В., используя успех ряда крупных политических мероприятий, в том числе и I Конгресса народа Беларуси, **которые организовали и проводили коммунисты**, сумел, не без нашей помощи, создать политическую рекламу **этой организации»** («Мы и время», N 53 за 24 жніўня 1994 г.).

Як бачым, адны і тыя ж спадары афіцэры «якобы» беларускага войска, адны і тыя ж таварышы Вазнякі, Чыкіны і інш. маюць магчымасць звяртацца да прэзідэнта і парламента Беларусі пяць разоў ад розных арганізацый, у якіх адны і тыя ж аўтары. Мо трэба было б спытаць у Міністэрства юстыцыі, ці не замнога галасоў яно дало адным і тым самым людзям? А да таго ж яшчэ і ветэранскія арганізацыі, дзе члены — зноў жа камуністы, яны ж члены ДСПС, НДБ і г. д. Так што, як бачым, трэску многа, а людзей мала, усё адны і тыя ж Чыкіны, Вазнякі, Качаны ды Сінчыліны.

Але давайце ўдумліва паглядзім, чым і як пагражаюць гэтым таварышам беларускія нацыяналісты і нават фашысты. Чытаем ксеракопію ліста фашыстаў «Правы Рэванш», змешчаную ў «Новай народнай газеце», N 31 за 23 жніўня 1994 г. Ужо ў звароце бачым словы «падла», «лярва», «хайло». Ці беларускія словы гэта? Ці нацыяналісты, названыя газетай нават фашыстамі, пісалі гэта? А мо гэта зроблена па чыімсьці заказе блатнымі, што ведаюць толькі лагерны сленг?

Газета выкарыстоўвае гэтую падзею для апытання прадстаўнікоў розных партый аб магчымасці ўзнікнення фашызму на Беларусі. І атрымлівае адыёзныя адказы, тыпу: «...и мы часто видим некоторых политиков и некоторые партии, проповедующие фашизм, национализм и **суверенитет**, который ничего хорошего не принесет, кроме раздора и гражданских войн» (Крывенка Васіль Фядотавіч, Ліберальна-дэмакратычная партыя).

Узнікае пытанне: а хто гэтую варожасць адзін да аднаго падбухторвае, тав. Крывенка? Ці не вы сваімі патрабаваннямі знішчыць суверэнітэт краіны?

А далей яшчэ больш адыёзнае, яшчэ больш бальшавіцкае патрабаванне таго ж таварыша Крывенкі: «По моему мнению, партии, исповедующие приоритет нации, должны быть запрещены президентским указом, во избежание кровопролития и гражданской войны».

Ці не знаёмыя словы? Ці не было гэтага 50 гадоў таму? Нацдэмы, здраднікі, памагатыя буржуазіі! Вельмі гэта знаёмае і выдае думкі і надзеі правакатараў, «зляпіўшых» гэты блін ад імя беларускіх нацыяналістаў.

А вось чым страшыць і што прапануе прадстаўнік так званага Славянскага сабору «Белая Русь»: «...Все эти явления и есть почва, на которой уже сейчас появляются первые всходы нацистских сорняков. **И если государство, президент не возьмется за прополку своего информационного огорода, то фашизм в Беларуси неизбежен».**

Як бачым, так званы Славянскі сабор паўтарае заклікі Леніна да знішчэння апазіцыйнай прэсы.

І зноў узнікае пытанне: а ці не для гэтага была арганізавана правакацыя з лістом, дзе мова як бы беларуская, але якой не карыстаюцца свядомыя беларусы? Многае сведчыць аб тым, што «пагрозы» Наталлі Машэравай пісалі не беларусы, хоць і напісана на беларускай мове.

Паўстае пытанне, а каму гэта выгадна?

Адказ адзін: правакацыя гэтая патрэбна тым сілам, якія спадзяюцца на падтрымку прэзідэнта ў барацьбе з рухамі нацыянальна свядомых беларусаў. Як вядома, дэпутат Лукашэнка быў удзельнікам так званага I Кангрэса народа Беларусі. Набліжаецца другі кангрэс гэтае арганізацыі, і для яе арганізатараў было б вельмі прэстыжна, каб у дзейнасці кангрэса прыняў удзел і падтрымаў яго рэзалюцыі не дэпутат Лукашэнка, а прэзідэнт Лукашэнка. А там, карыстаючыся яго маральнай падтрымкай, можна ад усіх пяці арганізацый адных і тых самых людзей патрабаваць не толькі адмены дзяржаўных сімвалаў, але і «прополки информационного огорода», і двухмоўя, і забароны партый і рухаў, якія на першы план ставяць інтарэсы нацыі.

Толькі розная адказнасць за лёсы дзяржавы ў дэпутата і прэзідэнта, таварышы! Калі ён хоча міру і спакою на зямлі беларускай, калі хоча зрабіць крокі да зніжэння варожасці ў грамадстве, ён павінен «прапалоць» той агарод, дзе зневажаюць нацыянальныя сімвалы дзяржавы Беларусь (гістарычныя сімвалы, а не надуманы флаг БССР), дзе дзяржаўную мову выкарыстоўваюць толькі для здзеку з яе!

Як вядома, вясною гэтага года камуністы ўжо чыталі ў парламенце «пагрозы», скіраваныя да іх з боку БНФ. Як вядома, лідэр БНФ Зянон Пазняк рашуча ад гэтых «пісулек» адмежаваўся і звярнуўся да Пракуратуры Беларусі з патрабаваннем расследавання гэтай правакацыі. Дзе вынікі расследавання, спадар Шаладонаў? Адсутнасць пакарання прывяла да новай правакацыі напярэдадні другога кангрэса НДБ і напярэдадні новых парламенцкіх выбараў.

Але вы выдалі сябе, паборнікі «праполкі» інфармацыйнай прасторы і адмовы ад суверэнітэту дзяржавы. Мне думаецца, да фашызму вядзе беспакаранасць выступленняў супраць нацыянальнай сімволікі і дзяржаўнай мовы, дзяржаўны нагляд за прэсай і іншымі сродкамі масавай інфармацыі, які ажыццяўляў «беспартыйны камуніст» Кебіч не без падказкі тых жа ДСПС, Сабора «Белая Русь» ды НДБ.

Так што пагроза фашызму ў Беларусі існуе. Толькі ці ў тым баку вы яе шукаеце, Наталля Пятроўна?

**Аляксандр БАХАНЧЫК**

*п. Гарадня*

# ДОМ НА ГАНДЛЁВАЙ, 27

*(Пачатак на стар. 13)*

прапаведнікам, царкоўным дзеячам, не кажучы ўжо пра шматгадзінныя трансляцыі з храмаў у час рэлігійных свят і царкоўных урачыстасцей.

Усё гэта стала своеасаблівай модай, як стала модай, скажам, запрашаць папоў асвячаць тэатры (помню абышоўшую многія выданні інфармацыю аб асвячэнні сцэны Мінскага тэатра аперэты, пасля чаго, відаць, аперэтачным «красоткам кабарэ» стала лягчэй задзіраць ногі ў канкане), школы, бальніцы і да т. п. Што гэта — праяўленне веры ў Бога, якая сышла да нас з нябёсаў? Але ж сапраўднай верай тут і не пахне. Усе гэтыя выверты — ад псіхалагічнай хісткасці, няўстойлівасці пэўнай часткі грамадства, страцай ім маральных арыенціраў. Ад бальшавікоў, бачыце, адплылі, а з якога боку сёння вецер надзімае ветразі гісторыі — зразумець многім цяжка.

Многія схільныя тлумачыць сённяшнюю грамадскую і палітычную актыўнасць царквы тым, што яна хоча ўзяць рэванш за дзесяцігоддзі здзекаў з яе пануючага таталітарнага рэжыму. Так, усё гэта было. Але ж вядома і іншае — людзі, што прагнуць рэваншу за нанесеныя ім крыўды, звычайна (і пра гэта сведчыць сусветны вопыт) не ведаюць, калі ім трэба спыніцца, дзе паставіць апошнюю кропку, каб з пакрыўджаных не ператварыцца ў крыўдзіцеляў.

Апошнім часам усе мы з'яўляемся сведкамі пастаянных скандалаў, якімі абарочваюцца патрабаванні канфесій вярнуць ім маёмасць, некалі нацыяналізаваную Савецкай уладай. Сцэнарыі, па якіх праводзяцца падобныя акцыі, не вызначаюцца асаблівай разнастайнасцю. Пасля афіцыйнай заявы з патрабаваннем вярнуць царкве тое ж культавае збудаванне каля яго пачынаюць праводзіцца шумныя маніфестацыі вернікаў, якія паралізуюць працу размешчаных тут устаноў. Мне расказваў дырэктар Белдзяржфілармоніі Уладзімір Пятровіч Ратабыльскі пра сапраўдную эпапею абароны канцэртнай залы філармоніі, размешчанай у былым касцёле Святой Троіцы, ад раз'юшанага натоўпу вернікаў, якія патрабавалі неадкладна «вымятацца» адсюль, абражалі слухачоў, што прыйшлі на канцэрт, а некалькі канцэртаў сарвалі, заглушаючы сваімі крыкамі выступленні артыстаў.

Цяпер, па словах У. Ратабыльскага, паміж філармоніяй і кіраўніцтвам каталіцкай царквы заключана своеасаблівае пагадненне выкарыстоўваць будынак па чарзе. «Але наўрад ці гэта надоўга задаволіць вернікаў, — са скрухай зазначыў дырэктар. — Яны, па ўсім відаць, не адмовіліся ад сваёй мэты стаць адзінымі гаспадарамі збудавання. А што тады будзе з намі?»

Так сталася, што пераважная большасць патрабаванняў аб вяртанні былой царкоўнай маёмасці ў першую чаргу закранае нашы ўстановы культуры, якія і без таго ніколі не былі спешчаны ўвагай дзяржавы. Мо таму многія з іх і былі размешчаны ў нацыяналізаваных культавых пабудовах — на гэтым улады дасягалі значнай эканоміі сродкаў. Вось і жывуць сёння многія нашы творчыя арганізацыі пад пагрозай у адзін «шчаслівы» дзень апынуцца на вуліцы — варта толькі духоўным уладам пачаць кампанію па вяртанні іх будынкаў царкве. Так было з Саюзам кінематаграфістаў рэспублікі, які ледзь не гвалтам быў прагнаны з Чырвонага касцёла, са спартыўным таварыствам «Спартак», якое вымушана было па патрабаванні вернікаў вызваліць будынак на плошчы Свабоды, таксама ў Мінску. У Гродне з дазволу былога старшыні аблвыканкама Арцімені проста на вуліцу былі выкінуты экспанаты музея гісторыі рэлігіі, які месціўся ў былой культавай пабудове. Пакуль што «адбіўся» ад дамаганняў экзархата вярнуць яму былы царкоўны будынак размешчаны тут «Дом акцёра». Падобны пералік можна доўжыць бясконца. І прыклады для яго знойдуцца ў многіх вялікіх і малых гарадах Беларусі.

Не будзем заводзіць тут дыскусіі аб тым, хто лепей сее ў народ «добрае, разумнае, вечнае» — «свецкія» літаратура, музыка, тэатр ці біблейскія запаведзі, вера ў Бога. Самае разумнае — не проціпастаўляць іх адзін аднаму. У рэшце рэшт, слова — духоўнасць, пакінутае на паперы пяром пісьменніка-гуманіста і прагучаўшае з царкоўнага амбону, слова азначае адно і тое ж. Тым большае неўразуменне выклікаюць царкоўныя ўлады, якія на словах дбаюць аб духоўным здароўі нацыі, а ў жыцці дэманструюць сваю пагарду да яе культурных здабыткаў, калі яны, вядома, не звязаны з верай.

І яшчэ пра адзін аспект гэтай няпростай праблемы. Як выявілася, справа аб перадачы Беларускаму экзархату будынка, які належыць Фонду культуры, ці не адзіная з падобных спраў, даведзеных да судовага разбіральніцтва. Ды і то, відаць, таму, што фармальна царква ў справе гэтай не фігуруе. Ва ўсіх астатніх выпадках патрабаванні царквы задавальняліся ўладамі, так сказаць, явачным парадкам, росчыркам чыноўнага пяра. Хто пры гэтым кіраваўся кан'юнктурнымі меркаваннямі, скажам, маючымі адбыцца выбарамі і жаданнем заручыцца галасамі вернікаў, хто з-за боязі ўвайсці ў канфлікт з царквой і трапіць з-за гэтага, барані Божа, на старонкі заходняй прэсы, бо ўсе ведаюць, якой падтрымкай сусветнай грамадскасці карыстаюцца зараз усе рэлігійныя канфесіі ў СНД. Не хвалявала гэтых кіраўнікоў толькі адно, — ці ў згодзе з законам яны дзейнічаюць.

Хаця, стоп, законаў, якія б рэгулявалі вяртанне царкоўнай (і не толькі) царкоўнай маёмасці, экспрапрыяванай бальшавікамі, яе былым гаспадарам, у нас няма. У адрозненне ад краін Балтыі, дзе такія законы прынятыя. Таксама інфармацыя для роздуму нашаму Вярхоўнаму Савету.

...Дом на Гандлёвай, 27. Звычайная будыніна, якіх было шмат на старой мінскай вуліцы. Гэтай было наканавана стаць эпіцэнтрам скандалу, што ўсчаўся не без «дапамогі» Беларускага экзархата. Падумаеш пра ўсё гэта і ўздыхнеш: дзе ж яна, спавядаемая ўсімі рэлігіямі пакорлівасць і цярпімасць?

**Міхась ЗАМСКІ**

Адгалоскі

# «ДЫРЭКТАР ЛІТАРАТУРЫ» І ЯГО ЗАСТУПНІКІ

У Нямеччыну, дзе я зараз працую, «Літаратура і мастацтва» даходзіць з перабоямі і таму толькі нядаўна пабачыў публікацыю Уладзіміра Казберука «І віна, і бяда...», прысвечаную асобе былога дырэктара акадэмічнага Інстытута літаратуры акадэміка АН БССР В. Барысенкі («ЛіМ», 1 красавіка 1994). Аўтар піша: «У мінулыя гады з'явіўся шэраг публікацый, у якіх без уліку канкрэтных абставін ацэньваліся чалавечыя якасці і навуковая дзейнасць былога дырэктара... Думаецца, настала пара спакойна, разважліва зірнуць на колішнія супярэчлівыя падзеі з адлегласці, з улікам усяго нашага вопыту і па часці абвінавачанняў, і па часці апраўданняў. Тут давядзецца агледзвацца на дзве даўнія публікацыі: на артыкул В. Каваленкі «Дзе віна, дзе бяда...» («ЛіМ», 1 верасня 1989) і разносна-пагромны адказ А. Лукашука «Дырэктар літаратуры» («Звязда», 26 верасня 1989).

Сэнс выступлення У. Казберука — абарона В. Барысенкі ад несправядлівых, на яго думку, абвінавачванняў у маіх даўніх публікацыях. Абарона незаслужана пакрыўджанага — святая справа. Чым, аднак, мяне моцна ўражваюць апаненты — вучоныя-літаратуразнаўцы, дык гэта нетаропкасцю, з якой выступаюць на баку ісціны. В. Каваленку спатрэбілася адзін год і адзін месяц, каб выказаць сваё меркаванне наконт маіх публікацый, У. Казберуку — ужо чатыры гады з паловай. Калі так пойдзе далей, дык працяг размовы будзе ў наступным тысячагоддзі.

Зрэшты, я ўпэўнены, што размова пра катаў і ахвяраў будзе ісці яшчэ доўга. Хаця б па адной прычыне: каты не панеслі ніякага пакарання, ахвяры дагэтуль застаюцца ахвярамі. Ведаю гэта па сваёй рабоце ў якасці сябра «Мартыролага Беларусі» і члена Камісіі пры Вярхоўным Савеце ў справах ахвяраў палітычных рэпрэсій. Існуючая ўлада абараняе былых катаў, бо ёй патрэбныя каты новыя. Стаўленне грамадства — апатыя і абыякавасць, дастаткова паглядзець на Курапаты, дзе дагэтуль няма не тое што помніка — простай агароджы, як гэта мае быць на могілках.

У сваім выступленні «з адлегласці» У. Казбярук, тым не менш, паўтарае старую аргументацыю В. Каваленкі: В. Барысенка паводзіў сябе ў 30-я гады, як і многія іншыя (вінаваты «агульны фон»), а потым, пасля XX з'езда ён перавыхаваўся і надалей быў сціплым і сумленным вучоным і арганізатарам навукі. Для пацвярджэння першага тэзіса прыводзіцца стос прозвішчаў беларускіх пісьменнікаў, якія, на думку У. Казберука, паводзілі сябе так, як В. Барысенка. «Не толькі прыемнае давялося б гаварыць пра Купалу з Коласам», — папярэджвае аб пагрозлівай небяспецы аўтар. Дык, можа, ужо час нашым вучоным адмовіцца ад звычкі гаварыць толькі прыемнае? І паспрабаваць перайсці да праўдзівага? Тады, дарэчы, ніводнаму сумленнаму і кампетэнтнаму даследчыку ў галаву не прыйдзе ставіць на адну дошку няштатнага супрацоўніка органаў, чые спецдопісы падшываліся ў следчую справу, і Купалу з Коласам, растаптаных з дапамогай «літаратуразнаўцаў ад НКВД». І не шкадаваць трэба, што акадэмічная «Гісторыя беларускай літаратуры», выдадзеная пад кіраўніцтвам В. Барысенкі, не ўдастоена Дзяржаўнай прэміі, а пісаць сапраўдную трагічную гісторыю беларускай літаратуры са скалечанымі і знявечанымі лёсамі яе лепшых творцаў. Дзякаваць Богу, такія даследаванні робяцца. Пра гэта сведчаць, дарэчы, і шмат якія публікацыі «ЛіМа». Але робяцца не ўсімі і не пра ўсіх.

В. Барысенка — зусім не «адзін з многіх іншых», на чым так акцэнтуюць увагу яго абаронцы (быццам гэты аргумент магічна здымае пытанне адказнасці). І справа не толькі ў тым, што асабістая творчая, навуковая спадчына наменклатурнага заіла блізкая да нуля, што не перашкодзіла яму атрымаць усе магчымыя званні і выгоды. Пасада дэкана літфакультэта Мінскага педінстытута (з 1932), а потым дырэктара Інстытута літаратуры АН БССР (з 1937 па 1973 гг.) надавала яго «крытычным» артыкулам сапраўды забойную сілу. Яго баяліся і ў яго вучыліся калегі па заплечным літаратуразнаўстве, яго «закрытыя рэцэнзіі» калечылі лёсы. Невыпадкова іменна яго выдзеліў з пагромнай каманды 30-х гадоў Уладзімір Конан у самай першай публікацыі аб сталіншчыне на Беларусі ў «Звяздзе» («Узяць з гісторыі агонь», 22 снежня 1987).

Пасля таго ў рэдакцыю прыйшоў сын адной з ахвяраў В. Барысенкі, У. Мазур, было апублікавана яго пісьмо «Помню высакароднасць, помню подласць» («Звязда», 27 сакавіка 1988). Бацька, Ігнат Мазур, аўтар чытанак для школьнікаў, пасля іх разгрому Барысенкам быў выключаны з партыі, хаваўся, быў арыштаваны і адпраўлены на расстрэл — выратаваў яго цуд.

У рэдакцыю з абвяржэннем звярнулася дачка Барысенкі, супрацоўніца Інстытута літаратуры. У выніку карпатлівай праверкі быў надрукаваны матэрыял «Закрытая рэцэнзія» («Звязда», 31 ліпеня 1988). У. Казбярук гэтую публікацыю не згадвае. Ці не таму, што яна юрыдычна доказна сведчыць аб асабістай канкрэтнай віне Барысенкі?

Прывяду яшчэ адзін дакумент з Нацыянальнага архіва, які ніколі не друкаваўся. «З вызначэння Судовай Калегіі па крымінальных справах Вярхоўнага Суду БССР па пратэсту пракуратуры на пастанову Асобай Нарады пры НКВД СССР ад 5.08.1939 г., па якой асуджаны Замоцін Іван Іванавіч, 1873 г. н., акадэмік АН БССР, член-карэспандэнт АН СССР, — на 8 год папраўча-працоўных лагераў.

У якасці доказу шкодніцкай дзейнасці Замоціна да справы былі далучаны рэцэнзіі на шэраг яго прац і акты Камісіі АН БССР, у якіх адзначалася, што навуковыя працы Замоціна прапагандуюць буржуазную ідэалогію, беларускі нацыяналізм і рускі вялікадзяржаўны шавінізм, што паводле свайго зместу гэтыя працы з'яўляюцца палітычна шкоднымі.

У працэсе дадатковай праверкі экспертная камісія дала заключэнне аб тым, што працы акадэміка Замоціна ўяўляюць несумненную навуковую каштоўнасць, а вывады Камісіі АН БССР і рэцэнзентаў у 1938 г. з'яўляюцца неабгрунтаванымі і няслушнымі.

Барысенка В. В., які ганьбаваў раней навуковыя працы Замоціна (і асабіста, і ў Камісіі АН БССР. — **Аўт.**), цяпер працуе дырэктарам Інстытута літаратуры і мастацтва АН БССР, у сваім водгуку аб Замоціне, напісаным у 1956 г., адзначае, што Замоціна ён ведаў на працягу 10 гадоў толькі са станоўчага боку».

Іван Іванавіч Замоцін загінуў у лагеры ў маі 1942-га. У «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі», першы том якой выйшаў у 1993, у артыкуле Л. С. Савік непасрэдны ўдзел Барысенкі ў знішчэнні людзей адлюстраваны наступным чынам: «У некаторых артыкулах і рэцэнзіях 1930-40-х гадоў аддаў даніну вульгарнаму сацыялагізму». (Дарэчы, цераспалосіца падыходаў у гэтым, несумненна, цікавым выданні такая, што міжволі думаеш, што час для праўдзівай гісторыі ўсё ж яшчэ не настаў — занадта блізкае мінулае ўчэпіста трымае шмат якіх аўтараў).

«Вучоны флюгер», як ахрысціў В. Барысенку ў сваёй вядомай эпіграме Сяргей Грахоўскі, у 50-я гады, ды і пазней, трымаўся строга па ветры. У публікацыі «Дырэктар літаратуры» прыводзяцца тлумачэнні дырэктара аб справе І. Мазура, датаваныя 1955 годам, калі той вымушана прызнаецца ў здзейсненым. Дарма ў іх шукаць намёк на пакаянне — усё тая ж спасылка на «агульны фон», якую зараз, нібы ваду ў ступе, таўкуць яго заступнікі. Я перапісваўся, сустракаўся з ахвярамі акадэміка, іх дзецьмі. Ні разу не пацікавіўся гэты, па вызначэнні У. Казберука, «сумленны, добразычлівы і спагадлівы» чалавек далейшым лёсам арыштаваных, а потым рэабілітаваных людзей, іх сем'яў. Як амаль нічога не зрабіў для вяртання ў літаратуру дзесяткаў імёнаў закатаваных у 30-я гады пісьменнікаў і іх твораў.

Не хачу паўтараць аргументацыю і факты, якія выкладзены ў маіх публікацыях 1987—89 гадоў. У Казбярук называе іх «разносна-пагромнымі». Хаця б у чыста філалагічных мэтах, дзеля правільнага ўжывання складаных прыметнікаў у будучым, раю шаноўнаму апаненту пачытаць В. Барысенку. Напрыклад, яго першую значную працу «Нацдэмаўская літаратуразнаўчая метадалогія М. Гарэцкага». Ці пасляваенныя выступленні «Шкодны дакумент (аб нацыяналістычных скажэннях у праграмах па беларускай літаратуры для ВНУ)», «Супраць нізкапаклонства перад буржуазнай культурай», «Супраць касмапалітызму ў літаратуразнаўстве». Гэтыя ды іншыя опусы можна знайсці ў акадэмічнай бібліятэцы — калі, канечне, заступнікі Барысенкі не ўзялі на ўзбраенне няўдалы вопыт Лукаша Бэндэ (у такім выпадку магу ахвяраваць некалькі сваіх копій).

Цішэй, на думку заступнікаў, трэба называць імёны памагатых катаў, больш «добразычліва» корпацца ў архівах, заплюшчыць вочы і закрыць вушы, каб не чуць раз'юшанага вою крытычнай зграі...

На шчасце, так думаюць не ўсе. Пасля публікацыі артыкула «Дырэктар літаратуры» з падтрымкай званілі многія, у тым ліку былыя падначаленыя Барысенкі — супрацоўнікі інстытута. Пазваніў і Фёдар Міхайлавіч Янкоўскі. Мы з ім не былі знаёмыя. Янкоўскі расказаў, як у 1938 годзе на сустрэчы са студэнтамі-завочнікамі Барысенку перадалі запіску з пытаннем пра Кузьму Чорнага — дзе ён, як, ці піша. Барысенка падняў запіску, абшарыў усю залу поглядам.

— Чорны — хай ён там счарнее, дзе ён чарнее...

Потым цэлая група, узгадваў Янкоўскі, шнырыла па інстытуце, шукала аўтара крамольнага пытання. Пашанцавала чалавеку, сярод мноства завочнікаў яго почырк не ўстанавілі. Ужо ў 80-х, калі ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» паводле прапановы Інстытута літаратуры спрабавалі перавыдаць творы Барысенкі, Янкоўскі, як член рэдкалегіі зборніка, рэзка выступіў супраць перавыдання. Праз два тыдні пасля нашай тэлефоннай размовы яго не стала...

Сведак амаль не засталося. Ці не гэтая акалічнасць сёння падштурхоўвае некаторых супрацоўнікаў Інстытута літаратуры абелагаць асобу акадэміка. Зразумелая настойлівасць дачкі(не забудземся толькі, што і ў ахвяраў былі дзеці). Можна вытлумачыць, зрэшты, і ўдзячнасць былых падначаленых, якім В. Барысенка асабіста не зрабіў нічога дрэннага, дапамагаў (будзем памятаць, аднак, што так склалася далёка не ва ўсіх). Немагчыма, і я пісаў пра гэта, амаль 40 гадоў узначальваць установу і не зрабіць нічога карыснага для людзей і для справы.

Але няўжо ж Барысенка мала быў аддзячаны за сваё служэнне — пасадай, кватэрамі, званнем акадэміка, элегантнымі фармулёўкамі ў энцыклапедыях, спакойным жыццём сваёй сям'і (калі адкінуць арыштаванага брата, ад якога адрокся, нават змяніў сваё прозвішча)?..

Аказваецца — мала. Аказваецца, трэба яшчэ нешта — добрую памяць.

І гэта самы галоўны і абнадзейваючы вывад з нашай шматгадовай палемікі. Ніхто не забароніць блізкім і знаёмым памятаць пра добрае, што было ў чалавеку. Але не ўдасца выкрасліць з людской памяці і зло, якое ён нёс і якое засталося беспакараным.

Не магу не пагадзіцца з думкай, якой пачынае свой артыкул У. Казбярук: «Балюча адбываецца ў нас працэс пераасэнсавання і пераацэнкі мінуўшчыны. І добра, калі бяруцца за гэтую справу людзі кампетэнтныя і сумленныя. А калі не хапае ці адной, ці другой якасці? Мы тады становімся сведкамі розных маніпуляцый». Далібог, сапраўды так. Асабліва, калі не хапае адразу абедзвюх згаданых якасцей.

**Аляксандр ЛУКАШУК**

*Мюнхен*




ЛіМ ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

Заснавальнікі:
Саюз пісьменнікаў Беларусі
і Міністэрства культуры і друку
Рэспублікі Беларусь

Выходзіць з 1932 года

*Газету рэдагавалі*

| | |
|---|---|
| *Х.Дунец* | *(1932–35)* |
| *І.Гурскі* | *(1935–41)* |
| *А.Куляшоў* | *(1945–46)* |
| *М.Горцаў* | *(1947–49)* |
| *П.Кавалёў* | *(1949–50)* |
| *В.Вітка* | *(1951–57)* |
| *М.Ткачоў* | *(1957–59)* |
| *Я.Шарахоўскі* | *(1959–61)* |
| *Н.Пашкевіч* | *(1961–69)* |
| *Л.Прокша* | *(1969–72)* |
| *Х.Жычка* | *(1972–76)* |
| *А.Асіпенка* | *(1976–80)* |
| *А.Жук* | *(1980–86)* |
| *А.Вярцінскі* | *(1986–90)* |

Галоўны рэдактар
Мікола ГІЛЬ

РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:
Святлана БЕРАСЦЕНЬ
Андрэй ГАНЧАРОЎ
*першы намеснік галоўнага рэдактара*
Юрась ЗАЛОСКА
Міхась ЗАМСКІ
Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ
Барыс ПЯТРОВІЧ
*намеснік галоўнага рэдактара*
Юрась СВІРКА

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220600, ГСП, Мінск,
вул. Захарава, 19

ТЭЛЕФОНЫ:
прыёмная рэдакцыі *332-461*
намеснікі галоўнага рэдактара *332-525, 331-985*
аддзелы:
публіцыстыкі *332-525*
пісьмаў і грамадскай думкі *331-985*
літаратурнага жыцця *332-462*
крытыкі і бібліяграфіі *332-204*
паэзіі і прозы *332-204*
музыкі *332-153*
тэатра, кіно і тэлебачання *332-153*
выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў *332-462*
навін *332-462*
мастацкага афармлення *332-204*
фотакарэспандэнт *332-462*
бухгалтэрыя *268-640*

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*

*Рукапісаў рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.*

Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра «ЛіМа»

Апаратныя сродкі і тэхнічная падтрымка — фірма «Дайнова»

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку". (г.Мінск, пр. Ф.Скарыны, 77)

Індэкс 63856. Наклад 11.194.
Нумар падпісаны 29.09.1994 г.

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

